Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4624) 22 ліпеня 2011 г.

У нумары:

**Розум і пачуцці: барацьба ці гармонія?**
*Пра інтэлектуальнасць айчыннай паэзіі развaжае Ірына Бажок*
4

**Шукаючы даўніну**
*Ля сцен Мірскага замка сабраліся рыцары*



7

**Невядомы папярэднік Бідструпа**
*Спадчына карыкатурыста Фёдара Выхадцава*




19

**Божай ласкі вам і міру**
*Знаёмімся з Беларуссю праваслаўнай*
20

**Збор Урублеўскіх у Літоўскай акадэміі навук**
*Лёс нашай спадчыны за мяжой*
22

# Са Случчыны зямной пачатак

Алесь МАРЦІНОВІЧ

**Анатоль Астрэйка, сто гадоў з дня нараджэння якога спаўняецца 24 ліпеня, — з тых паэтаў, пра каго можна пісаць асобную кнігу. Не толькі літаратуразнаўчую, а і такую, якая магла б папоўніць серыю “Жыццё знакамітых людзей Беларусі”. Праўда, калі мець на ўвазе розныя рэгаліі, то на гэтую бібліятэчку ён “не цягне”. Туды трапляюць тыя, хто быў ўдастоены звання народнага, а то і вышэй — стаў Героем Сацыялістычнай Працы. Ды, калі мець на ўвазе А. Астрэйку, не ва ўзнагародах справа. Хоць, будзем глядзець праўдзе ў вочы, ордэн Чырвонай Зоркі проста так не даваўся. Дый партызанскія медалі шмат што значаць. Ён жа сярод народных мсціўцаў быў свой.**

З’яўляючыся ў гады Вялікай Айчыннай вайны адказным сакратаром сатырычнай газеты-плаката “Раздавім фашысцкую гадзіну” (гэта з яе “вырас” добра вядомы сёння часопіс “Вожык”), А. Астрэйка двойчы — у 1942 і 1943 гадах — накіроўваўся на акупіраваную ворагам тэрыторыю Беларусі. Калі пісаў адзін з вядомых сваіх вершаў “Беларусь-партызанка”, то рабіў гэта, як кажуць, з натуры:

*Мы асфальтам*
*балота завём*
*І шасэйнай дарогай сцяжынку.*
*Два гады мы і косім і жнём,*
*Каб вялікія справіць дажынкі.*
*Аўтаматы нам служаць касой,*
*А сярпамі — гранаты, наганы.*
*Не расою — варожай крывёй*
*Акрапляюць зямлю партызаны.*

Пад гэтым творам пазначана: “1943. Міншчына”.

Тады паэт знаходзіўся сярод партызан Любаншчыны. У тым жа 1943 годзе сакратар Слуцкага падпольнага райкама партыі І. Канановіч і прапанаваў рэдакцыі газеты “Народны мсцівец” выдаць творы паэта, якія так палюбіліся лясным байцам, асобнай кнігай. За афармленне ўзяліся партызанскія мастакі Саша Бяляеў і Саша Залаты. З бярозавых чурбакоў яны выразалі загалоўныя літары і застаўкі да вершаў. Друкар Валодзя Канановіч, змяшаўшы сажу з ваксай, атрымаў фарбу не горшую за сапраўдную друкарскую. Для пераплёту знайшлі медны дрот. Паперу ж “пазычылі” ў фашыстаў у час аднаго з баёў. І. Канановіч напісаў прадмову.

Унікальную паэтычную кнігу “Слуцкі пояс” друкавалі цэлы месяц. Наклад яе і для сённяшняга часу немалы, а для часу ваеннага — дык проста ўнушальны: адна тысяча асобнікаў. Кніга хутка разышлася па партызанскіх атрадах, натхняючы паэтычным словам на барацьбу з ворагам. На сённяшні дзень захаваліся толькі лічаныя яе экзэмпляры, у тым ліку і ў фондах Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Тым не менш многія заўзятыя аматары кнігі маюць гэты зборнік у сваіх асабістых бібліятэках: у 1964 годзе “Слуцкі пояс” быў перавыдадзены выдавецтвам “Беларусь” і адразу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Яшчэ на першае, ваеннае, выданне звярнуў увагу ў сваім даследаванні “Савецкая літаратура” знакаміты французскі пісьменнік-камуніст Луі Арагон, а нашу рэспубліку ён назваў “партызанскай краінай”, “краінай песні”.



У папаўненні песенных багаццяў нашай краіны немалая роля належыць і самому А.Астрэйку, многія вершы якога пакладзеныя на музыку не толькі беларускімі, а і рускімі кампазітарамі. Аднак ні адна з гэтых песень не можа па сваёй папулярнасці параўнацца са знакамітым “Нёманам” — плён творчага супрацоўніцтва самога паэта і кампазітара, які з’яўляецца і аўтарам беларускага гімна, Нестара Сакалоўскага. У А. Астрэйкі ёсць два варыянты верша, які зацікавіў кампазітара. Першы так і называецца — “Нёман”, ён быў напісаны ў 1941 годзе, пад Волхавам. Другі, безыменны, “Трапечуцца белыя хвалі…”, нарадзіўся ў 1946-м у Гродне, калі краіна вярнулася да мірнага жыцця. З таго, другога, варыянта і радкі, што так хораша кладуцца на душу:

*О Нёман, і слава, і песня*
*Народа майго і зямлі!*
*Магілаю ворагу цеснай*
*Не раз твае хвалі былі.*

Упершыню песню “Нёман” выканаў знакаміты Мікалай Ворвулеў у лютым 1955 года ў Маскве, калі праходзіла Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры. Усіх адразу захапілі словы, якія так шчыра, задушэўна перадаюць любоў беларускага народа да сваёй галоўнай ракі. Многія вядомыя спевакі ўключалі і ўключаюць гэтую песню ў свой рэпертуар, а гэта лішні раз сведчыць пра яе вялікую прыцягальную сілу.

Таму і ўдалася гэтая песня, бо ў ёй — усё тое, што А. Астрэйка змалку прапускаў праз сваё сэрца. Будучы паэт нарадзіўся ў вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна, ля якой і працякае Нёман. Увогуле, рэдка ў каго знойдзеш столькі вершаў, матывы якіх падказаны любоўю да родных мясцін. Чытаеш іх і нібыта на самай справе праходзіш ваколіцамі Пясочнага, любуешся хараством прыроды. Тое, пра што расказвае паэт, — сапраўдны зямны рай:

*Уздзянка, Неманец, Лоша,*
*Вакол — мурожныя лугі…*
*Якая тут была раскоша,*
*Як смачна пахнулі стагі!*

*Дубы пад Церахам, палянкі*
*І Нізаўскі, Падцацкі бор,*
*Надзей юначых пагулянкі,*
*Для салаўёў такі прастор.*

Салаўіная песня і творчасць самога А. Астрэйкі. Канечне, у яго нямала і публіцыстычных вершаў, пісаў для дзяцей (асабліва знакамітая паэма “Прыгоды дзеда Міхеда”), паспяхова выступаў у галіне перакладу, але па складзе свайго таленту ён найперш лірык. У кожнай яго кнізе гучыць любоў і замілаванне роднай зямлёй, яе прыродай, з найвышэйшым лірычным уздымам апяваў паэт каханне. Свой родны кут ён любіў той асаблівай любоўю, якую не кожнаму ўдаецца і выказаць. Для таго, каб спасцігнуць увесь яе глыбокі сэнс, трэба быць паэтам.

Такім паэтам быў і А. Астрэйка. Яго творчасць мае адну істотную адметнасць. Родам ён быў з Капыльшчыны, але зямлю сваю — зямлю продкаў, багатую на многія важныя падзеі, — успрымаў у яе гістарычным разуменні: Случчына. “Зямная Случчына” — томік ягонага выбранага, які ў 1977 годзе папоўніў “Бібліятэку беларускай паэзіі”. І, канечне ж, красамоўнае сведчанне таму — назва кнігі і аднаго верша “Слуцкі пояс”. Аднак гэты пояс, які Случчына “з тысячы зор тчэ навосень”, адметны не толькі сваёй прыгажосцю: ён

*Млечным Шляхам*
*завецца здаўна*
*Гэты пояс,*
*што лёг цераз бор,*
*Што саткала мая старана*
*З маладых і не гаснучых зор.*

У гэтым поясе ёсць меса і зорцы Анатоля Астрэйкі.

## Пункцірам

У Віцебску адбылася рабочая сустрэча Міністра культуры Беларусі Паўла Латушкі з Міністрам культуры Расіі Аляксандрам Аўдзеевым. Размова ішла пра магчымасць стварэння сумесных кінапраектаў, запрашэння вядучых расійскіх кінематаграфістаў на Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад", арганізацыю гастроляў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Томску і аказанне падтрымкі ў правядзенні Пасхальнага фестывалю Валерыя Гергіева ў Беларусі, а таксама пра стажыроўку ў Расіі беларускіх студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ сферы культуры.

Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі стартуе ў Маладзечне напярэдадні рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2011". Ён будзе прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Мулявіна. У плане фестывалю — канцэрты эстраднай, акадэмічнай, народнай, джазавай музыкі, шэраг мерапрыемстваў з удзелам вядомых беларускіх паэтаў.

Новы будынак Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрыецца ў Мінску да 9 мая 2014 года. Будаўніцтва пачалося ў красавіку 2010 года. У гэтым годзе плануецца цалкам завяршыць узвядзенне будынка. Ён будзе мець чатыры экспазіцыйныя залы — па адной на кожны год вайны, іх увянчае купал з агляднай пляцоўкай. Экспазіцыя музея знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі.

Нашчадкі мастака Ільі Рэпіна з Францыі ўпершыню наведалі яго сядзібу ў Здраўнёве (Віцебская вобласць), дзе цяпер знаходзіцца мемарыяльны музей. У Беларусь прыехалі дзеці ўнучкі Рэпіна Таццяны Дзяканавай, якая ў пачатку 1930-х гадоў выехала з сям'ёй за мяжу. Сярод нашчадкаў вядатнага мастака ёсць інжынеры, настаўнікі, кансультанты па фінансах, але няма ніводнага мастака.

X Міжнародны пленэр па кераміцы "ART-Жыжаль" стартаваў у Магілёўскай вобласці. Галоўная тэма сёлетняга пленэру — "Кераміка ў архітэктурнай прасторы". У свяце прымаюць удзел 23 мастакі-керамісты з 10 краін. Выніковая выстаўка адкрыецца 8 жніўня ў Бабруйскім мастацкім музеі імя Георгія Паплаўскага.

Урачыстая цырымонія адкрыцця Дзіцячай філармоніі адбудзецца ў Мінску 10 верасня ў межах праграмы Дня горада. У гэты дзень прагучыць першы канцэрт камернай музыкі, у якім прыме ўдзел адораная творчая моладзь.

II Міжрэгіянальнае музычна-спартыўнае свята "Вялікая бард-рыбалка" пройдзе ў аграсядзібе "Пясчаны бераг" у Быхаўскім раёне 5—7 жніўня. У плане свята — конкурс аўтарскай песні, рыбалоўны турнір на прызы за самы буйны трафей і конкурс на лепшае прыгатаванне юшкі. На свята прыедуць і дадуць свае канцэрты вядомыя барды Барыс і Галіна Вайханскія, Віктар Шалкевіч, Алесь Камоцкі і іншыя.

**Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

# Памяці таварыша



18 ліпеня на 65-м годзе жыцця пайшоў у далёкі і вечны свет вядомы журналіст, паэт, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік Мінскай абласной арганізацыі СПБ Рыгор Сакалоўскі. За плячыма колішняга палтаўскага падлетка – доўгія гады напружанай творчай працы. Закончыўшы ў 1971 годзе аддзяленне журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ, выступіўшы з першымі вершамі ў курсанцкіх часопісе "Атака" і газеце "Политработник", ён надоўга звязаў свой лёс з арміяй. У складзе рэдакцыі салдацкай шматтыражкі віцебскіх дэсантнікаў выконваў інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане. З тае пары яго любяць і паважаюць многія пабрацімы па гарачым афганскім часе, проста воіны-"афганцы", якія пазнаёміліся з палкоўнікам Сакалоўскім шмат пазней. Бальшыня яго жыццёвых дарог звязана з Беларуссю, Віцебшчынай, якую ён асабліва ўшанаваў у сваіх паэтычных творах.

Асобная старонка біяграфіі настойлівага аратага газетнага цэху — кіраванне рэдакцыяй "Во славу Родины", цяпер вядомай як "Белорусская военная газета". Менавіта з яго прыходам у газету, а яшчэ болей — з тае пары, як ён стаў галоўным рэдактарам, на старонках выдання часта пачалі з'яўляцца творы беларускіх пісьменнікаў, "Во славу Родины" выявіла сябе надзвычай уважлівым да беларускай культуры, літаратуры выданнем. Невыпадкова галоўны рэдактар і паэт, аўтар тэкстаў многіх песень, публіцыст — суразмоўца кампазітараў, артыстаў, пісьменнікаў — стаў заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь. А назвы яго паэтычных зборнікаў — "Зоры і сэрца", "Афганскае рэха" — гавораць пра тое, што ў яго творчых росшуках паядналіся паэзія і высокія ідэалы воінскага абавязку.

Зняўшы ваенную форму, выйшаўшы ў запас, Рыгор Васільевіч працаваў першым намеснікам старшыні Беларускага Саюза журналістаў, а ў 2005 годзе ўзначаліў яшчэ і Мінскую абласную арганізацыю Саюза пісьменнікаў Беларусі. Адна за адной выходзілі паэтычныя кнігі, часта з'яўляліся публікацыі ў літаратурна-мастацкіх выданнях. Творчай, жыццёвай энергіі, здавалася, хопіць у яго на доўгія і доўгія гады. Да паэтычнай работы дадавалася журналісцкая. Час і сілы ішлі і на грамадскія клопаты. Не толькі ў журналісцкай і пісьменніцкай творчых арганізацыях. Ініцыятывы хапала і на ўдзел у рабоце таварыства "Веды". Рыгор Васільевіч часта ездзіў па рэспубліцы. З ім добра знаёмыя мясцовыя журналісты, клопаты якіх яму былі добра зразумелыя.

Апошняя з выдадзеных пры жыцці кніг Рыгора Сакалоўскага называецца "Доверяючы адно пачуццю". Ён пакінуў пасля сябе шмат вершаў лірычнага характару, любяў іх чытаць у самых розных аўдыторыях. І надалей гэтыя творы будуць гучаць як запавет — заклік да актыўнага, мэтанакіраванага, дзейснага жыцця.

**Прэзідыум Саюза
пісьменнікаў Беларусі**

# Не дачакаўся свайго верасня…

Ёсць у Рыгора Сакалоўскага адзін безыменны верш, радкі якога цяпер, калі настала гэтая журботная часіна, успрымаюцца інакш, не так, як пры жыцці паэта — светла, жыццярадасна, а кладуцца на душу і пэўнай журботнасцю:

*Я заплываю в свой сентябрь,*
*Где зори, словно бусы,*
*Еще осины шелестят,*
*А в поднебесье гуси.*

Ягоны верасень — гэта дзень і яго нараджэння. 2 верасня Рыгор Васільевіч адсвяткаваў бы сваё 65-годдзе. Повязь паміж сённяшнім і будучым у яго абарвалася нечакана. Да крыўднага нечакана. У такіх выпадках звычайна кажуць: лёгкая смерць. Гэта мы, жывыя, кажам. Літаральна за дзень да раптоўнай Грышавай смерці прачытаў у інтэрв'ю Аляксандра Градскага прызнанне ў тым, што ён хацеў бы сабе менавіта такой смерці: быў і няма. Казаць, канечне, лёгка, а паміраць…

Ніяк не магу адарвацца ад згаданага верша. Па-ранейшаму я з паэтам там,

*Где тополя в тиши грустят,*
*Что отчий дом покинул…*

І разам з ім паўтараю:

*Я заплываю в свой сентябрь —*
*Клюют дрозды рябину…*

"А в поднебесье гуси"... Міжволі ўсплываюць у памяці і знакамітыя "Журавы" Расула Гамзатава. Адзін з прамежкаў у іхнім кліне займаць і Р. Сакалоўскаму — цудоўнаму паэту, сумленнаму чалавеку, надзейнаму таварышу.

Ягоны верасень ужо заўсёды будзе без яго. Аднак ягоны верасень будзе заўсёды з намі. Да таго часу, пакуль мы будзем памятаць Рыгора Васільевіча. У сэрцах жа тых, хто ведаў яго добра і хто з ім сябраваў, ягоны воблік застанецца назаўсёды. У свядомасць жа чытачоў Р. Сакалоўскі будзе прыходзіць пастаянна, калі яны далучацца да ягоных кніг, у якіх "паэзія — госця нябесная" адчувае сябе гэтак утульна і хораша.

Хай пухам будзе табе, Грыша, родная зямля.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю намесніка старшыні Беларускага саюза журналістаў, старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэта Рыгора Васільевіча САКАЛОЎСКАГА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Віцебскія творцы — у Смаленску

**Тое, што сучасная беларуская літаратура даўно ўжо выйшла на ўзровень сусветнай, ні ў кога не выклікае сумненняў. Не толькі кнігі нашых аўтараў чытаюцца і перавыдаюцца за мяжой, але і самі аўтары ўсё часцей запрашаюцца да ўдзелу ў замежных і міжнародных форумах. Адно з найбольш актыўных пісьменніцкіх падраздзяленняў — Віцебская абласная арганізацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі. Зусім нядаўна дэлегацыя віцебскіх літаратараў на чале са старшынёй, паэтам Тамарай Красновай-Гусачэнкай, у якасці гасцей прыняла ўдзел у працы пленума Саюза пісьменнікаў Расіі ў Смаленску. Расійскім літаратарам было цікава даведацца пра работу сваіх калег у Беларусі. Выступленне Тамары Красновай-Гусачэнкі на пленуме мы друкуем з нязначнымі скарачэннямі.**

Дзяржаўная палітыка Беларусі і нашага Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі нязменная ў адносінах да мовы — і руская мова з'яўляецца дзяржаўнай у Беларусі. Гэта практычна пацвярджае імкненне да адзінства двзюх саюзных дзяржаў, бо толькі саборнасць і адзінства, галоўным чынам патрыятычных сіл, могуць супрацьстаяць экстрэмісцкім праявам і агрэсіўнай экспансіі нашых ворагаў.

Саюзная палітыка праяўляецца з боку Беларусі пастаянна і ў канкрэтных дзеяннях і кроках. Пяць гадоў таму ў традыцыях пачынальнікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа быў адноўлены Саюз пісьменнікаў Беларусі, які ўзначаліў вядомы празаік, палітык, грамадскі дзеяч, навуковец, чалавек шматгранных здольнасцей, уключаны за свае дасягненні ў Кнігу рэкордаў Гінэса, Мікалай Чаргінец.

Дэлегацыя віцяблян сёння тут, каб адкрыць новую старонку ва ўмацаванні міжнародных сувязяў беларускіх літаратараў і сродкаў масавай інфармацыі з суседзямі блізкага замежжа. Прэзідыумам Саюза пісьменнікаў Беларусі мне даручана перадаць усім удзельнікам літаратурнага фестывалю на Смаленскай зямлі, сабраным тут з усёй постсавецкай прасторы работнікам літаратурнага цэху, палымянае пісьменніцкае прывітанне ад беларускіх літаратараў.

Сёння нас ужо каля 600 у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, і шмат хто піша на рускай мове. Сярод выдадзеных за гэтыя шэсць гадоў 1020 кніг — больш як палова на рускай мове. Буду шчырай, гэта выклікае ў нас пэўную заклапочанасць. Саюз пісьменнікаў Беларусі ўсяляк стараецца падтрымліваць кнігі і публікацыі, напісаныя на беларускай мове — мы абавязаныя ствараць умовы для яе развіцця і ўмацавання. Тым не менш, у Саюзе пісьменнікаў не дзеляць на "сваіх" і "чужых" па моўнай прыкмеце. Галоўнае — талент, якасць твора. Так што раздзьмутая літаратарамі-экстрэмістамі інфармацыя пра тое, што ў Беларусі праследуюцца пісьменнікі, якія пішуць па-руску, — мана…

Ва ўсіх праблемах, якія можна рэальна і практычна вырашыць магчымасцямі такой важнай і значнай грамадскай арганізацыі, як Саюз пісьменнікаў, мы нястомна імкнёмся да кансалідацыі. Менавіта саюзы пісьменнікаў Беларусі і Расіі сталі два гады таму ініцыятарамі, а Беларусь і арганізатарам правядзення ўстаноўчага З'езду Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, які прайшоў у снежні 2009 года ў Мінску…

Менавіта ў Мінску ўтвораны друкаваны орган — літаратурна-мастацкі часопіс Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы "Белая Вежа", галоўны рэдактар — пісьменнік Васіль Шырко. Актыўны ўдзел прымаюць у фарміраванні творчага партфеля, у прыватнасці, бранскія і арлоўскія пісьменнікі. Намі падрыхтавана больш як 20 падборак іх вершаў для часопіса. Хацелася б большай актыўнасці і з іншых рэгіёнаў. Калі ласка! Дасылайце матэрыялы.

Асобна словы ўдзячнасці беларускія пісьменнікі прасілі перадаць часопісу "Наш современник", з якім сумесны праект выпуску 12-га нумара кожнага года стаў традыцыяй з пятнаццацігадовым стажам. Ніякае іншае выданне на постсавецкай прасторы не зрабіла так шмат для развіцця і падтрымкі беларускай літаратуры і літаратараў на сучасным этапе, як часопіс "Наш современник", які ўзначальвае таленавіты, выдатны паэт, празаік, бліскучы публіцыст Станіслаў Юр'евіч Куняеў. Ваш часопіс аб'ядноўвае нас.

Нам няма чаго дзяліць, а ёсць што абараняць і любіць — нашу родную, прыгожую зямлю. Глядзіце, ***аист*** робіць некалькі ўзмахаў крыламі, і, прылятаючы са Смаленска ў Лёзна ці ў Оршу, становіцца ***буслом***, а з Гомеля ў Чарнігаў — ***лелекой.*** І як жа ладна, як зразумела ўсё гэта гучыць! АИСТ! БУСЕЛ! ЛЕЛЕКА! І няхай кожны чалавек Зямлі размаўляе на сваёй мове, любай і дарагой яго сэрцу! У гэтым — галоўная мэта нашага яднання: у захаванні і прымнажэнні каштоўнасцей, а не ў знішчэнні і скажэнні гісторыі.

Літабсягі

# Нельга забыць!

**У мястэчку Ракаў Валожынскага раёна Мінскай вобласці на сядзібе сям'і Рагойшаў была адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная класіку беларускай літаратуры Уладзіміру Караткевічу.**

**Дар'я КАСКО,**
**фота Віктара Шніпа**

Уладзімір Сямёнавіч часта гасцяваў у гэтай хаце, тут задумваў новыя творы, гуляў на вяселлі сябра, тут жа прадставіў таварышам і сваю будучую жонку Валянціну. Сёння ў тутэйшым музеі, які стварыў беларускі літаратуразнаўца, крытык і перакладчык прафесар Вячаслаў Рагойша, можна пабачыць фотаздымкі "невядомага" Караткевіча — такога, якім ён быў толькі з самымі блізкімі. А найлепшым знаўцам творчасці пісьменніка гаспадар можа дазволіць прысесці на яго канапу, якая таксама знаходзіцца ў хаце-музеі.

Тут сапраўды ўзнікае адчуванне, што Уладзімір Сямёнавіч вось-вось з'явіцца ў дзвярах. А пакуль можна паглядзець на фотаздымкі цесця гаспадара — славутага ўкраінскага опернага спевака, пачытаць на сценах прысвячэнні ў гонар сям'і Рагойшаў і іх утульнага дому. А гаспадар, хітравата ўсміхаючыся, распавядзе чарговую показку пра свайго даўняга сябрука, а то і пачастуе "караткевічаўкай" — напоем, якога не цураўся некалі сам Уладзімір Сямёнавіч.

На свята не прынята прыходзіць з пустымі рукамі — вось і старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп прэзентаваў музею выданне "Дзікага палявання караля Стаха" на чатырох мовах: беларускай, рускай, украінскай і англійскай. Свае подпісы на ім пакінулі госці і тыя, дзякуючы каму гэтая кніга пабачыла свет, — арганізатары і рэдактары: сам Уладзімір Аляксандравіч, Анатоль Бутэвіч, Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп і іншыя.



Пра ўсталяванне памятнай дошкі ў гонар Караткевіча Вячаслаў Рагойша рупіўся даўно, мясцовыя ўлады падтрымалі ініцыятыву слыннага земляка. Зрабіў гэты мемарыяльны знак народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Іван Міско. А адкрыццё яго стала святам для ўсяго Ракава: мясцовыя жыхары сабраліся, каб паслухаць сяброў і паслядоўнікаў Уладзіміра Караткевіча, успаміны яго пляменніцы, а таксама выступленні ракаўскіх фальклорных калектываў, сярод якіх быў і лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, заслужаны калектыў "Гасцінец" Ракаўскага Цэнтра культуры і вольнага часу.

***На здымку: прафесар Вячаслаў Рагойша, скульптар Іван Міско, старшыня Ракаўскага сельсавета Аляксандр Мякінка ля сядзібы.***

Артлінія

# Усе ролі… галоўныя

**Сёння Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага запрашае на другі дзень прэм'еры спектакля "Леў узімку" паводле п'есы Джэймса Голдмана, уладальніка прэміі "Оскар". Напярэдадні адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам некаторых творцаў, якія спрычыніліся да яе здзяйснення.**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

Кампазітар Аляксей Ераньказ адзначыў, што дадзены матэрыял яго зацікавіў тым, што персанажы п'есы не выдуманыя, яны былі рэальнымі людзьмі. Музыка напісана арыгінальная, а не як зазвычай якая-небудзь падборка. Тканіна п'есы дазваляе разгарнуцца акадэмічна: хор, сімфанізмы, ужыванне сучасных гукаў і музыкі, магутны фонавы рад, каб узмацніць уражанні.

Адна з выканальніц галоўных дзейных асоб народная артыстка Беларусі Бэла Масумян падкрэсліла, што сярод сыграных ёю роляў падобных гераінь не было: трэба кантраляваць і спалучаць погляд, рух, рэакцыю, выстройваць вельмі складаны характар, у якім спалучаныя пяшчота, лютасць, здрада, інтрыгі. На думку Бэлы Амаўны, гэта адна з лепшых п'ес свету, якая прасякнута асноўнай тэмай — тэмай любові.

"Дадзены спектакль паўстае адмысловым падарункам для мастака, дзе шмат фактуры: складаныя касцюмы, няпростыя дэкарацыі", — зазначыла мастак-пастаноўшчык Ала Сарокіна.

Для рэжысёра-пастаноўшчыка Валянціны Ераньковай стаяла задача надаць дынамікі спектаклю. Тут няма другарадных роляў, усе яны галоўныя, дапаўняюць адна адну, дапамагаюць раскрыць псіхалагізм, характары герояў. Дзея складаецца з дванаццаці эпізодаў, кожны з якіх у пэўнай ступені паўстае асобным спектаклем. Да таго ж, гістарычную драму цяпер складана ставіць, у афішах у бальшыні выпадкаў бачыш розныя камедыі, забаўлянкі.

А яшчэ да спектакля спрычыніліся мастак па касцюмах Таццяна Лісавенка і балетмайстар Яўген Карняг. У пастаноўцы, акрамя ўзгаданай народнай артысткі нашай краіны Бэлы Масумян, ролі выконваюць такія акцёры, як заслужаны артыст Беларусі Іван Мацкевіч, Руслан Чарнецкі, Сяргей Чакерэс, Сяргей Жбанкоў, Вераніка Пляшкевіч, Алёна Козырава, Андрэй Крывецкі і інш.



Як пазначаны спектакль у афішы — гэта гісторыя кахання даўжынёю ў жыццё. "Леў узімку" прымеркаваны да юбілею творчай дзейнасці Бэлы Масумян: на працягу 50 гадоў актрыса сыграла больш як 100 роляў на сцэне НАДТ імя М. Горкага.

Дзеянне спектакля адбываецца ў 1183 годзе. Падчас Калядаў кароль Англіі Генры II на схіле жыцця павінен назваць імя спадкаемцы трона. На гэтую ўрачыстасць з'язджаюцца жонка Генры II Элінор Аквітанская, якая правіла 10 год у зняволенні за ўдзел у змове супраць мужа, маладая палюбоўніца караля, французская прынцэса Эліс, яе брат, кароль Францыі Філіп II Аўгуст, і тры сыны Генры II — Рычард Львінае Сэрца, Джэфры і Джон. А што адбылося далей — калі ласка, у тэатр.

***На здымку: Бэла Масумян.***

Повязі

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота аўтара**

# Мост паміж кантынентамі

**Цэнтр міжкультурнага дыялогу пры падтрымцы Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь з удзелам Міжнароднага фонду "Залатая спадчына Віцебска" і Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі распачалі рэалізацыю міжнароднага праекта "Беларуска-амерыканскі культурны дыялог: стратэгія развіцця".**

Сабраўшы з гэтай нагоды журналістаў на прэс-канферэнцыю, генеральны дырэктар Цэнтра міжкультурнага дыялогу Любоў Уладыкоўская патлумачыла: "Культурны дыялог паміж Беларуссю і ЗША з'яўляецца неабходнасцю часу. Мы шмат кажам сёння пра эканамічнае партнёрства нашых краін. Але для ўдалага ўзаемадзеяння вельмі важна ўзаемаразуменне".

Беларусам належыць адкрыць для сябе сапраўдную высокацывілізаваную, высокадухоўную Амерыку, адарваўшыся ад стэрэатыпаў, якія навязаныя нам тымі, хто заахвочаны прасоўваць на беларускі рынак нізкаякасную кінавідэапрадукцыю ЗША і "знаёміць" беларускую публіку з далёка не лепшымі ўзорамі амерыканскай музычнай культуры. Амерыканцам жа час даведацца, што Беларусь — гэта самастойная суверэнная дзяржава з вялікай культурай, што беларусы — самабытны народ, сфарміраваны ў глыбокай старажытнасці, і маюць яны надзвычай багатую гісторыю.

Праект стартаваў у пачатку ліпеня. Першым яго этапам з'яўляецца правядзенне адкрытага літаратурна-мастацкага конкурсу "Амерыканская культура: якая яна?" Для асвятлення абраных дзве тэмы: "Прыцягальнасць амерыканскай культуры" і "Беларускія акцэнты ў амерыканскай культуры". На конкурс прымаюцца літаратурныя творы ў жанрах "эсэ" і "верш", а таксама мастацкія творы ў жанрах "малюнак", "мастацкі фотаздымак". Па выніках конкурсу будзе арганізавана выстаўка лепшых мастацкіх работ і выдадзены зборнік лепшых літаратурных твораў.

Паралельна плануецца правесці тры навуковыя канферэнцыі: у Гродне, Віцебску і Мінску, далучыўшы да ўдзелу ў іх лепшых прадстаўнікоў айчыннай навукі.

— На пасяджэнні Міжнароднага каардынацыйнага Савета па дадзеным праекце мы спрачаліся наконт мовы напісання конкурсных твораў, — сказала журналістам Любоў Уладыкоўская. — Але ўрэшце вырашылі, што трэба зрабіць мовай конкурсу толькі беларускую, бо гэта гістарычна мова тытульнай нацыі нашай краіны. А ўдзел у конкурсе могуць прыняць не толькі грамадзяне Беларусі — нашых землякоў шмат і ў іншых краінах. Мы б хацелі прадставіць праект як мага шырэй. Матэрыялы на конкурс будуць прымацца да 31 снежня 2011.



***На здымку: Любоў Уладыкоўская расказвае журналістам пра міжнародны праект.***

З-пад пяра

У Пастаўскай цэнтральнай бібліятэцы адбылася сустрэча з галоўным рэдактарам альманаха "Вожык", пісьменніцай Юліяй Зарэцкай. Супрацоўнікі раённай і сельскіх бібліятэк Пастаўскага раёна з цеплынёй сустрэлі сваю зямлячку. Прайшла прэзентацыя кнігі сатыры і гумару Ю. Зарэцкай "Шчаслівыя людзі", што выйшла ў выдавецтве "Літаратура і Мастацтва". Юлія Францаўна расказала пра гісторыю стварэння кнігі, адказала на шматлікія пытанні чытачоў і бібліятэкараў, а таксама пажадала кожнаму прысутнаму быць "Шчаслівым чалавекам".

**Юрый ВЯРБІЦКІ**

Ужо дзясяты год на берасцейскай зямлі праходзяць літаратурныя шведска-беларускія чытанні. Гэтым разам у межах мерапрыемства, у якім прынялі ўдзел вядомыя шведскія літаратары Катарына Фростэнсан, Ульф Старк і Ула Лашму, адбыўся таксама конкурс маладзёжнай паэзіі "За здаровы лад жыцця". Пераможцам стаў пятнаццацігадовы Ігар Ніжнік з Кобрына — ён узнагароджаны паездкай у Швецыю. "Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё, якое яму даў Бог", — такія словы прагучалі на імпрэзе. І ў абарону гэтага жыцця чыталіся вершы, што заклікалі моладзь займацца спортам, адмовіцца ад цыгарэт, алкаголю, наркотыкаў, дашлюбных сувязяў і суіцыду.

**Наталля КАНДРАШУК**

Багародзіца прыйшла ў Маладзечна, каб раскінуць свае Пакровы над горадам, абраным сталіцай "Дажынак-2011". Пятнаццаціметровая бронзавая стэла з выявай Багародзіцы ўсталявана на ўездзе ў Маладзечна з боку Мінска. Яе выканалі скульптар Аляксандр Фінскі і архітэктар Армен Сардараў. Выява Дзевы Марыі здаўна ўпрыгожвае герб горада. Але скульптура — гэта не проста згадка пра герб. Сэнс Пакровы ў праваслаўнай традыцыі заўжды тлумачыцца як абарона. Цяпер Царыца Нябесная будзе дарыць сваё асабістае заступніцтва кожнаму, хто вырашыць завітаць у Маладзечна.

**Аляксей ГАРБУНОЎ**

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны рыхтуе цікавую і даволі настальгічную выстаўку "Вялікі перапынак", прысвечаную жыццю савецкіх школьнікаў. Мадэлі школьнай формы для хлопчыкаў і дзяўчынак розных перыядаў савецкай эпохі, партфелі і ранцы, буквары і прапісі — усё гэта будзе прадстаўлена на ёй. Як кавалак светлага і добрага мінулага — школьныя фотаздымкі тых часоў і піянерская атрыбутыка. Усе экспанаты прадаставілі арганізатарам выстаўкі мінчане, у мінулым — акцябраты, піянеры, "пяцёрачнікі", "харашысты", актывісты, а, можа, нават і нефармальныя класныя лідары — выпускнікі савецкіх школ. Адкрыццё выстаўкі прымеркавана да пачатку новага навучальнага года.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

Пры капанні катлавана пад фундамент будынка тэатра ў Слоніме, які ўзводзіцца ў раёне плошчы Леніна, рабочыя знайшлі старадаўнія рэчы. Некалі, сцвярджаюць слонімскія гісторыкі, плошча Леніна называлася Гандлёвай. Знаходкі на месцы будучага тэатра — старадаўнія манеты, аскепкі гліняных збаноў, косткі ды рогі жывёл — у нейкай ступені пацвярджаюць той факт, што раней на плошчы гандлявалі, у тым ліку, посудам ды жывёлай. На некалькіх манетах, якія знайшлі рабочыя, добра бачныя надпісы. Знаходкам каля 250 і 150 гадоў.

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

## Беларуская інтэлектуальная паэзія канца XX — пачатку XXI ст.

Ірына БАЖОК

**Са многімі літаратуразнаўчымі тэрмінамі здараецца так, што яны мусяць адваёўваць сабе месца. Навукоўцы, даследчыкі не адразу прыходзяць да адзінага меркавання адносна "нованароджаных": хтосьці брыдзіцца, хтосьці пераходзіць у кагорту прыхільнікаў новага паняцця, якое "абрастае" самымі рознымі трактоўкамі і інтэрпрэтацыямі. Беларускай літаратуры ў гэтым плане шкодзіць міф пра ейную вясковасць. Пакуль постмадэрністы пісалі свае тэксты і маніфесты, а літаратуразнаўцы — навуковыя працы па іх творчасці, хто-ніхто яшчэ ўсур'ёз ставіў пытанне: "Ці ёсць постмадэрнізм у беларускай літаратуры?". І цяпер не ўсе могуць паверыць, што беларуская літаратура даўно ўжо не абутая ў лапці, што інтэлектуалізм у ёй ёсць, і, больш за тое, гэта з'ява не апошняга дзесяцігоддзя. Распачаты ў гэтым нумары цыкл артыкулаў Ірыны Бажок "Беларуская інтэлектуальная паэзія канца XX — пачатку XXI ст." даводзіць, што інтэлектуалізм у нашай літаратуры ўзнік не знячэўку, што плынь гэтая заканамерная і на сённяшні дзень багата прадстаўленая.**

**Алена КАРП, рэдактар аддзела крытыкі**

# Розум і пачуцці: барацьба ці гармонія?

Відавочнай з'яўляецца тэрміналагічная няўстойлівасць паняцця "інтэлектуалізм у літаратуры", нягледзячы на частае яго выкарыстанне ў крытыцы. Мы паспрабуем прывесці версіі вызначэння "інтэлектуальнай паэзіі".

**Версія першая.** У сувязі з тыпам мыслення і светаўспрыманнем аўтара, яго поглядамі на прызначэнне паэзіі вылучаюць "інтэлектуальную паэзію" і "паэзію пачуццяў". Пры такім падзеле пад "інтэлектуальнай" разумеюць свядомую, лагічна пабудаваную паэзію, пазбаўленую пачуццяў, эмацыянальных перажыванняў. Прадстаўніком такога роду інтэлектуальнай паэзіі з'яўляецца І. Бабкоў. У яго творчасці выразна назіраецца адыход ад пачуццяў на карысць мыслення. У якасці ілюстрацыі прывядзём "інтэлектуальны" верш "Лёс" І. Бабкова і "пачуццёвы" ўрывак з верша "Дзяцінства" А. Кавалеўскага (абодва вершы тэматычна звязаныя).

У І. Бабкова:
*праз барвовае вецце*
*лёсу зямнога*
*з нічога ў нішто*

*але*
*дробязь гаркота*
*ластаўкаю над морам*

У А. Кавалеўскага:
*Калі час заштурханы*
*Выцінае з душы маёй ружы,*
*Сцюжай заўсёднай*
*Мне свет падаецца.*
*Сэрца, няздольнае біцца,*
*Ўсё ж б'ецца,*
*Ногі ідуць,*
*Каб з табою сустрэцца,*
*Сагрэцца…*

Але ж чыста "пачуццёвай" або чыста "інтэлектуальнай" паэзіі не існуе, часта эмацыянальнае і рацыянальнае спалучаюцца ў адным вершы, не гаворачы ўжо пра асобную кнігу ці творчасць канкрэтнага аўтара.

**Версія другая.** Адпаведна спосабу ўзнікнення вылучаюцца дзве формы паэзіі — "паэзія натхнення" і "інтэлектуальная паэзія". Першая ствараецца дзякуючы імпульсу, імгненнаму эмацыйнаму выбуху, другая — дзякуючы роздуму. Па сутнасці, размежаваць тэксты паводле такога прынцыпу немагчыма, калі не ведаць гісторыі іх нараджэння. Вынікае, што "паэзія натхнення" — гэта паэзія, пры стварэнні якой аўтар выступае медыятарам паміж невядомымі сіламі, што "надыктоўваюць" тэкст, і патэнцыйнымі чытачамі. "Інтэлектуальная паэзія" можа стварацца і без натхнення, з дапамогай логікі, тэарэтычных ведаў. Падобнае размежаванне цяжка назваць навуковым, але яно цікавае для "займальнай літаратуры". Так, А. Лойка ў "Загадках і цудах натхнення" раскрывае таямніцы творчай лабараторыі, а Ю. Пацюпа ў артыкуле "Пчала, або Канспект выточных прынцыпаў" прыводзіць мноства аўтарскіх споведзей.

**Версія трэцяя.** У залежнасці ад задачы, якую імкнецца вырашыць аўтар з дапамогай тэксту, адрозніваюць "паэзію, што выяўляе перажыванні" і "паэзію, што выяўляе веды". Перажыванні бываюць двух відаў: эмацыянальныя і духоўныя. Адпаведна і "паэзія, што выяўляе перажыванні" падзяляецца на эмацыянальную (пачуццёвую) і духоўную. "Паэзія, што выяўляе веды" таксама бывае двух відаў. Першы — інтэлектуальны, другі — сардэчны. Яны адпавядаюць двум тыпам філасофскага мыслення: метафізічнаму — у першым выпадку і дыялектычнаму — у другім. Версія даволі лагічная, але, як і першая, яна не дае магчымасці прывесці канкрэтныя прыклады. Размежаванне па прыведзеных вышэй прынцыпах будзе няпэўным і спрэчным. Але варта адзначыць, што філасофскай асновай інтэлектуалізму сапраўды з'яўляецца метафізіка.



*Малюнак Марыі Лось*

**Версія чацвёртая.** У залежнасці ад зместу лірычных твораў адрозніваюць наступныя разнавіднасці лірыкі: грамадзянскую, інтымную, медытатыўную, пейзажную, сугестыўную і філасофскую. Паміж імі няма выразных межаў, тэматычны падзел з'яўляецца досыць умоўным.

Даследчыкі вылучаюць у сучаснай беларускай паэзіі філасофска-аналітычную плынь і ўніверсальна-інтэлектуальную, разумеючы пад апошняй навуковую аснову зместу твораў. Да навуковай паэзіі звяртаўся М. Багдановіч (у сучаснай беларускай літаратуры гэтую плынь прадстаўляе Г. Булыка). У артыкуле "Паэзія геніяльнага вучонага" ён адзначае: "і паэзія, і навука маюць адну і тую ж мэту: задавальненне пазнавальных патрэб чалавека". Цікавым падаецца і філасофскі погляд на навуку: "Навука — гэта творчасць, якая не можа абысціся без фантазіі, праяўленні якой захоўваюцца на ўсіх узроўнях. Творчасць — сувязное звяно паміж рацыянальным пазнаннем свету і яго разуменнем вобразнымі, мастацкімі сродкамі. Сучаснае грамадства працягвае ствараць міфы, няхай і вельмі рацыяналізаваныя". Гэта адзіная версія, якая звязвае інтэлектуалізм з жанрам. Відавочна, што інтэлектуалізм уплывае не толькі на жанр, але і на стыль мастацкага твора, у сувязі з гэтым паняцце "інтэлектуальны" будзе неабмежаваным.

**Версія пятая.** Рускі даследчык і тэарэтык літаратуры І. Волкаў вызначае інтэлектуальнасць як "тып мастацкага зместу". Інтэлект ён называе вышэйшай каштоўнасцю чалавечага быцця і "найбольш правільным сродкам сцвярджэння гарманічных адносін паміж людзьмі".

У літаратуразнаўстве інтэлектуалізм называюць то рацыяналізмам, то філасофскай думкай, але апошнія паняцці ўказваюць на абстрактнасць, а "слова "інтэлектуальнасць" змяшчае ў сабе і нешта індывідуальна чалавечае (высокаразвітую здольнасць чалавека мысліць)". Згодна гэтай версіі, чым больш часу існуе чалавецтва, тым больш інтэлектуальнай становіцца літаратура. Але нельга згадзіцца, што, напрыклад, творы Кірылы Тураўскага менш інтэлектуальныя, чым творы яго паслядоўнікаў.

**Версія шостая.** Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка, М. Тычына, упісваючы беларускую літаратуру ў кантэкст сусветнай, гавораць пра неразуменне "абаронцамі этнаграфічнага бытапісальніцтва" інтэлектуальных ініцыятыў у беларускай літаратуры, якія рабіліся М. Багдановічам, У. Дубоўкам, У. Жылкам, М. Танкам і інш. Даследчыкі высока ацэньваюць інтэлектуальны ўзровень беларускай літаратуры, а пры класіфікацыі паэзіі карыстаюцца тэрміналогіяй В. Бялінскага — "паэзія думкі" і "паэзія сэрца". Варта заўважыць, што аўтары грунтоўнага даследавання "Беларуская літаратура і свет" карысталіся параўнальна-гістарычным метадам, таму беларускі інтэлектуалізм першай паловы XX стагоддзя — гэта праекцыя сусветнага інтэлектуалізму гэтага ж перыяду. Адсюль невыпадкова, што пералік прыкмет інтэлектуалізму амаль цалкам супадае з адметнасцямі "інтэлектуальнага рамана" Т. Мана. "У змястоўных адносінах яны [ідэйна-стылявыя асаблівасці літаратурнага твора] заўважаюцца ў вялікай вазе філасофскага пачатку, які ўключае ў сябе аналіз, даследаванне, лагічную развагу, імкненне да абагульненняў, наяўнасць высноў, фармулёвак, сентэнцый, мудраслоўяў", — сцвярджаюць даследчыкі.

**Версія сёмая.** В. Акудовіч называе беларускі інтэлектуалізм найбольш значнай падзеяй у беларускай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя. Вялікімі дасягненнямі на шляху да інтэлектуалізму даследчык лічыць эсэ І. Абдзіраловіча (Канчэўскага) "Адвечным шляхам" і эсэ У. Сулімы (Самойлы) "Гэткім выстаім". Словазлучэннем "беларускі інтэлектуалізм" В. Акудовіч акрэслівае філасофска-мастацкі досвед, сабраны за XX стагоддзе.

Сучасны беларускі інтэлектуалізм прайшоў некалькі стадый развіцця. Так бы мовіць, першапраходцамі былі А. Анціпенка, І. Бабкоў, У. Конан, В. Рагойша, Ю. Барысевіч і інш. Другая хваля беларускага інтэлектуалізму (В. Булгакаў, А. Туровіч, М. Баярын і інш.) падаецца яшчэ больш значнай. В. Акудовіч адзначае, што "з'яўленне наступнага пакалення беларускіх інтэлектуалаў лепей чым што іншае сведчыць за жыццядзейнасць беларускага інтэлектуалізму".

Гаворачы пра інтэлектуальную літаратуру, В. Акудовіч мае на ўвазе філасофскія, культуралагічныя, гістарыясафічныя, мастацтвазнаўчыя і іншыя тэксты такога кшталту, але ў чым іх сутнасць, што іх вылучае як інтэлектуальныя творы, застаецца па-за ўвагай даследчыка.

**Версія восьмая.** Бадай што самай лагічнай і абгрунтаванай з'яўляецца тэорыя рускай даследчыцы В. Чубаравай, якая прапануе вызначаць інтэлектуалізм у адпаведнасці з перыядамі развіцця літаратуры.

Інтэлектуальны пачатак у літаратуры ўзнік у эпоху Асветніцтва, тады ж сфарміравалася і асноўная прыкмета інтэлектуальнай літаратуры: думкі і развагі пра свет становяцца больш каштоўнымі і цікавымі, чым ён сам. К. Тураўскі ў беларускай літаратуры стаў першым пісьменнікам, які звярнуў увагу на неабходнасць **рацыянальнага пачатку** ў мастацтве слова. Стыль яго "Слоў" — духоўна-інтэлектуальны. К. Тураўскі лічыць сваю творчую працу "шляхам да маральнага ўдасканалення асобы", ён упэўнены, што "менавіта веды найбольш стрымліваюць чалавека ад злых учынкаў, адводзяць ад граху". Істотным з'яўляецца і той факт, што "сярод інтэлектульна-эстэтычных прыярытэтаў К. Тураўскі вылучаў чатыры найбольш істотныя элементы: набыццё "дару слова", уменне "даступна пісаць", пазбаўленне "замутнёнасці розуму" і пераадоленне "грубасці мовы". Гэтыя прынцыпы доўгі час вызначалі сутнасць інтэлектуалізму.

Задача аўтара ў пазнейшы час — **праілюстраваць ужо гатовыя веды**. Аўтар супадае з галоўным героем, а мастацкі твор — гэта ўжо не гісторыя пра чалавека як носьбіта ідэй, гэта твор пра саму ідэю (вяршыняй такой эвалюцыі стаў "раман ідэй"). У беларускай літаратуры стварэнне падобнага рамана адбылося крыху пазней, найбольш блізкім "раману ідэй" з'яўляецца "Сястра" Кузьмы Чорнага.

На мяжы XIX — XX стагоддзяў інтэлектуалізм спалучаецца з **канцэптуальнасцю**, якая ў беларускай літаратуры праявілася ў паэзіі У. Караткевіча, М. Танка, Н. Гілевіча. Апошні, дарэчы, у рамане ў вершах "Родныя дзеці" не без іроніі заяўляў:

*Цяпер жа вельмі непахвальна*
*Даступнай мовай гаварыць.*

Пачатак XX стагоддзя звязаны з іменем М. Багдановіча, чыя творчасць стала філалагічным падмуркам інтэлектуалізму ў беларускай паэзіі.

У XX стагоддзі на змену канцэптуальнасці прыходзіць **экзістэнцыялізм (філасофія існавання)** (творчасць М. Гарэцкага, В. Быкава). У гэты час упершыню з'яўляецца тэрмін "інтэлектуальны раман".

У другой палове таго ж стагоддзя паняцце інтэлектуалізму ў літаратуры рэзка змяняецца: "Інтэлектуальнасць твора часцей за ўсё не звязана з пэўным філасофскім заданнем, а праяўляе сябе як **гульня пісьменніка-інтэлектуала з інтэлектуальным чытачом.** Творы становяцца багатымі на ўсялякага роду "інтэлектуальныя пасткі", выключаючы са сферы свайго ўздзеяння "наіўнага чытача".

Так ці інакш, інтэлектуальная плынь у літаратуры **патрабуе абазнанасці** не толькі ў галіне мастацтва слова, але і ў сферы навукі.

Чытанне сучаснай інтэлектуальнай літаратуры падобнае да разгадвання крыжаванак або блукання па лабірынце: задача чытача — адгадаць, знайсці. У сваю чаргу інтэлектуальная паэзія ставіць перад сабой тры асноўныя задачы: знішчаць стэрэатыпы; асэнсоўваць праблемы сучаснасці; развіваць інтэлект.

У гэтым і наступных артыкулах пад паняццем **"інтэлектуалізм у паэзіі"** маюцца на ўвазе такія **ідэйна-стылявыя асаблівасці** тэксту, як сінтэтызм, інтэртэкстуальнасць, гульня, сімвалізм, метафізічны погляд на рэчаіснасць.

Палемічныя нататкі

# Іван Чыгрынаў. Новае прачытанне

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

**Асоба Івана Чыгрынава займае своеасаблівае, адметнае месца ў беларускім літаратурным пантэоне. Аўтар раманнай пенталогіі, шматлікіх апавяданняў і п'ес, ён рэалізаваўся ў літаратуры, атрымаў прызнанне і належную ацэнку пры жыцці. Але чаму тады для многіх чытачоў Чыгрынаў застаўся ў гісторыі перш за ўсё як аўтар рамана "Плач перапёлкі"? Прапаную ўласную версію.**

Напісанне некалькіх раманаў, з'яднаных паміж сабой агульнай тэмай, героямі і месцам падзей, было распаўсюджанай з'явай у беларускай літаратуры. Хто толькі не звяртаўся да "дылогій", "трылогій", "тэтралогій" і нават "пенталогій"! Але заўважым істотную асаблівасць. Такая тэндэнцыя часцей за ўсё была ўласцівая пісьменнікам, чые творы цяпер не маюць вялікай запатрабаванасці ў чытачоў. Час ад часу такія ж маштабныя творы выходзілі з-пад пяра і прызнаных творцаў: Якуба Коласа, Івана Мележа, Івана Навуменкі, Вячаслава Адамчыка. Але ва ўсіх выпадках першы твор часцей за ўсё з'яўляўся найбольш моцным і вызначаў агульную задуму, тады як працяг у лепшым выпадку толькі паўтараў ранейшыя здабыткі аўтара.

Сапраўды, "У палескай глушы" Якуба Коласа, "Людзі на балоце" І. Мележа, "Сасна пры дарозе" І. Навуменкі, "Чужая бацькаўшчына" В. Адамчыка ў большай ці меншай ступені пераўзыходзілі наступныя часткі трылогій. Але дзіўным чынам у свядомасці чытача адлюстравалася ацэнка менавіта першых, а не завяршальных твораў кожнага з цыклаў. І на тое былі свае прычыны. Відавочна, што коласаўскі "На ростанях" і мележаўскі "Завеі, снежань" пісаліся з вялікім перапынкам пасля стварэння папярэдніх раманаў. На іх мастацкую моц паўплывалі стан здароўя аўтараў і грамадска-палітычная атмасфера ў краіне. А вось не зусім удалая рэалізацыя чыгрынаўскай задумы і цяпер выклікае шкадаванне ў чытачоў і крытыкаў.

Чаму так адбылося? На першы погляд, прычынай стала вялікая колькасць раманаў. Нагадаю, што на творчым рахунку Чыгрынава іх пяць: "Плач перапёлкі" (1970), "Апраўданне крыві" (1976), "Свае і чужынцы" (1983), "Вяртанне да віны" (1992) і "Не ўсе мы загінем" (1996), дзеянне ў якіх разгортваецца падчас Вялікай Айчыннай вайны на ўсходзе Беларусі, у вёсцы Верамейкі. Першы твор прынёс аўтару сапраўдную славу. Але чым больш выходзіла наступных кніг, тым больш першы поспех аддаляўся ў часе і засланяўся далейшымі творамі. Зрэшты, мяркую, такое тлумачэнне занадта простае. Каб адказаць на пастаўленае пытанне, а таксама паспрабаваць раскрыць таямніцы чыгрынаўскага таленту, паглыбімся ў свет яго твораў і герояў.

Цяпер, з вышыні часу, бачна, што адной з галоўных заслуг І. Чыгрынава ў "Плачы перапёлкі" стала гістарычная праўдзівасць пры адлюстраванні падзей і герояў, пры перадачы атмасферы эпохі. Часам здавалася, што ў Верамейках усталявана схаваная кінакамера, якой пісьменнік карыстаўся пры напісанні рамана — настолькі ўсё выглядала верагодна і натуральна. Істотна, што аўтар не пайшоў па шляху стварэння гераічнай атмасферы. Ён праўдзіва паказаў адступленне Чырвонай арміі з баямі на ўсход, прыход немцаў і досыць пасіўную, асцярожную рэакцыю насельніцтва, якое на першым этапе акупацыі з неахвотай удзельнічала ў фарміраванні як новых органаў улады, так і партызанскіх атрадаў. Такі выклад падзей падаецца абгрунтаваным і па-мастацку глыбокім, паколькі паказвае выразную дыферэнцыяцыю ў стаўленні мясцовага насельніцтва да вайны. Адметнасцю "Плачу перапёлкі" стала яго атмасфера. Шчыра кажучы, спярша яна выклікала нават пярэчанне сваёй павольнасцю. Толькі потым прыйшло разуменне, што так перадаецца сапраўдны, няспешлівы рух жыцця ў вёсцы.

Традыцыі першага рамана былі працягнуты на старонках твора "Апраўданне крыві". У параўнанні з "Плачам перапёлкі" тут з'явіліся сцэны з удзелам немцаў. Менавіта ў такіх сітуацыях пісьменнік шукаў вытокі будучай барацьбы, знаходзіў яе карані ў рэакцыі вясковых жыхароў на жахі акупацыі, у імкненні абараніць сябе і выратаваць сваякоў і родны край.

Першыя два раманы сталі ў пенталогіі найбольш удалымі. Нездарма яны былі адзначаны агульнасаюзнай Літаратурнай прэміяй імя А. Фадзеева. Але чаму ж тады наступныя творы не атрымалі такой чытацкай увагі? Нездарма пісьменніца Людміла Рублеўская прызнавалася, што "сярод маіх сяброў не памятаю таго, хто прачытаў бы яе (пенталогію — **Д. М.**) цалкам".

> *Цяпер, з вышыні часу, бачна, што адной з галоўных заслуг І. Чыгрынава ў "Плачы перапёлкі" стала гістарычная праўдзівасць пры адлюстраванні падзей і герояў, пры перадачы атмасферы эпохі. Часам здавалася, што ў Верамейках усталявана схаваная кінакамера, якой пісьменнік карыстаўся пры напісанні рамана — настолькі ўсё выглядала верагодна і натуральна.*

На маю думку, пераломным у пенталогіі стаў менавіта трэці раман "Свае і чужынцы", які быў прысвечаны партызанскаму руху. Паўтаруся, папярэднія два творы вылучала натуральнасць у перадачы мінулага. Мяркую, на гэта паўплываў той факт, што Чыгрынаў, нарадзіўшыся ў 1934 годзе, пражыў усю вайну на акупаванай тэрыторыі. Прыродная назіральнасць і абвостранае ўспрыманне рэчаіснасці дазволілі яму дзе ўзнавіць убачанае, дзе здагадацца, а дзе і пафіласофску пераасэнсаваць тагачаснае жыццё.

Паколькі аўтар задумаў раманную эпапею пра Вялікую Айчынную вайну, не разглядзець тэму партызанскай вайны ён не мог. Але паколькі Чыгрынаў сам у ёй не ўдзельнічаў, бо быў яшчэ малы, то адпаведнага досведу і назіранняў не меў, а таму не змог напоўніцу перадаць атмасферу змагання. Дакладней, не выступіў у рамане безумоўным наватарам.

Падзеі першых трох раманаў ахопліваюць час ад пачатку вайны да бітвы пад Масквой (фактычна, крыху больш як паўгода). А ў двух апошніх творах Чыгрынаў паспрабаваў ахапіць увесь астатні перыяд, што не магло не прывесці, на думку вядомага даследчыка Дзмітрыя Бугаёва, да "пэўнай аблегчанасці пісьма, асабліва прыкметнай у апошнім творы". Акрамя таго, раман "Не ўсе мы загінем" ствараўся ў апошнія гады жыцця, калі здароўе аўтара ўплывала на выніку творчасці.

Але што з таго? — спытае чытач. У чым жа прынцыповае адрозненне ад сітуацый з раманамі-эпапеямі Коласа і Мележа? Істотная розніца бачыцца ў тым, што і Колас, і Мележ пісалі творы, якія могуць чытацца і разглядацца адасоблена ад іншых частак трылогіі.

А вось у Чыгрынава атрымалася адваротная сітуацыя. Хацеў Іван Гаўрылавіч таго ці не, але ён пісаў менавіта агульны твор, толькі падзелены на часткі пад рознымі назвамі. Нездарма канцоўка "Плачу перапёлкі" з'яўляецца пачаткам "Апраўдання крыві". Але галоўнае, што, нягледзячы на высокі мастацкі ўзровень першай кнігі, яна не раскрывала да канца ні характары галоўных герояў, ні сюжэтныя лініі. Яна толькі завязвала вузлы, якія павінны быць раскручаныя на працягу ўсёй эпапеі. Менавіта таму ў чытача з'яўляецца адчуванне незавершанасці, якое ўплывае на агульную ацэнку чыгрынаўскай творчасці.

Якое ж тады месца празаіка ў беларускім прыгожым пісьменстве? Не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі, лічу, што яго лепшыя творы, безумоўна, адносяцца да першаразраднай літаратуры. Гэта дае падставу называць яго маштабным, выдатным творцам. Тым не менш, мяне не пакідае ўражанне, што сёння ўспрыманне твораў Чыгрынава крыху іншае, чым два дзесяцігоддзі таму.

Што дае падставу для такога сцвярджэння? Штуршком для яго сталі невялікія, неістотныя, на першы погляд, дробязі першых двух раманаў. Адразу падкрэслю, што вяду гаворку пра іх не для таго, каб, па прыкладзе футурыстаў, выкінуць лепшыя творы з літаратурнага "карабля сучаснасці". Наадварот, калі творы прэтэндуюць на статус класікі, дык планка патрабаванняў заўжды надзвычай высокая.

Адной з асаблівасцей існавання вёскі Верамейкі ў творах Чыгрынава стаў яе досыць шчаслівы лёс у грамадскіх падзеях 1920 — 1930-х гадоў. Узважаная палітыка тагачаснага старшыні калгаса Дзяніса Зазыбы прывяла да таго, што ніхто з яго аднавяскоўцаў не быў раскулачаны. Усе добраахвотна, хоць і паступова, уступілі ў калгас. Абышлі бокам вёску і рэпрэсіі. Так, яны перыядычна згадваюцца ў першых двух раманах у сувязі з агульнай сітуацыяй у краіне. Але ў адносінах да Верамеек паказваецца толькі эпізод на сходзе, калі адзін з герояў пры асуджэнні чарговай групы рэпрэсаваных "здраднікаў" стрымліваецца пры галасаванні… і застаецца непакараным.

Зразумела, у кожным выпадку можна сцвярджаць, што такія сітуацыі мелі месца ў рэальным жыцці. Але праз гэта адбылося непазбежнае спрашчэнне прычын, з-за якіх асобныя сяляне пайшлі на службу да немцаў. З вышыні сённяшняга разумення гісторыі відавочна, што некаторых вяскоўцаў штурхала на супрацоўніцтва з новай уладай палітыка 1930-х гадоў, асабліва калектывізацыя і рэпрэсіі.

Параўнанне розных пісьменнікаў і іх твораў — не заўсёды ўдалы прыём. Але думаецца, ён будзе да месца, калі аўтары пісалі пра адзін і той жа час. Дык вось, праводзячы паралелі "Плачу перапёлкі" і "Апраўдання крыві" з аповесцю Васіля Быкава "Знак бяды", бачна, што ў Васіля Уладзіміравіча атрымалася не проста па-майстэрску перадаць атмасферу жыцця на акупаванай тэрыторыі, але і прасачыць жывыя сувязі паміж мінулым і будучым, паказаць адказнасць кожнага чалавека за яго ранейшыя ўчынкі. Менавіта таму вобраз Сцепаніды, якая ўдзельнічала ў калектывізацыі, набыў дадатковае трагічнае адценне.

Пры ўсіх шматлікіх станоўчых якасцях чыгрынаўскіх твораў адзначаныя часавыя сувязі не былі паказаны ў Чыгрынава так глыбока, як у Быкава. Напрыклад, калабаранты адлюстроўваліся як непаўнавартасныя людзі, якіх прывяла да немцаў або нянавісць да савецкай улады разам з мінулай службай у бацькі Махно (Антон Брава-Жыватоўскі), або паталагічная жорсткасць (Рахім). Для аб'ектыўнасці адзначым, што Быкаў пісаў свой твор у 1980-я гады, калі грамадская атмасфера была ўжо крыху іншай. Наўрад ці Чыгрынаву даравалі б такі падыход на дзесяцігоддзе раней.

Не сумняваюся, выкладзеныя думкі будуць неадназначна ўспрынятыя многімі ўдзельнікамі беларускага літаратурнага працэсу. Магчыма, у кагосьці яны выклічуць рашучае пярэчанне. Зрэшты, калі класіка здатныя зацікавіць і прачытваецца па-рознаму, гэта сведчыць толькі пра тое, што яна працягвае сваё жыццё ў бязмежнай прасторы літаратуры.

Universum



Віка ТРЭНАС

## Праўда — у летняй празрыстасці

*У чэрвені 2010 года на старонках часопіса "Маладосць" пабачыла свет таленавітая і неардынарная вершаваная падборка. Паэтычная і жыццёвая праўда ў ёй вымяралася ў летняй празрыстасці — непасрэднасці, шчырасці і духоўнай чысціні лірычнага героя. Публікацыя выйшла ў рубрыцы "Упершыню ў "Маладосці" (аўтар яе рэдка выступаў да гэтага ў перыёдыцы), але не было сумненняў, што перад намі калі не прафесійны літаратар, то сапраўдны паэт. Адкуль на беларускай зямлі столькі самабытных талентаў? Чаму па волі лёсу мы аддаем лепшыя здабыткі іншым народам? Відаць, таму, што дабрыні хапае на ўсіх, і мы здатныя дзяліцца нацыянальным багаццем, не баючыся застацца ні з чым — бо нашыя крыніцы натхнення чыстыя і невычэрпныя.*

### Пра гарады, дарогі і цягнікі

Знаёмцеся — Юрась Шамецька. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Да 1997 года жыў і працаваў тут. Цяпер жыве ў Атаве (Канада), працуе вядучым дызайнерам праграмнага забеспячэння карпарацыі "Стэнлі" ("Stanley Works"). Піша вершы па-беларуску, па якіх можна вывучаць геаграфію. "Атава пахне домам", "на тым баку ракі — Квэбэк", "тут Манрэаль — амаль што Вільня", "дзесь цягнік адыходзіць на Ніцу", "ты не згубішся на Манмартры"… Сапраўды, ні сам паэт, ні ягоныя чытачы ні ў якім разе не заблукаюць сярод чужынцаў. Проста адчуйце шчырыя, сапраўдныя ноткі ў мностве замежных назваў: "Раку Атаву Свіслаччу б назваць, каб ведаць далей, што яшчэ чакаць", "радасць пявучасці роднага краю… сёння ў Мінску сябе адчуваю". Гаворыць, нібыта паэт носіць неба ў сэрцы, а ў душы — сваю радзіму. Так і ёсць. Больш дакладна пра Юрася Шамецьку не скажаш.

### Шлях да вяртання

Такую сімвалічную назву аўтар даў сваёй першай паэтычнай кнізе, што выйшла нядаўна ў мінскім выдавецтве "Кнігазбор". У анатацыі да зборніка адзначаецца: "Вершы Юрася Шамецькі шматасацыятыўныя, шчырыя пачуццямі і думкамі, пашыраюць прастору беларускай паэзіі". Абсалютна слушна: хацелася б зрабіць ключавым словам творчасці Юрася менавіта "прасторавасць". Ягоны лірычны герой жыве ў шматвымернасці, якую ён выбудоўвае сабе, каб пачувацца камфортна ў любой кропцы зямнога шара. Не, ён не "вечны вандроўнік", як можна было б падумаць. Бо не герой знаходзіцца ў свеце, а свет знаходзіцца ўнутры яго — адначасова размаіты і цэласны, спрэчны і гарманічны. Памятаеце знакамітае выслоўе Уладзіміра Караткевіча: "Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы, нельга ні ўджаліць, ні забіць"? Але адным гэтым ключом мы наўрад ці зможам адчыніць дзверы ў мастацкую прастору Юрася Шамецькі. Зрэшты, як не здолеем раскрыць прыроду творчага дару вельмі многіх таленавітых людзей. Паэзія — таямніца, стварыць і зразумець якую дадзена не кожнаму. Вельмі радуе, што ў сусвеце з'явіўся яшчэ адзін Сапраўдны Паэт. Беларускі.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ “Залатая Ліцера”**

## Слова краязнаўцы



**Алесь Хітрун з Лідчыны распавядае гісторыю сваёй роднай вёскі:**

— Таямніцы мінулага і яго неразгаданыя загадкі вядуць у прастору народнага жыцця. А народ наш багаты на спадчыну, якая ўсё яшчэ застаецца цалкам не даследаванай. Краязнаўства — гэта таямніцы фальклору, што ўздымаюцца да літаратуразнаўства; гэта дыялекталогія, лесвіца да мовазнаўства; гэта гісторыя…

Лідчына — край, багаты на згадкі пра мінулае. Лідскі замак — адна з адметных таямніц, якая можа “зацягнуць” у сваю скарбніцу, паказаць жыццё ў гедымінаўскі час. Не выключэнне — і мая малая радзіма, вёска Крупава.

Першая згадка пра яе датуецца 1450 годам (занатавана Тэадорам Нарбутам) — гэта той час, калі ў Крупе (ранейшая назва) быў заснаваны касцёл. Паселішча Крупа празначана і на карце Тамаша Макоўскага 1613 года. З XVII стагоддзя ім валодалі Шукевічы, магчыма, і Нарбуты. Дзякуючы Шукевічам Крупава вядома шырокаму грамадству. Вацлаў Шукевіч вынайшаў спосаб прамысловага атрымання штучнага каўчуку. Яго дзед Тамаш быў лідскім суддзёй, а за ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе высланы ў Табольск. Пляменніца Аліна Сурмацкая-Шчасняк (ахрышчаная ў Крупаўскім касцёле) працавала ў харчовым канцэрне ЗША і валодала 12 патэнтамі.

Сама назва вёскі паходзіць ад рачулкі Крупкі. Адна з версій паходжання гэтай назвы сцвярджае, што р. Крупка — ад назвы расліны з сям’і крыжакветных — крупка (draba). Аднак існуе і іншае меркаванне: з XVII стагоддзя захавалася чатырохрадкоўе пра крупы і Крупу: “Наш Ягело збіл кшыжакі, І тэн Крупа хцэ быць такі. Дармо сушыш музг нябожэ, Крупа ядлэм быць не можэ…”

Вялікім гонарам можна назваць і тое, што прыкладна за два кіламетры ад вёскі Крупава, у мястэчку Заполле, калісьці жыў вучоны Ігнат Дамейка. Захаваўся падмурак яго сядзібы, каля якога пастаўлены памятны знак, а ў Крупаўскай сярэдняй школе ў музеі захоўваюцца звесткі пра знакамітага земляка. Побач са школай устаноўлены валун з замацаваным на ім барэльефам Ігната Дамейкі.

Даследаваць свой родны кут — мая галоўная задача. Думаецца, такую мэту павінен мець кожны беларус, які паважае свой род.

# Містыка нашага краю

**Дар’я КАСКО**

Аўтары кнігі “Сакральная геаграфія Беларусі” (Мінск, “Літаратура і Мастацтва”, 2011) Людміла Дучыц і Ірына Клімковіч сталі гасцямі інфармацыйна-пазнаваўчай праграмы “З легендамі — па Беларусі”. Праграма ладзілася ў межах праекта “Кропка адліку” ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Людміла і Ірына пазнаёмілі прысутных з міфалогіяй беларускага ландшафту, распавялі пра сакральныя крыніцы, валуны, гарадзішчы, курганы, пячоры, расказалі старажытныя паданні, з імі звязаныя. Асабліва зацікавілі прысутных невытлумачальныя факты і містычныя гісторыі, звязаныя з даследаваннем беларускай міфалогіі.

## Музейны ўнікат

# «Хумаш» і «Махзор» у Гарадку

**Гарадоцкі раённы краязнаўчы музей размясціўся ў цэнтры горада. Адкрыты ён быў 24 снежня 1976 года, у дзень 33-й гадавіны вызвалення Гарадка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, і сёлета адзначыць сваё 35-годдзе.**




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара**

Сярод імёнаў, з якімі звязана развіццё музея, варта назваць яго дырэктараў Ларысу Бандарэнку і Зінаіду Пляскач, а таксама настаўніка гісторыі Рыгора Арлоўскага, які ўзначальваў музей на грамадскіх асновах. Значны ўклад у развіццё краязнаўства на Гарадоччыне ўнесла Кацярына Уверская. На працягу 20 гадоў яна з’яўлялася спачатку навуковым супрацоўнікам, а з 1984 года – дырэктарам музея. Пры яе актыўным удзеле адбылася рэканструкцыя будынка па вуліцы Вароўскага, 3, куды ў 1995-ым пераехаў музей. У наступным годзе пачаў дзейнічаць аддзел прыроды, у 2001-ым — этнаграфіі і народных рамёстваў. Пры цяперашнім дырэктары Тамары Івановай музей некалькі гадоў таму быў адрамантаваны, таму знешне выглядае проста шыкоўна.

Экспазіцыя музея (агульны аб’ём прадметаў ў фондзе складае больш як 27 тысяч экспанатаў) размешчана на двух паверхах. Яна аб’яднана ў некалькі тэматычных раздзелаў. Акрамя двух вышэйзгаданых тут ёсць аддзел гісторыі. На мой суб’ектыўны погляд, аднымі з самых цікавых яго экспанатаў з’яўляюцца старажытныя яўрэйскія кнігі “Хумаш” і “Махзор”.

Наогул, яўрэі вядомыя ў Беларусі са старадаўніх часоў. А першая згадка пра іх датавана 1388 годам, калі князь гродзенскі і троцкі Вітаўт выдаў грамату брэсцкай абшчыне. Але на Віцебшчыне прадстаўнікі гэтай нацыянальнасці з’явіліся пазней, каля сярэдзіны XVII стагоддзя. Нездарма паэт Уладзімір Скарынкін пісаў пра яўрэяў свайго краю: “Спрадвеку тут жылі яны, талковыя і ўмелыя…” Пасля далучэння нашай радзімы да Расійскай імперыі беларускія губерні ўвайшлі ў мяжу яўрэйскай аселасці — тэрыторыі, дзе дазвалялася пражыванне яўрэяў. Таму не дзіўна, што ў пачатку XX стагоддзя з 6 тысяч насельніцтва Гарадка яўрэі складалі каля 4 тысяч, тут існавала 10 сінагог. Дарэчы, у Гарадку нарадзіўся і пражыў усё жыццё Мендэль Шагал, стрыечны брат знакамітага мастака.

У экспазіцыі музея прадстаўлены дзве кнігі адпаведнай тэматыкі. Першая з іх — “Хумаш” — па-іншаму называецца “Тора”, або “Майсееў закон”, і складаецца з першых пяці кніг кананічнай яўрэйскай і хрысціянскай Бібліі: Быццё, Зыход, Левіт, Лічбы і Другазаконне. Гарадоцкі асобнік выйшаў у Вільні ў 1891 годзе і з’яўляецца другой часткай выдання (першая ў экспазіцыі не прадстаўлена). Другая кніга — “Махзор” — выдадзеная ў Варшаве ў 1901 годзе (вядома першая частка выдання), з’яўляецца зборнікам святочных малітваў, які змяшчаў адпаведныя тэксты на два святы: Рош а-Шана (яўрэйскі Новы год) і Ём Кіпур (дзень посту, пакаяння і адпушчэння грахоў — самае істотнае свята ў яўрэйскім календары). У тым, што жыхары Гарадка карысталіся кнігамі, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі або недалёка ад яе межаў, няма нічога дзіўнага, бо першыя яўрэйскія друкарні ў нашым краі вядомыя яшчэ з канца XVIII стагоддзя (Шклоў — 1783, Гродна — 1788).

У пачатку 1940-х у горадзе жылі прыкладна 2,5 тысячы яўрэяў. Паводле падлікаў Аркадзя Шульмана, які працаваў у архівах, з іх немцы знішчылі каля 2 тысяч. На момант абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў Гарадку заставалася ўсяго 110 яўрэяў. Цяпер лік ужо ідзе на дзясяткі. Шэраг іх сваякоў і нашчадкаў лёс раскідаў па іншых краінах. І толькі старыя кнігі, прадстаўленыя ў музейнай экспазіцыі, сведчаць пра яўрэйскі след у мінулым Гарадоцкага краю.

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб “Каламаняка”*



*Герб “Нязгода”*



*Герб “Пілава”*

**Герб «Каламаняка»**

Гербакарыстальнік: Фелтнер.

**Герб «Нязгода» зменены**

Гербакарыстальнік: Мінкоўскі.

**Герб «Пілава»**

Гербам карысталіся: Бароўскі, Батулевіч, Бутарлевіч, Бутулевіч, Драздоўскі, Жакевіч, Лагіновіч, Ліхноўскі, Малышэвіч, Платуць, Сасін, Харкоўскі, Храновіч, Цяшкоўскі.

**Герб «Пелікан»**

Гербам карысталіся: Багавіцкі, Багавіцінаў, Багавіціновіч, Ільяшэвіч, Імбра, Коцел, Лагіновіч, Лакіціч, Латрыновіч, Лякіціч, Ляўда, Міцінскі, Мурза, Палікша, Піляр, Прасцэвіч, Ягмін.

**Герб «Слепаворан» зменены**

Гербакарыстальнік: Ліпоўскі.

**Уласны герб князёў Святаполк-Мірскіх**



*Герб “Пелікан”*



*Герб “Слепаворан”*



*Герб Святаполк-Мірскіх*

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**

Сяргей ЧЫГРЫН



**20 год таму, у 1991-м, пабачыла свет кніжачка "Лірнік", у якой сабрана спадчына М. Арла. У якасці ўкладальніка кнігі выступіў Янка Саламевіч —кандыдат філалагічных навук, перакладчык, вядомы знаўца псеўданімаў, а таксама даследчык творчасці М. Арла (Сцяпана Пятэльскага) і Коршуна (Янука Дарашкевіча). Праз "Лірніка" чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з творчасцю М. Арла, а вось спадчына Коршуна пакуль застаецца "terra incognita" — кнігу гэтага аўтара выдаць пакуль не ўдалося. Чаму так сталася, а таксама пра невядомыя старонкі жыцця і творчасці Арла і Коршуна — наша гутарка з Янкам Саламевічам.**

# Пад птушынымі псеўданімамі

**— Спадар Янка, чаму паэтычная спадчына Коршуна не была выдадзена следам за кнігай яго сябра М. Арла?**

— Гэта я табе, Сяргей, прапаную зрабіць. Тым больш, што ты ўжо сёе-тое з яго паэтычных твораў сабраў, шмат надрукаваў добрых згадак пра Янука Дарашкевіча. Ведаю, што ў бліжэйшы час ты будзеш яшчэ працаваць у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. А там у фондзе № 21 захоўваецца яго рукапіс зборніка "Абразкі". У свой час мне даваўся яго пабачыць, але не паспеў перапісаць.

**— Усё ж у М. Арла больш захавалася твораў, чым у Янука Дарашкевіча?**

— Усё, што даваўся знайсці пра М. Арла, увайшло ў ягоную кнігу "Лірнік". Рукапіс "Лірніка", на шчасце, ўдалося мне займець. Ды й Пятэльскі больш друкаваўся за Дарашкевіча. У Сцяпана Пятэльскага знойдзена каля 50 вершаў, перакладаў з В. Бялінскага, карэспандэнцый розных, якія ён падпісваў псеўданімам С. Бас. У Янука Дарашкевіча напісана каля 20 вершаў. Ён карыстаўся псеўданімамі Коршун, В. Каршун, Янук Д., Д-іч Янук.

**— А Сцяпан Пятэльскі меў толькі псеўданімы М. Арол і С. Бас?**

— Быў у яго і крыптанім М. А. Але найбольш падпісваў свае творы псеўданімам М. Арол. Алег Лойка ў "Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд" (Т. 2) назваў М. Арла Мікалаем. Але той так ніколі не падпісваўся. Услед за Лойкам Пятэльскага Мікалаем неяк называла і "Ніва" ў Беластоку.

**— А чаму гэтыя беластоцкія беларускія хлопцы пабралі сабе птушыныя псеўданімы?**

— Нават і не ведаю. Ды гэтага, думаю, не ведае ніхто.

**— Творчасць М. Арла даследавалі Юры Туронак, вы, Алег Лойка, Віктар Швед, згадвалі пра яго Яўхім Карскі, Максім Гарэцкі і іншыя літаратары. Пры падрыхтоўцы кнігі твораў М. Арла вы перапісваліся з ягонымі сваякамі?**

— Не, ды іх, відаць, ужо і не было, як казалі беластоцкія журналісты. Хаця, магчыма, далёкія родзічы Пятэльскага жывуць у Гарадку.

**— Нядаўна мне заснавальнік літаратурна-краязнаўчага музея ў в. Гудзевічы Мастоўскага раёна Алесь Белакоз даслаў паэму "Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім?", якую напісаў М. Арол. Але гэта паэма не была ўключана ў зборнік "Лірнік". Чаму?**

— Я ведаю гэтую паэму. Яе сапраўды напісаў М. Арол. Але гэта іншы Арол, а не Пятэльскі-Арол. Паэма М. Арлом была напісана ў 1921 годзе ў Лідзе. А беластоцкі М. Арол, як пісала віленская "Крыніца", памёр у 1917 ці ў 1918 годзе ва Украіне ад тыфусу, маючы 28 гадоў ад роду.

**— Але Алесь Белакоз мяркуе, што аўтар вышэй названай паэмы не хто іншы, а менавіта Сцяпан Пятэльскі. І памёр ён не ў 1917 ці 1918 годзе, а значна пазней. М. Арол, паводле слоў Алеся Белакоза, загінуў на пачатку 1920-х гадоў, магчыма, у Латвіі. Гэтага не маглі ведаць яго родныя, бо яны не вярнуліся яшчэ з бежанства, а таму былі аддзелены мяжой ад Беларусі і Латвіі. Ды і тая віленская "Крыніца" паведаміла пра смерць М. Арла не калі-небудзь, а менавіта ў 1925 годзе.**

— Пры падрыхтоўцы спадчыны М. Арла мне такія факты не трапляліся. А каб даказаць на 100 працэнтаў версію Алеся Белакоза, трэба яшчэ шмат перакапаць архіваў і дакументаў.

**— А як насамрэч склаўся лёс Янука Дарашкевіча?**

— На вялікі жаль, Янук Дарашкевіч, жывучы ў Расіі, і ад сваёй беларускасці адмовіўся. Ён загінуў на фронце Вялікай Айчыннай 24 лютага 1943 года ў Арлоўскай вобласці. Архіў яго не захаваўся.

**— Тым не менш, Сцяпан Пятэльскі і Янук Дарашкевіч з'яўляюцца аднымі з пачынальнікаў беларускай літаратуры.**

— Так. Іх смела можна называць пачынальнікамі новай беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, пачынальнікамі шчырымі і таленавітымі. І памяць пра іх у нашым народзе павінна быць дзейснай і жывой. Іх літаратурная спадчына служыць нашай беларускай культуры.

***На здымку: М. Арол***

# Шукаючы даўніну

## Ля сцен Мірскага замка прайшоў фэст сярэднявечнай культуры

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Анатоля Дрыбаса

**"Хочаце, я пакажу вам сапраўднае сярэднявечча?" — пытаецца ў мяне прыхаджанка Марына Язерская, калі заходжу ў мірскі Мікалаеўскі касцёл (XVI — XVII стст.). "Вядома", — пагаджаюся я і следам за сваёй правадніцай, крыху хвалюючыся, спускаюся ў сутарэнні. І не расчароўваюся. Тут размешчана ўсыпальніца. Два гады таму, з прызначэннем новага святара, сутарэнні сіламі саміх прыхаджан адрамантаваныя. Цяпер іх могуць наведаць усе ахвотныя і адчуць дух даўніны і містыкі. Але ў Міры, каб адшукаць сляды Сярэднявечча, шмат намаганняў прыкладаць не трэба. Асабліва ж лёгка было здзейсніць падарожжа ў мінулае падчас фэсту сярэднявечнай культуры "Спадчына стагоддзяў", у якім прынялі ўдзел больш як 600 удзельнікаў з Беларусі, Расіі, Украіны.**

З якіх элементаў складаецца сучаснае ўяўленне пра сярэднявечча? Бітвы, турніры, росквіт манаскіх ордэнаў, танцы, музыка, кірмаш, адмысловы быт. Можна смела сцвярджаць, што ўсе гэтыя элементы прысутнічалі ў Міры падчас фэсту. Пачнём з ***бітваў і турніраў***. Канцэпцыя фэсту адрознівалася ад астатніх фестываляў, што раней праходзілі ў Беларусі. Ва ўнутраным двары замка ўзноўлены пешы рыцарскі турнір XIV — XV стст. з тэатралізаваным прадстаўленнем, адбыліся тактычныя групавыя бітвы ў фармаце "двор на двор". На жаль, з-за вялікай колькасці наведвальнікаў далёка не ўсе ахвотныя мелі магчымасць стаць сведкамі гэтай яркай падзеі. Але бугурт, што прайшоў увечары на больш адкрытай пляцоўцы, маглі назіраць усе. І гэта было незабыўнае відовішча. Каля 200 воінаў у сярэднявечных даспехах, чые начышчаныя шлемы і панцыры blішчэлі ў промнях сонца, сышліся ў бітве — Усход супраць Захаду. Можна нават сцвярджаць, што гледачы сталі сведкамі сапраўднай сярэднявечнай бітвы, — бугурт як па колькасці ўдзельнікаў (у той час бітвы былі нешматлікімі), так і па зброі і тактыцы вядзення бою адпавядаў крытэрыям і маштабам сярэднявечча.

***Кірмаш.*** На кірмашы, што разгарнуўся каля замка, можна было паспрабаваць сілы ў майстэрстве кідання сякеры, адчуць сябе пішчарам, апрануўшы даспехі (праўда, крыжацкія), набыць сярэднявечныя медныя і срэбныя ўпрыгажэнні, зброю, зёлкі і нават… індульгенцыі. Але ў адрозненне ад сапраўднай паперы, што вызваляла ад пакарання за грэх і не мела фіксаванай цаны, сучасныя індульгенцыі цану мелі, і іх кошт залежаў ад матэрыялу і тэхнікі выканання. "Затое яны завераныя рэканструяванай пячаткай самога папы", — заўважае гандляр — манах-бенедыктынец.



***Быт.*** У рыцарскі стан — даручы, самы вялікі, што калісьці быў падчас беларускіх фэстаў, — маглі трапіць далёка не ўсе наведвальнікі. Але з другой спробы, толькі прад'явіўшы журналісцкую акрэдытацыю, я туды "прарвалася". І не пашкадавала. Сапраўдная рыцарская карчма ў шатры, пах вогнішча, адмысловы посуд, вяры, якія адпачываюць на сене, рыхтуюць даспехі і зброю да наступных бітваў… "Вось гэта сапраўднае сярэднявечча", — думала я, блукаючы (сапраўды блукаючы) па лагеры.

***Музыка і танцы.*** Які фэст можа абысціся без сярэднявечнай музыкі і танцаў? Іх было даволі і тут. Майстар-класы ад танцавальнага калектыву "Фламея", вячэрнія выступленні гуртоў "Стары Ольса" і "Testamentum Terrae", начное агнёвае шоу шальмоўскага тэатра "Ды Грыза" сталі яркім акцэнтам свята.

***На здымку: гандляры зброяй на сярэднявечным кірмашы.***

# Легенды для замежных гасцей

Вячаслаў АФАНАСЬЕЎ

**"На Машэкаўскіх могілках Магілёва ёсць пахаванне немаўляці Аляксандра Пушкіна. Некаторыя сцвярджаюць, што гэта пазашлюбны сын вялікага паэта, "плод любви несчастной" падчас знаходжання Аляксандра Пушкіна ў Магілёве". Так пачынаецца нарыс Ільі Куркова і Ігара Пушкіна, што мае назву "Аляксандр Сяргеевіч на вуліцах Магілёва", змешчаны імі ў зборніку "Магілёўшчына: легенды, падзеі, людзі" (Мінск, 2004). Адсутнасць разгорнутага каментара да гэтага, без перабольшання, сенсацыйнага паведамлення сведчыць пра тое, што аўтары цалкам з ім пагаджаюцца і дапускаюць, што такі гістарычны факт рэальна меў месца ў Магілёве. Але дакументы сведчаць пра адваротнае: такога выпадку з паэтам Аляксандрам Пушкіным у Магілёве не было і не магло быць. І вось чаму.**

Упершыню вялікі паэт наведаў горад на Дняпры ў маі 1820 года, калі накіроўваўся ў гэтак званую паўднёвую высылку. Прычым кіраўніцтва дзяржавы, ведаючы незалежны і вольналюбівы характар Пушкіна, выправіла яго не як прыватную, а як службовую асобу з даручэннем. Паэт вёз дэпешу галоўнаму апекуну каланістаў паўднёвага краю Расіі, генерал-лейтэнанту Івану Інзаву пра хуткае прызначэнне яго намеснікам Бесарабіі. Чыноўнік Міністэрства замежных спраў Іаан Кападзістрыя, інфармуючы пра гэта Інзава, піша, што даручае маладому Пушкіну даставіць гэтую дэпешу. "Ён прыедзе да вас кур'ерам" (арыгінал па-французску).

Што значыць "ехаць кур'ерам"? Ехаць хутка, строга па вызначаным маршруце, нідзе не затрымліваючыся, бо ўсё без выключэння фіксавалася чыноўнікамі пазначэннем часу на кожнай паштовай станцыі, з улікам замены коней. Прымем да ўвагі і вельмі прыгнечаны псіхалагічны стан паэта, выкліканы высылкай, расстаннем з роднымі і блізкімі. Нарэшце, далёка не камфортныя ўмовы яго доўгай і стомнай вандроўкі. Ці мог Аляксандр Пушкін, пры ўсіх вышэй азначаных акалічнасцях, на працягу якіх-небудзь паўтары-дзвюх гадзін (час знаходжання на магілёўскай паштовай станцыі), дазволіць сабе заводзіць амурныя сувязі, ды яшчэ пры дзядзьку Мікіту Казлове, які суправаджаў яго, і на вачах цікаўных паштовых службоўцаў? Вядома ж, не! Пацвярджэнне таму — падарожная паэта, на якой адзначана, што роўна праз суткі ён знаходзіўся ў Чарнігаве, за 204 вярсты ад Магілёва.

Пра другі візіт Пушкіна ў Магілёў, што адбыўся на зваротным шляху ў Міхайлаўскае 7 і 8 жніўня 1824 года, казаць не выпадае, бо ён вельмі дэталёва апісаны ва ўспамінах А. Распопава і А. Куцынскага. Такім чынам, сцвярджэнне магчымых інтымных сувязей А. Пушкіна ў Магілёве — ёсць не што іншае, як плён уяўлення магілёўскага абывацеля. І вельмі шкада, што краязнаўцы Ілья Куркоў і Ігар Пушкін паверылі гэтай недарэчнай выдумцы.

А можа быць, аўтары кнігі самі выдумалі гэтую неверагодную гісторыю з А. С. Пушкіным? На гэта ўказвае іх наступная развага: "Нас цікавілі падзеі і факты мінулага сапраўды легендарныя (то бок прыдуманыя — ***В. А.***), тыя, што выклікалі сваёй незвычайнасцю з'яўленне паданняў. Думаецца, што гэта найвышэйшы крытэрый гістарычнай значнасці".

Не ўступаючы з аўтарамі гэтай канцэпцыі ў палеміку — яе неабгрунтаванасць цалкам відавочная — прывяду толькі словы самога Пушкіна, які ў артыкуле "Пра гісторыю пугачоўскага бунту", змешчаным у 3-й кнізе "Современника" за 1836 год, пісаў: "Што датычыць паданняў, то калі яны, з аднаго боку, каштоўныя і незаменныя, то з іншага, я з вопыту ведаю, як шмат патрабуюць яны строгай праверкі і абачлівасці".

На жаль, Ілья Куркоў і Ігар Пушкін не здолелі ў належнай меры скарыстацца гэтай выдатнай парадай. Акрамя таго, дзеля сваіх мэт яны пайшлі яшчэ далей. "Так склалася, — пішуць яны, — што аднаго з аўтараў гэтага выдання ("Магілёўшчына: легенды, падзеі, людзі") рэгулярна запрашаюць у якасці гіда для паездак замежных гасцей па Магілёўскай вобласці. Абагульняючы досвед такіх гутарак (з турыстамі. — ***В. А.***), можна сказаць, што легенды заўсёды выклікаюць найбольшую цікавасць. Часта толькі дзякуючы ім застаецца ў памяці чужынцаў тыя ці іншыя гістарычныя мясціны".

Дык вось што прымусіла магілёўскіх краязнаўцаў прыдумаць легенду пра пазашлюбнага сына А. С. Пушкіна, пахаванага на Машэкаўскіх могілках Магілёва. Міжволі ўзнікае пытанне: а якія легенды яны збіраюцца прыдумаць пра выдатных беларускіх паэтаў, каб у замежных гасцей засталіся ў памяці гістарычныя мясціны Беларусі?

# Паэзія



Таццяна Сівец

* * *

*Ты незнарок прайшоў мяне наскрозь.*
*Так працінае куля. Толькі горлам*
*Пульсуюць словы, як старая кроў…*
*Я ўсё імкнуся падавацца гордай,*
*Не цямячы, што ТЫ спусціў курок.*

*Той дзень, калі… Чакае забыцця…*
*Прыязны, як няверная каханка.*
*Я не паверу памяці, хаця б*
*Яна сама спынілася на ганку…*
*Ты перамог… Ды я спаліла сцяг!*

*Без перамоў — былое ў грубку… Бач!*
*Хацелася мне вечнасці і снегу!!!*
*Нічога не змянілася, хіба*
*На сон не перачытваю Сенеку,*
*Але я і раней яго… Прабач…*

*Мне так патрэбны хтосьці,*
*каб сказаць,*
*Што мы былі…*
*І ёсць… І, пэўна, будзем…*
*Што словы ўсе — такая драбяза!..*
*Што з гэтага стракатага бязлюддзя*
*Так невылечна хочацца назад…*

* * *

*Я мусіла цябе выкрасліць,*
*Выразаць у мантажы,*
*Каб ты ані словам, ні позіркам*
*Не замінаў мне жыць!*
*Каб вочы твае зімовыя*
*Не звастрыліся — у нажы,*
*Каб ты не зрабіўся ні родным мне,*
*Ні чужым…*

*Я павінна была цябе вераснем*
*Вывесці да дзвярэй!*
*І ніякіх там, знаеш, вершыкаў…*
*Каб ані ямб, ні харэй*
*Не распавёў табе*
*І не выгукнуў (хоць зарэж!),*
*Што ты для мяне найлепшаю*
*З Гіпербарэй…*

*Быў. Быццам воцату ў малако дадаў —*
*Так смачней?*
*Я вып'ю, не пакрыўлюся*
*(хіба толькі твар цямней)…*
*Бо аніхто больш каменя*
*З сэрца майго не скране!..*
*І не будзе па-над табою іншага неба,*
*Акрамя мяне…*

* * *

*Гэтыя рыбы кардонныя*
*Маюць крылы, але не маюць імёнаў…*
*Калі хочаш быць госцем*
*Між іх плямёнаў,*
*Помні, што ты не дома!*
*Помні, што хтосьці*
*Заўсёды побач, прыдуманы, невядомы…*
*Ён на гэтым памосце*
*Іграе разумныя ролі*
*І кажа дурныя фразы,*
*Каб нам здавалася, што мы разам*
*Вартыя вечнасці і гастроляў*
*Па зорным краі...*
*А потым закручвае венцель*
*І кажа: "Ўсяго вам добрага!"*
*Дорага?*
*Ды няпраўда!*
*Самая танная рэч у свеце —*
*Маё каханне!*
*Я ж добрая,*
*Аддам яго за пяшчоту і за нахабнасць,*
*За смецціквецце*
*Словаў,*
*За ціхае "мая радасць",*
*За неба, падранае і падоранае…*
*І галоўнае —*
*За тое, што мы падобныя…*
*Да рыбаў кардонных…*

## На Купалле

*Мы пазнаем адно аднаго*
*па знаках на нашых скронях.*
*У некаторых яны — валошкамі —*
*прараслі праз скуру…*
*Нашыя пальцы пахнуць рамонкамі —*
*водар такі чароўны,*
*што хочацца захаваць яго, затрымаць*
*яго нейкай камераю-абскурай!*
*Мы паплывём па Свіслачы —*
*кінутымі вянкамі...*
*(Ранкам — забудуць,*
*ранкам не будзе знаку!)*
*Што там папараць!*
*Калі неба спявала і плакала пад рукамі,*
*покуль мы выразалі з яго —*
*нашу самую лепшую выцінанку!..*

* * *

*Ведаеш, быць шчаслівым —*
*зусім не цяжка!*
*Гэта нават лягчэй,*
*чым пёрка злавіць рукою.*
*Божухна, хто я табе?*
*Ну, што я табе такое?!*
*Чаму ты ізноў ламаеш мяне,*
*раздзіраеш мяне на часткі?..*

*Слухай, Госпадзі,*
*колькі там засталося — да самалёта?*
*Да таго, як ён зробіць усіх нас*
*падобнымі да анёлаў?..*
*Быць шчаслівым —*
*зусім не значыць — заўжды вясёлым*
*(гэта пабочны эфект,*
*калі хочацца цалавацца альбо галёкаць)…*

*Шчаслівым не трэба ні ваяваць з сабой,*
*ні мірыцца…*
*Шчаслівыя носяць крылцы*
*на сандалетах…*
*Ты прачынаешся, бачыш —*
*навокал лета!*
*І ад таго, хто побач,*
*пахне каваю і карыцай!*



Фота Віктара Кавалёва



Ніяна Загарэўская

## «Жыць зямным, клапаціцца аб вечным…»

* * *

*Стогне душа:*
*ёй ці самоту адолець?*
*Выратавання адкуль прычакаць?*
*Час вырашаць:*
*Можа, нясцерпную долю*
*змяніць магутнага Бога рука?*

*Прагне жыцця*
*дух, скайманы ў няпраўду,*
*Клікаць? Каго? І чаго пазбягаць?*
*Да забыцця*
*сэрца стамлёнае рада*
*ўсмешку скупую чыюсьці прыняць…*

*Верыць вясне,*
*тоячы ціха надзею,*
*хоча аддана ізноў палымнець.*
*Знішчыцца снег.*
*Сонца пяшчотай надзеліць*
*і не дазволіць душы заінець.*

* * *

*Сярод шумнай нудзьгі чалавечай*
*сэрца марыць і плача аб нечым,*
*яно кліча пяшчоту, спагаду,*
*ды часцей сустракае ўсё ж здраду.*
*Сэрца ціха сумуе па небе,*
*бо душы аднаго толькі трэба:*
*сярод тлумнай зямной мітуснечы*
*жыць зямным, клапаціцца аб вечным.*

* * *

*Разыдземся, не сустрэўшыся…*
*Бераг. Разводдзе. Крыгаход.*
*Сонцам яшчэ не нагрэўшыся,*
*плача перадвеснем лёд.*
*Вецер, пяшчоту тоячы,*
*пранізвае холадам твар.*
*Зямля, паратунку молячы,*
*здымае снегу цяжар.*
*Сонца яшчэ за хмарамі,*
*вясна ж аб'яўляе бой…*
*Не захлынуўшыся марамі,*
*нам час развітацца з табой.*

* * *

*Заплачу: ранак веснавы*
*пасля зімы зямліцу песціць.*
*Пакуль — вясна з зімой на "вы",*
*пакуль яшчэ прастору цесна.*
*Ды ўсё ж, няўзнак нібы, жаўрук*
*з вышыняў песню ўварвецца,*
*ўскалыша весела зару,*
*і неба сонцам засмяецца.*

* * *

*Для душы асалода — прадвесне,*
*абуджаецца даўняя песня,*
*ажывае прырода паціху:*
*Нёман збавіцца хоча ад крыгаў,*
*галак шум галасісты ў прасторы*
*зноў вясновую песню паўторыць.*
*А пратал інак чорныя вочы*
*снегу гучны сыход напрарочаць.*
*І пачнецца: аж зойдзецца песняй*
*наваколле, напоўніцца веснім.*
*І душа ад дрымоты паўстане:*
*дзякуй Богу за новае ранне!*



Галіна Нічыпаровіч

**Галіна Нічыпаровіч нарадзілася ў вёсцы Грабава Іўеўскага раёна. Працавала паштальёнам, друкавалася ў рэспубліканскіх газетах, выдала два зборнікі вершаў для дзяцей. Жыве ў вёсцы Магільна Уздзенскага раёна.**

## Не адпускай…

*Не адпускай мяне, жаданне,*
*Ў вірлівым водары лугоў,*
*Дзе прыгажосць без берагоў.*
*Тут нават не патрэбна слоў,*
*А толькі ласкі і каханне.*
*Хай дзве душы у таямніцы*
*Гайдаюцца на крылах ночы.*
*Ўзаемнасцю гавораць вочы,*
*Ды толькі зоркі не сурочаць*
*І за ракою бліскавіцы.*
*Ў дрыготкім бэзавым тумане*
*Адчуць пяшчотны крыл узмах,*
*Не зведаць, што такое жах,*
*Ўзляцець на золку, нібы птах,*
*І дакрануцца да світання.*
*Не адпускай мяне, жаданне…*

* * *

*Хтосьці скажа:*
*— Яны дзівакі!*
*Праз гады*
*Захавалі чаканне.*
*Сёння зноў,*
*Як калісь,*
*Нацянькі*
*Да цябе*
*Я бягу*
*На спатканне.*
*Як да сябра,*
*Тулюся шчакой*
*Да шурпатай кары,*
*Мне здаецца,*
*Нібы кроў,*
*Пад маёю рукой*
*Сок пульсуе,*
*Бы стукае сэрца.*
*Успаміны,*
*Як дождж веснавы,*
*Сыпанулі*
*Цяплом адчування.*
*Сведка ты*
*Той далёкай пары,*
*Пацалункаў юначых,*
*Кахання.*
*Час імклівы,*
*Вірлівы паток,*
*Лічыць нашыя вёсны*
*Няўмольна.*
*І хвілін гэтых*
*Прагных глыток*
*Падарункам прымаю*
*Свавольным.*

## Не пярэч

*Ты шапні мне*
*Пры расстанні словы*
*Пра заветнае*
*І жаданае.*
*Ды не трэба,*
*Не стаў зноў умовы,*
*Бо жыццё —*
*Яно й так складанае.*
*Ці застанься,*
*Малю,*
*Да раніц,*
*Каб прадоўжыць*
*Хвілінкі сустрэч.*
*Кажаш:*
*Я не твая абранніца?!*
*А вось вечар —*
*Ён наш,*
*Не пярэч.*

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**13 ліпеня 2011 года ў рэзідэнцыі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Францыі ў Рэспубліцы Беларусь адбылася ўрачыстасць — напярэдадні Дня вызвалення Бастыліі спадар Мішэль Рэнэры ўручыў Ордэн Мастацтваў і літаратуры генеральнаму дырэктару ТАА "Макбел" Дзмітрыю Макараву, дырэктару Мінскай абласной бібліятэкі Наталлі Чуевай і перакладчыку і выдаўцу Зміцеру Коласу.**

# Кавалеры французскага ордэна



Салман Рушдзі, Эльдар Разанаў і Валянцін Юдашкін. Афіцэры — Франсуа Міттэран, Уладзімір Співакоў, Іна Чурыкава, Юрый Башмет. Камандоры ордэна — Жан-Поль Бельмандо, Эмір Кустурыца, Міхаіл Гарбачоў і Юрый Любімаў.

## Пачатак пакладзены

Францыю і Беларусь звязваюць даўнія сяброўскія сувязі. У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна з 1996 года працуе Франка-беларуская зала інфармацыі пра сучасную Францыю, фонд якой складаюць больш як 7 тысяч кніг на французскай мове, 600 на рускай, 250 аўдыё- і больш як тысяча відэакасет. Папулярныя ў мінчан і гасцей сталіцы тыдні франкафоніі. За плённую працу ў далучэнні беларусаў да культуры Францыі адзначана дырэктар Наталля Чуева, якая шмат гадоў кіруе бібліятэкай.

З унушальнай панарамай сучаснай французскай драматургіі чытачы могуць пазнаёміцца на беларускай мове дзякуючы намаганням перакладчыка і выдаўца Зміцера Коласа, якія таксама не засталіся незаўважанымі. (На яго рахунку кнігі Жана-Поля Сартра "Мур", біяграфічная кніга Жана Лякуцюра Шарля дэ Голя, "Развагі пра метад" Рэнэ Дэкарта, "Ліст да страчанага сябра" Патрыка Бэсона.)

Высока ацэнены і заслугі генеральнага дырэктара ТАА "Макбел" Дзмітрыя Макарава, аднаго з нязменных арганізатараў Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. А вось у краіне, якая адзначыла яго шматгадовую дзейнасць на карысць культуры, Дзмітрыю Генадзьевічу пабываць пакуль не ўдалося.

Каментуючы падзею, ён паведаміў:

— Вельмі прыемна атрымліваць узнагароды, асабліва, калі ніякіх юбілеяў няма. Работу пасольства Францыі можна паставіць за прыклад — актыўны нефармальны падыход: заўсёды цікавыя культурныя праграмы музыкі і кіно, а цяпер яшчэ і выдавецкія праекты.

Мы кантакталі падчас кніжных выставак і дамовіліся пра здзяйсненне такога праекта. Нават у параўнанні з Расіяй, на культурнае супрацоўніцтва з якой выдаткоўваліся непараўнальна большыя грошы, вынік больш істотны — распачатая намі серыя сучаснай французскай літаратуры налічвае 23 найменні. Каб не парушаць цэласнасць успрымання, мы ўсе гэтыя гады захоўваем дызайн вокладкі. (У Расіі французскі бок не знайшоў аднаго пастаяннага партнёра, сучасная літаратура выходзіць асобнымі кніжкамі ў розных выдавецтвах. Шкада, з беларускага боку нельга выдаткаваць такія сродкі на прасоўванне сучаснай беларускай літаратуры на кніжны рынак Францыі.)

Мяркую, і спадар Гарсэн, і наведвальнікі выстаўкі-кірмашу запомнілі аўтограф-сесію ў Мінску ў пазамінулым годзе. Кнігі ў цвёрдай вокладцы на белай паперы (у тым ліку і "Палёт паштовага голуба" Крысціяна Гарсэна) прадаваліся па сімвалічным кошце — ад 3 да 10 тысяч рублёў. І таму па аўтограф сабраўся натоўп.

У гэтай серыі, падкрэслю, друкуюцца творы, ужо адзначаныя прэстыжнымі заходнімі літаратурнымі прэміямі. А гэта пэўны ўзровень.

Такое супрацоўніцтва ідзе на карысць. Планка, узнятая пасольствам Францыі ў якасці ганаровага госця Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу, калі звяртацца да спартыўнай тэрміналогіі, прымусіла другую сусветна вядомую кнігавыдавецкую дзяржаву — Германію — паставіць свой рэкорд. Публіка ад гэтага толькі выйграла. Спадзяёмся, і іншыя ганаровыя госці Мінскага кніжнага кірмашу выступяць на адпаведным узроўні. А мэта арганізатараў — пазнаёміць беларускіх чытачоў з літаратурай усяго свету, а не толькі постсавецкай і еўрапейскай. Не адмовіліся б прадставіць і літаратуру Афрыкі. На жаль, пакуль няма такога праекта.

І мы, бадай, з кагорты нямногіх, хто сёння не зрабіў пераацэнку кніжнай прадукцыі. Мы павінны падтрымаць чытача. Калі гаворка ідзе пра культуру, далёка не ўсё вымяраецца памерам прыбытку.

***На здымку: Зміцер Колас, Дзмітрый Макараў, Мішэль Рэнэры, Наталля Чуева.***

## З гісторыі ўзнагароды

Ордэн Мастацтваў і літаратуры, назву якога перакладаюць іншым разам як Ордэн Мастацтваў і (прыгожага) пісьменства (фр. L'Ordre des Arts et des Lettres) — узнагарода Францыі, якую ўручае Міністэрства культуры і камунікацый. Заснавана дэкрэтам 1957 года з мэтай уганаравання асоб, якія вызначыліся сваімі дасягненнямі ў мастацкай ці літаратурнай дзейнасці ці ўкладам, унесеным у распаўсюджванне мастацтва і літаратуры Францыі ва ўсім свеце. (Дарэчы, узрост прадстаўленых да ордэна павінен быць не меней як 30 гадоў.)

Рашэнне пра ўзнагароджанне прымае міністр культуры і камунікацый пры садзейнічанні спецыяльнага Савета, у які ўваходзяць 12 членаў "па праве" (кіраўнікі ўпраўленняў і ўстаноў міністэрства) і 13 прызначаных на 5 гадоў міністрам (адзін член Савета ордэна Ганаровага легіёна і 12 дзеячаў з мастацкіх і літаратурных колаў).

Васьміканцовы крыж з раздвоена-ўвагнутымі промнямі і шарыкамі на канцах на зялёнай з чатырма белымі вертыкальнымі паласамі стужцы мае тры ступені: найвышэйшую — камандор (залаты знак на стужцы носяць на шыі); афіцэр (залачаны знак на стужцы з разеткай носяць на грудзях з левага боку); кавалер (сярэбраны знак на стужцы носяць на грудзях з левага боку).

Уручаюць узнагароду два разы на год — 1 студзеня і 14 ліпеня. Прэстыж ордэна падтрымліваецца абмежаванай колькасцю — не больш як 50 чалавек за год могуць атрымаць ступень камандора, 140 — афіцэра і 450 — кавалера.

Сярод кавалераў ордэна — Васіль Аксёнаў, Хорхе Луіс Борхес, Леанарда Дзі Капрыа,

***Прэзентацыя***

Вольга ПАЛОМЦАВА

# Ганарымся разам

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адбылася прэзентацыя кнігі Яцэка Паўловіча "Ротмістр Вітольд Пілецкі. 1901—1948" і адкрылася дакументальная выстаўка, прысвечаная чалавеку, якога вядомы англійскі гісторык Майкл Фут у сваёй кнізе Six Faces of Courage называе ў ліку шасці самых адважных людзей у руху Супраціўлення.

У гады Другой сусветнай вайны Вітольд Пілецкі па сваёй волі трапіў у Асвенцым, "пекла на зямлі", каб заснаваць там польскае падполле. Жыць, працаваць і загінуць для радзімы, калі ёй гэта спатрэбіцца, — такі быў яго дэвіз. На яго рахунку ўцёкі з Асвенцыма, удзел у Варшаўскім антыфашысцкім паўстанні, канцлагеры ў Ажарове, Лансдорфе, Мурнау, адкуль у 1945 годзе вызваляць амерыканцы. І




арышт 8 мая 1947 года па абвінавачванні ў шпіянажы. 25 мая 1948 года ротмістра расстралялі, месца пахавання засталося нявысветленым, і яшчэ ў 1957 годзе спробы жонкі дабіцца яго рэабілітацыі былі безвыніковымі. Вяртанне з нябыту і ўзнагароды прыйшлі пазней: у 1986 — Ордэн Жалезнай Зоркі стойкасці Варшаўскага касцёла, 1988 — пасмяротны Асвенцымскі Крыж, 1990 — Варшаўскі Паўстанцкі крыж, 1995 — Камандорскі крыж Ордэна адраджэння Польшчы. Рэабілітаваны 1 кастрычніка 1990 года.

"Гэта лепшая гістарычная кніжка 2009 года ў Польшчы, — адзначыў дырэктар музея Сяргей Вечар. — Беларусы могуць з поўным правам ганарыцца легендарнай асобай, яго подзвігам — кожны дзень не толькі балансаваць на мяжы жыцця і смерці, але і актыўна змагацца з ворагам. Пілецкі наш па крыві, яго карані — на Навагрудчыне".

Імпрэза была арганізавана Польскім Інстытутам у Мінску. У ёй прынялі ўдзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шарэпка, саветнік пасольства Веслаў Раманоўскі, прадстаўнікі Інстытута нацыянальнай памяці Яцэк Паўловіч і Войцэх Мушынскі.

Як паведаміў В. Раманоўскі, Мінск стане адной з дзесяці культурных сталіц Еўропы, у якіх Польшча з нагоды таго, што яна паўгода будзе старшыняваць у Еўрасаюзе, правядзе шмат культурных мерапрыемстваў. Жыхары і госці сталіцы Беларусі змогуць бліжэй пазнаёміцца з польскай музыкай, кіно, мастацтвам. Апрача таго, пастаянна будуць праходзіць сустрэчы з польскімі літаратарамі. "Нам вельмі важна замацаванне добрасуседскіх адносін паміж Польшчай і Беларуссю, Расіяй, Украінай. І культура — добры падмурак для іх", — адзначыў спадар Раманоўскі.

***У падтрымку чытання***

**Уладзімір Шчасны, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, пасол па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў Беларусі:**

## «Сярод любімых аўтараў — Багдановіч, Купала, Колас, Гарэцкі»

Вольга НОРЫНА,
фота Кастуся Дробава



— На мой светапогляд кожная кніга зрабіла пэўны ўплыў. Сярод самых любімых аўтараў — калі прыгадваць беларускую літаратуру, бясспрэчна, Уладзімір Караткевіч, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі. З рускіх пісьменнікаў на першым плане — Канстанцін Паўстоўскі.

З апошніх прачытаных кніг назаву вельмі цікавыя мемуары "Багаж касмапаліта", іх аўтар — Мікалай Набокаў, наш зямляк, стрыечны брат Уладзіміра Набокава, вядомы кампазітар. Вельмі цікавая асоба: ён нарадзіўся ў Любчы, там правёў дзяцінства. І хаця беларускай крыві не мае, піша "я быў і заўсёды буду беларусам". Мяркую, нам удасца ў гэтым годзе правесці ў Міры музычны фестываль, прысвечаны Мікалаю Набокаву.

## Мастак і кніга

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Яе майстэрня — намолены карпатлівай працай храм Мастацтва — месціцца на дзявятым паверсе. На палотнах — краявіды Белавежскай пушчы, з тых мясцін яе бабуля. Нават халодныя, зімовыя, яны супакойваюць душу светлым сумам. Карціны, у кожнай з якіх сканцэнтравана мноства ўспамінаў, лялькі, узоры "прымітыўнага народнага мастацтва", з любоўю сабраныя падчас вандровак з заўчасна загінуўшым мужам Гары Якубені па Палессі. "Мы захапляліся прымітыўным мастацтвам". І мноства букетаў някідкіх кветак на рознага памеру палотнах.**



# А для душы малюю кветкі

Алену Георгіеўну ведаюць у першую чаргу як мастака дзіцячай кнігі. Самыя першыя работы — паэтычныя зборнікі Дануты Бічэль: выдадзены ў пачатку 1961 года "Дзявочае сэрца", "Дзічка" (1971), "Габрынька і Габрусь" (1985); зборнік прозы "Блакіт і золата дня" (1961) Уладзіміра Караткевіча… (У часопісе "Нёман" друкаваліся яго лісты да мастачкі: "…я видел обложку и шмуцтитулы к "Блакіту..." и прямо восхищён ими: современно, лаконично, чисто — просто здорово. Это первая работа над моей книгой, которая мне понравилась".) Шмат гадоў усмешлівымі тварыкамі дзяцей і забаўнымі выявамі жывёл любаваліся чытачы дзіцячага часопіса "Вясёлка".

**— Алена Георгіеўна, што паўплывала на ваш выбар прафесіі?**

— Нават не ўяўляла, што магу стаць яшчэ кімсьці — толькі мастаком. Схільнасць маляваць у мяне ад таты. А яшчэ ў нашай сям'і вельмі любілі чытаць.

**— Прыгадайце, калі ласка, які-небудзь выпадак, звязаны кнігай.**

— Самы горкі ўспамін дзяцінства: мы жылі на другім паверсе драўлянага дома, падчас пажару ён абрушыўся. Я хадзіла на папялішча, шукала ў тым месцы, куды маглі ўпасці кнігі, і знайшла аплаўленыя "цагліны" тамоў.

У тыя часы кнігі многіх паэтаў было складана купіць. Помню, мама чытала мне вершы Ігара Севяраніна на памяць. І іншых "забароненых". І запісвала іх для мяне ў сшытак. Шмат гадоў і я вяла такі рукапісны збор паэзіі.

**— Хто з мастакоў-сучаснікаў паўплываў на вашу творчасць?**

— Таццяна Маўрына і Мікалай Кузьмін. З Таццянай Аляксееўнай пазнаёміліся на яе выстаўцы. Мы з Гары толькі што вярнуліся з вандроўкі ў Паволжы, дзе вельмі шмат малявалі. І на яе карцінах краявіды, якія мы толькі што бачылі, выглядалі зусім па-іншаму: казачна, ярка, гучалі зусім іншай "мовай". З іх сям'ёй сябравалі шмат гадоў, Мікалай Кузьмін — вядомы кніжны графік, аўтар ілюстрацый да твораў Пушкіна. Яны пражылі па 96 гадоў. Я нават саромелася паказваць ім свае работы — настолькі гэтыя людзі былі тады аўтарытэтныя. Мае сяброўкі паўплывалі — таленавітыя мастачкі Валяр'яна Жолтак і Аляксандра Паслядовіч. Аляксандра асмелілася на персанальную выстаўку вельмі позна. Цяжкахворая, яна ўжо не змагла на ёй прысутнічаць…

*Візітка:*
*Алена Лось нарадзілася 22 студзеня 1933 года ў Вільнюсе. Скончыла Вільнюскі мастацкі інстытут у 1955 годзе. Удзельнік мастацкіх выставак з 1956 года. За кнігу В. Віткі "Ладачкі-ладкі" (1977) узнагароджана дыпломам імя Ф. Скарыны рэспубліканскага конкурсу "Мастацтва кнігі" і дыпломам I ступені на Усеагульнасаюзным конкурсе 1978 года. Дыпломам імя Ф. Скарыны адзначана і кніга А. Лось "Дзесяць дзён у Барку".*



**— Горад, якому належыць ваша сэрца?**

— Гэта Вільнюс — горад маёй маладосці, куды мы пераехалі з Ружан у 1948 годзе. Я скончыла там школу і ў шаснаццаць гадоў паступіла ў Вільнюскі мастацкі інстытут. (Першай кніжкай, якую аздобіла, стала дыпломная работа — літоўская казка.) І пасля яго заканчэння два гады не магла ўладкавацца на працу, хаця выдатна ведала літоўскую мову, — сказалі, паглядзеўшы мае малюнкі, што я не адчуваю літоўскага духу.

**— Відаць, вам прадвызначалася шчыраваць у беларускай кніжнай графіцы. А як вы трапілі ў Мінск?**

— Да сяброўкі маёй мамы прыехала ў госці Алена Аладава. Убачыла мае работы і запрасіла прыехаць у Мінск. Так я апынулася ў Белдзяржвыдаце.

(На рахунку Алены Лось, якая з 1957 года працавала ў розных выдавецтвах Беларусі, — цэлая бібліятэка самых розных выданняў: зборнікі беларускіх народных казак "Ох і залатая табакерка" (1967), "З рога ўсяго многа" (1968), кніжкі А. Якімовіча "Вераб'ёвы госці" (1960), В. Віткі "Дударык" (1965), З. Бядулі "Скарб" (1966). Прафесіяналізм графіка-ілюстратара пастаянна адзначаўся высокімі ўзнагародамі на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах на лепшае афармленне кніг. — **В. П.**)

**— Я помню кніжку "Дзесяць дзён у Барку", дзе вы выступілі не толькі як мастак, але і як аўтар.**

— Пяць гадоў запар у канцы 1970-х я кожнае лета ездзіла ў невялічкую вёсачку Млынок, што стаіць на беразе Прыпяці на Гомельшчыне. Мае ўражанні ляглі ў аснову кнігі, толькі Млынок пераўтварыўся ў Барок. Кніга "Дзесяць дзён у Барку" ўбачыла свет у 1984 г. у выдавецтве "Юнацтва".

**— Як прыходзіць да вас натхненне?**

— Калі вучылася, педагогі параілі — заўсёды трымайце пры сабе блакнот і аловак. Працаваць трэба пастаянна, а не бавіць час у чаканні натхнення. На канцэрце, у парку, у вандроўках. Гэтага правіла і прытрымлівалася ўсё жыццё.

**— Над чым ахвотней працуеце сёння?**

— Вельмі люблю маляваць кветкі. Не аранжарэйныя, а простыя палявыя, падораныя мне сябрамі. Гэта — для душы.

***На здымках: ілюстрацыі Алены Лось ды Гары Якубені да кнігі Пімена Панчанкі "Чатыры кантыненты" і Алены Лось да кнігі вершаў Максіма Танка "Глыток вады".***

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Жвалевский, А. В. Гимназия № 13 / Андрей Жвалевский, Евгения Пастернак. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 312 с.**

Пра старажытных славян сёння вядома вельмі мала, пра багоў, якім яны пакланяліся да прыняцця хрысціянства, — яшчэ менш. Пярун, Вялес, Дажбог, Лёля згадваюцца ў "Аповесці мінулых гадоў", "Слове пра паход Ігара" і іншых помніках літаратуры, але падрабязных звестак пра іх не захавалася. А калі штосьці невядома, трэба… фантазіраваць. Як гэта і робіць у сваім рамане-казцы Андрэй Жвалеўскі і Яўгенія Пастэрнак. Героі гэтай казкі — незвычайныя істоты: Кашчэй, кот, які размаўляе (заўважылі алюзію на раман "Майстар і Маргарыта" М. Булгакава?), русалка — дзейнічаюць у рэальным свеце.



**Беларуская літаратурная спадчына: анталогія. У 2 кн. Кн. 1 / уклад. С. А. Курбанава і інш. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 1029 с.**

Пры выбары тэкстаў для гэтай анталогіі укладальнікі кіраваліся вучэбнай праграмай па беларускай літаратуры для 5 — 11 класаў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання. Таму выданне — найбольш поўны збор літаратурных твораў, што вывучаюць школьнікі, і яно дазваляе атрымаць агульнае ўяўленне пра багацце беларускай літаратуры XI — пачатку XXI ст. У першай кнізе анталогіі літаратурныя творы падаюцца ў храналагічным парадку, яны дапаўняюцца звесткамі пра аўтараў, тлумачэннямі, гістарычнымі даведкамі, ілюстрацыямі.



**Астрэйка, А. Прыгоды Дзеда Міхеда / Анатоль Астрэйка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 183 с.**

Хто лепш раскажа пра Беларусь-партызанку, як не баец партызанскай брыгады, адказны сакратар газеты-плаката "Раздавім фашысцкую гадзіну" Анатоль Астрэйка. У вобразе галоўнага героя паэмы "Прыгоды дзеда Міхеда" (1956) увасоблены лепшыя рысы беларускага народа: зычлівасць, кемлівасць, трывушчасць, добрае пачуццё гумару. Менавіта такі характар дазваляе адважнаму і хітраму дзеду заставацца пераможцам у самых безвыходных становішчах. Гэтая паэма прынесла Анатолю Астрэйку папулярнасць, нават падчас выступленняў аўтара ў клубах і на вечарынах, гледачы яго не адпускалі са сцэны і прасілі пачытаць раздзелы з кнігі пра прыгоды незвычайнага дзеда.



**Блок, Л. Вор во ржи / Лоуренс Блок; пер. с англ. С. Бавина. — Москва: Иностранка, 2010. — 432 с.**

Назва рамана перагукаецца з самым вядомым творам Джэрома Сэлінджэра "Над прорваю ў жыцце". Уласна, яму і прысвечаны дэтэктыў Лоўрэнса Блока, напісаны яшчэ пры жыцці геніяльнага празаіка. Герой Блока — злодзей-інтэлектуал, аматар літаратуры і мастацтва. Днём ён прадае кнігі ў букіністычнай краме, а ноччу ператвараецца ў злодзея-віртуоза. І вось аднойчы, трапіўшы ў гатэльны нумар за лістамі "вялікага затворніка" (здагадаліся, каго?), ён знаходзіць забітую жанчыну…

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара рубрыкі: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўленыя магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**



Сяргей Белаяр

# Маўчанне нябёсаў

## Фантастычнае апавяданне

**Пісьменнік Сяргей Белаяр, які жыве і працуе ў Брэсце, прапануе чытачам "ЛіМа" новае фантастычнае апавяданне "Маўчанне нябёсаў". У ім жыхары Зямлі наладжваюць кантакт з братамі па розуме, што адгукнуліся на ўмоўны сігнал дзесьці ў бяздонных глыбінях Галактыкі...**

*Навукова-даследчая лабараторыя НАСА. ЗША.*
*14.09.2010 г.*

Палкоўнік Юрген Дзітль, куратар праекта пошуку пазаземнага розуму, спыніўся каля дзвярэй лабараторыі назірання за касмічнай прасторай. Выцягнуў насоўку. У каторы раз за апошнюю гадзіну выцер твар. Абцягнуў мундзір, шкадуючы, што нельга аслабіць вузел гальштука. Лета выдалася гарачым. Наступствы глабальнага пацяплення…

Дзітль запхнуў скамечаную насоўку ў кішэню і звыклым рухам прыклаў пропуск да сістэмы скaніравання. Дазволіў штучнаму інтэлекту зверыць сятчатку вока. Затым штурхнуў масіўныя металічныя дзверы.

— Добры дзень, спадар палкоўнік! — дзяжурны назіральнік Гары Сілверсберг падняўся са свайго месца. Выцягнуўся. Услед за ім ускочылі і астатнія навукоўцы.

Юрген кіўнуў. Падышоў да пульта. Спыніўся, уважліва пазіраючы на манітор. Па вялікім экране цягнуліся бясконцыя слупкі дадзеных. Дыяграмы, графікі, схемы, табліцы... Каласальны масіў вынікаў маніторынгу касмічнай прасторы для недасведчанага падаўся б сапраўднай бязглуздзіцай, аднак персанал лабараторыі па-майстэрску арыентаваўся ў плыні інфармацыі, заўважаючы любыя звесткі, якія датычылі магчымасці існавання іншапланетных цывілізацый. Вялікія антэны, усталяваныя над шматметровым пластам зямлі і бетону, што прыкрывалі даследчы цэнтр, дазвалялі зазірнуць углыб бязмернага космасу, дацягнуцца да самых аддаленых яго кропак. Магутная апаратура пастаянна прасейвала радыёдыяпазон, уважліва сачыла за станам зорак, адзначала любыя прыкметы электрамагнітных сігналаў штучнага паходжання.

Для свайго часу лабараторыя была перадавой. Укладзеныя ў яе мільярды гаварылі лепш за ўсялякія словы. На жаль, даследчы цэнтр так і не змог атрымаць станоўчага выніку. Космас маўчаў, і яго маўчанне з'яўлялася строга вызначаным навуковым фактам, які варта было прыняць з усёй сур'ёзнасцю. І не толькі прыняць, але і зрабіць непазбежныя, няхай і горкія, высновы. Шматгадовыя мэтанакіраваныя пошукі прамых сігналаў пазаземных цывілізацый або любых слядоў іх жыццядзейнасці ні да чаго не прывялі. А калі дадаць да гэтага сумнага факта ўвесь комплекс іншых астранамічных назіранняў, аматарскіх і прафесійных, то атрымаецца вялікі аб'ём інфармацыі, які не дае ніводнай зачэпкі (няхай нават зманлівай) на карысць існавання магутных тэхнічных цывілізацый за межамі Сонечнай сістэмы.

— Можаце чым-небудзь парадаваць мяне, Сілверсберг? — стомлена спытаў Юрген, добра ўсведамляючы, якім будзе адказ падначаленага. Але ў душы Дзітля да апошняга моманту жыла надзея на цуд.

— Не, спадар палкоўнік, — пахітаў галавой дзяжурны назіральнік. — Нічога...

Дзітль цяжка ўздыхнуў, адчуваючы, як на яго плечы кладзецца шматтонная пліта расчаравання і прыгнечанасці. Мабыць, давядзецца ўсё ж прызнаць, што справа, якой ён аддаў большую частку свайго жыцця, аказалася марнай, а ў космасе няма іншых разумных форм жыцця. Усведамляць паразу было вельмі цяжка і крыўдна... А калісьці Юрген верыў у адзінства законаў развіцця матэрыі, тыповасць працэсу стварэння Сонечнай сістэмы, адсутнасць істотных падстаў для вылучэння Сонца сярод мноства падобных да яго зорак Галактыкі. Адчайна спадзяваўся, што браты па розуме ўсё ж знойдуцца. Смешна ўспомніць, з якім хваляваннем навукоўцы і рамантыкі чакалі сустрэчы з мяркуемымі насельнікамі Універсума, не хацелі нават уявіць сабе, што мірыяды цудоўных светаў космасу могуць аказацца пустымі і мёртвымі. Як свята верылі ў тое, што жыццё пакуль яшчэ звернута да насельнікаў Зямлі толькі адным сваім аблічам — тым, што вызначаецца спосабам існавання бялковых цел.

"А як багата фантаніравала наша фантазія, узброеная ведамі пра асноўныя законы развіцця прыроды, — з усмешкай падумаў Дзітль. — Якія смелыя мы стваралі гіпотэзы і тэорыі пра пазаземныя формы жыцця, пра інтэлект прадстаўнікоў зорных цывілізацый, любымі спосабамі намагаючыся прыўзняць заслону, якая хавала цуды і таямніцы бязмежнага Космасу. Самыя адчайныя галовы спрабавалі нават змадэляваць магчымы кантакт з іншапланецянамі... Ніводная з фантазій так і не ажыццявілася. Людзі аказаліся адзінымі разумнымі істотамі на ўсёй Галактыцы. Астрабіялогія, якая падавала вялікія надзеі, так і засталася прыхамаццю дзівакоў, тэарэтычным пошукам зорных экасфер. А так хацелася верыць у тое, што далёкія зоркі населены жывымі істотамі, няхай нават і іншых, невядомых дагэтуль форм..."

— Нягледзячы на ўсе нашы намаганні, — працягваў Сілверсберг, — нам так і не ўдалося непасрэдна выявіць населеныя планеты нават у бліжэйшых да нас зорных экасферах, куды могуць дасягнуць існуючыя тэлескопы. За ўсю гісторыю назіранняў атрыманы толькі ўскосныя ўказанні на іх наяўнасць. І гэта без уліку таго, што ў бязмежным Сусвеце — мільярды зорак, многія з якіх акружаюць планеты, дзе можна сустрэць атмасферу і ваду. Там сінтэзуюцца арганічныя злучэнні, якія даюць пачатак сістэмам, што пастаянна самаўзнаўляюцца. А гэта можа азначаць эвалюцыю жыццёвых форм. Тэарэтычна мы можам сцвярджаць, што космас населены мноствам рас. Вось толькі на практыцы даказаць гэтага мы не ў стане. Бліскучае пацвярджэнне парадокса Фермі. Да ўсіх іншых непрыемнасцей дадаецца і тое, што ўсе выкарыстаныя намі частоты — радыёлінія вадароду, лінія вадзяной пары, гармонікі, камбінацыі з асноўных частот з матэматычнымі канстантамі — таксама не паказалі ніводнай прыкметы населенасці Сусвету. Радыёдыяпазон аказаўся занадта шырокі, а нашы магчымасці абмежаваныя. Наяўнымі сродкамі скaніраваць усе зоркі ў ім проста немагчыма.

— А шматлюстэркавыя тэлескопы на Месяцы? Што кажуць яны?

— Пуста, як і касмічныя радыётэлескопы, — адказаў назіральнік, безнадапаможна развёўшы рукі. — У нас слабыя прыёмныя антэны. Яны не дазваляюць нам падслухоўваць "унутраныя размовы" чужых планет. Нашых магчымасцей хопіць толькі на тое, каб злавіць магутныя сігналы, якія спецыяльна прызначаны для іншых. Не мне казаць вам, спадар Дзітль, што верагоднасць гэтага занадта малая, каб прымаць яе да ўвагі. Праграма пошуку братоў па розуме залішне недасканалая, а нашы назіранні за Універсумам кароткачасовыя. Нават многім блізкім зоркам мы надалі не больш як пятнаццаць хвілін увагі! Наўрад ці мяркуемыя высокаразвітыя цывілізацыі, якія тысячы гадоў жывуць паблізу адной з такіх зорак, менавіта ў гэтую чвэрць гадзіны адправяць у наш бок магутныя радыёпазыўныя... Сумняваюся, што яны пойдуць на тое, каб траціць вялізную колькасць энергіі толькі для таго, каб не засмучаць радыёмаўчаннем сваіх менш развітых і нецярплівых суседзяў накшталт нас з вамі. Мы банальна не ведаем, на якой частаце чакаць адказу, з якога напрамку і ў які час... Тыцкаемся носам у пустэчу, спадзеючыся на ўдачу.

Адзінае, што мы маем, — нашы абстрактныя высновы. Мы шукаем сваіх разумных "братоў" па прыналежнасці месцаў іх пражывання да Галоўнай паслядоўнасці, пастаянным свячэнні цэнтральных зорак, узросце планет у інтэрвале ад чатырох да сямі мільярдаў гадоў, па адзіночных зорках, блізкіх да Сонца спектральных класаў, недалёка ад плоскасці экліптыкі, кірункаў на выдатныя астранамічныя аб'екты, на цэнтр або антыцэнтр Галактыкі... Кола пошуку шырокае, але паўсюль пуста. Мне здаецца, спадар палкоўнік, мы зайшлі ў тупік.

— Згодны, — кіўнуў Юрген. — Як бы балюча ні было гэта прызнаваць. Калі б у Сусвеце існавалі разумныя формы жыцця, мы даўно б іх сустрэлі. Дзе ж усе? Чаму маўчаць?.. Ніколі б не падумаў, што скажу такое, аднак факт застаецца фактам: усе нашы пошукі і высілкі бесперспектыўныя. Горш за тое — гэта добра разумеюць і ўлады. Прэзідэнт і Кангрэс вельмі незадаволеныя разбазарваннем грошай падаткаплацельшчыкаў. ААН наогул лічыць праграму пошуку пазаземнага розуму небяспечнай... Я не магу ісці супраць кіраўніцтва. Давядзецца закрыць лабараторыю і згарнуць усе работы па праекце SETI. Нам перакрылі фінансаванне. Бюракраты!..

Павісла паўза.

Палкоўнік быў чалавекам ваенным — прызвычаіўся падпарадкоўвацца загадам. Але закрыццё праекта прыняў з цяжкасцю. Фактычна гэта азначала крах усяго яго жыцця, памкненняў і мараў. Міжволі прыйшла крамольная думка Джардана Бруна пра тое, што людзі не адзіныя жыхары ў Сусвеце. Калісьці цяга да зорак прывяла даследчыка на вогнішча інквізіцыі. Аднак мара знайсці братоў па розуме не толькі не згарэла разам з целам вялікага астранома, але і запаліла сэрцы многіх пакаленняў даследчыкаў. І няхай людзі так і не знайшлі ніводнага пацвярджэння, што пазаземны розум сапраўды існуе, Юрген не збіраўся здавацца і засмучацца. Акрамя афіцыйных спосабаў дабрацца да таямніц Сусвету, існавалі яшчэ і прыватныя...

Дзітль пакутліва ўсміхнуўся. Жалезны характар не дазваляў яму капітуляваць перад абставінамі.

Палкоўнік памасіраваў скроні, а потым сказаў:

— Застаецца спадзявацца толькі на тое, што гіпатэтычныя пазаземныя цывілізацыі пачалі эвалюцыянаваць значна пазней зямлян і пакуль не могуць праявіць сябе. Прызнаць, што радыёхвалі — не вельмі зручны спосаб камунікацыі. Зусім неабавязкова, што "чужыя" будуць імі карыстацца... З вялікай доляй верагоднасці можа стацца, што ў Сусвеце існуюць цывілізацыі, якія проста не хочуць уступаць у кантакт ні з кім ці ідуць па замкнутым шляху развіцця. Не варта забываць і таго, што многія вучоныя і фантасты мяркуюць, што развітыя цывілізацыі ў нейкі момант самазнішчаюцца, калі не ў стане справіцца з уласнай тэхнікай ці зброяй. Прычын — сотні, і ўсе яны так ці інакш могуць патлумачыць маўчанне братоў па розуме. У выпадку, калі нам усё ж такі ўдасца выявіць хоць якую-небудзь прыкмету населенасці космасу, гэта было б найвялікшым дасягненнем людскога роду. Дазволіла б зрабіць адпаведныя высновы. Выяўленне розуму па-за межамі Сонечнай сістэмы мела б каласальнае значэнне для распрацоўкі фундаментальных праблем паходжання і сутнасці самога жыцця. Будзем рэалістамі — нам не засталося нічога, акрамя веры ў тое, што адказу на дасланыя сігналы дачакаюцца хаця б нашы далёкія нашчадкі. Паведамленні, перададзеныя гіганцкім радыётэлескопам у Арэсіба, знаходзяцца на шляху да аддаленых шаравых зорных скопішчаў. Да асноўных адрасатаў радыёпрамень будзе ісці яшчэ многія тысячы гадоў, але першых "спадарожных" зорак наша пасланне ўжо дасягнула. І калі паблізу іх разумныя істоты праслухоўваюць радыёэфір, у выпадку, калі ім на вочы трапіла наша дзіўнае паведамленне з адзінак і нулёў, калі яны здагадаюцца размясціць усе сігналы па радках і калі ў іх хопіць уяўлення і розуму, то яны, безумоўна, расшыфруюць наша немудрагелістае паведамленне ў выглядзе малюнкаў: "Мы жывём на трэцяй планеце, маем дзве нагі, дзве рукі, адну галаву..." Верыць і чакаць...

— І не забывайць пра місію аўтаматычных станцый... — нагадаў Гары Сілверсберг.

— Так, "Піянер-10", "Піянер-11", "Ваяджар" і "Ваяджар-2". Яны — наш апошні шанц дастукацца да нябёсаў. На борце зондаў знаходзіцца інфармацыя пра людскую цывілізацыю. Дадзеныя пра чалавечую расу няпоўныя, аднак агульнае ўяўленне атрымаць можна. Шкада толькі, што ў дарозе касмічныя апараты будуць мільёны гадоў, і вынікаў мы не дачакаемся. Зрэшты, гэтыя зонды, напэўна, не апошнія і калі-небудзь будуць запушчаны больш хуткасныя і куды больш дасканалыя. Навука не стаіць на месцы, і калі верыць нескладаным падлікам, то пры планамернай адпраўцы зондаў ва ўсе бакі нават пры невялікай іх хуткасці ўжо праз мільён гадоў у Галактыцы не застанецца месца, дзе б ні ступала нага чалавека ці гусеніцы робатаў! Для чалавецтва яшчэ ўсё наперадзе... Кантакт рана ці позна ўсё роўна стане рэальнасцю. Як і калі гэта адбудзецца, не ведае ніхто. Але вера будзе жыць вечна, бо менавіта яна штурхае чалавецтва да зорак, рухае прагрэс, прымушае людзей караскацца да глыбінь Сусвету... Пачынайце кансервацыю лабараторыі і эвакуацыю персаналу.

* * *

*Праз некалькі дзён.*

Цішыня даследчага цэнтра была парушана з'яўленнем дзіўнага сігналу. Магутны электрычны імпульс абудзіў змоўклае дагэтуль абсталяванне.

Праз некалькі імгненняў па маніторы пабеглі скупыя радкі тэксту:

"Вітаю вас, браты па розуме!

Людзі, ваша паведамленне прынятае. Разгледжанае вышэйшай кансультацыйнай Радай. Атрымана згода на ўступленне чалавечай расы ў зорную Канфедэрацыю. Віншуем вас!

У выпадку гатоўнасці да кантакту на працягу адрэзка часу, адпаведнага адной хвіліне па вашым часазлічэнні, пацвердзіце сваю згоду далучыцца да супольнасці Універсума.

У выпадку памылковасці гэтага паведамлення пакіньце яго без увагі. Дзякуй!

Пачынаю адлік часу: шэсцьдзесят секунд...

Пяцьдзесят дзевяць...

Пяцьдзесят восем..."

*26 жніўня 2010 года*

Таццяна ІГНАТОВІЧ

# Між Думкай, Жыццём і Тэатрам

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбыўся спектакль “Паміж двух партрэтаў” (вопыт рэканструкцыі духоўнай спадчыны Мікалая Гогаля і Сяргея Ясеніна метадам тэатральнай інтэрпрэтацыі), які стаўся з’явай у сцэнічным мастацтве. Гэта заслуга арганізатара і выканаўцы, артыста, рэжысёра Беларускага радыё Алега Вінярскага. У ліку пастаноўшчыкаў былі Аляксандр Калюноў (рэжысёр), Яўгенія Каральчук (артыстка Белдзяржфілармоніі), Ларыса Мараева (гукарэжысёр), Маргарыта Тарасава (балетмайстар). Разумеючы глыбіню літаратурнай “сустрэчы” М. Гогаля і С. Ясеніна, усведамляеш складанасць і грандыёзнасць як творчай задумы, так і працы калектыву.**

Перачытаўшы “Споведзь” М. Гогаля “пра неабходнасць узгаднення ўсяго нашага ладу жыцця з патрабаваннем Евангелля” і ўлічваючы вальналюбівы дух, вобразную мову С. Ясеніна, яго нянавісць да братазабойства, амаль не сумнявалася ў шматзначнасці ўздзеяння спектакля на гасцей-гледачоў. Бясспрэчна, А. Вінярскаму трэба мець інфернальную, у добрым сэнсе слова, смеласць, каб для камернага выканання ўзяць старонкі спадчыны рознавялікіх творцаў з розных эпох.

У тэатры рампа аддзяляе публіку ад выканаўцаў-акцёраў, таму губляецца, у пэўнай ступені, цеплыня кантакту, а ў камерным выкананні артысту трэба так **пражыць** побач з гледачом, каб прыцягнуць увагу кожнага: вочы ў вочы, дапамагаючы канцэнтрацыі думкі, не перайграючы. І калі гэта дасягаецца, то поспех гарантаваны, узнікае кангеніяльнасць, не бывае абыякавых, у кожнага гледача-слухача ўзнікаюць розныя меркаванні, адчуванні — такім чынам пацвярджаецца мэтазгоднасць і актуальнасць творчай задумы.

Акадэмік Д. Ліхачоў меркаваў, што “у Мастацтве ёсць вечныя юнакі, побач з якімі ўсялякія эпітэты недакладныя, слабыя, або напышлівыя, банальныя. Імя Ясеніна прыроўненае да Прыроды, якую ён апяваў”. “Ён раствораны ў Прыродзе”, — заначыў А. Талстой. “Які злітак таленту кінуў Стваральнік сюды, у гэтую хату, у гэтае сэрца вясковага хлопца-задзіракі, каб той, узрушаны, знайшоў столькі матэрыялу для Прыгажосці — ля печы, у пуні, на гумне, за ваколіцай — Прыгажосці, якую тысячы гадоў топчуць і не заўважаюць”, — так пісаў у 1960-я гады Аляксандр Салжаніцын.

Сяргей Ясенін складаў вершы з васьмі год! Часам чытаў іх напаўголасу, замкнуўшыся ў сабе, як быццам толькі для сябе. Адны і тыя ж вершы дэкламаваў па-рознаму. Дзесьці адчувалася роспач, недзе — пакепліванне... Быў самакрытычны. “Што я? Канечне таленавіты чалавек, але невук. Працаваць над вершамі так і не навучыўся. Да Пушкіна мне далёка!” Пушкін быў для яго самым светлым, дарагім Ідэалам.

Душа С. Ясеніна заўсёды імкнулася ў вышыню, але ў яго не было Акна, якое б яго чакала...

Часам Паэт здаваўся вясёлым, здзіўляў нейкай непрыкаянай жарсцю, заяўляў: “Не я вясёлы, а горе моё весело”. Аднойчы зазначыў, пабываўшы ў Амерыцы, Францыі: “Мастацтва ў Амерыцы нікому не трэба... Там можна памерці душой і любоўю да мастацтва. Там патрэбна Іза Крэмер і да яе падобныя. Душа, якую ў нас у Расіі на пуды мераюць, там не трэба. Душа ў Амерыцы — гэта непрыемна, як расшпіленыя штаны”.

Натуральна, С. Ясеніну хацелася бачыць новае, значнае, глыбіннае, а наваколле не несла гэтай навізны... І Ён сышоў... (Так мяркую. Але, калі разважаць пра сутнасць Чалавека паводле сваіх мерак, — гэта недакладна. Мы нават не маем права на тое, бо не ведаем глыбіннага, у чым сам гэты Чалавек можа сумнявацца.)

Дастаткова перачытаць вядомыя разважанні М. Гогаля, каб зразумець, чаму арганізатары камернага спектакля, і ў першую чаргу сам Алег Вінярскі, звярнуліся да творчасці геніяльнага Пісьменніка Залатога веку і вялікага Паэта Сярэбранага веку.

Праз стагоддзі М. Гогаль — сучасны па думках, па ацэнцы грамадства, людзей, напоры



Духоўнай сілы, вялікі Прароцтвам. І невыпадкова знакаміты рэжысёр У. Неміровіч-Данчанка ў свой час адзначыў, што Гогаль напісаў твор, які, без націжкі, можна назваць адным з сучасных і самых завершаных твораў літаратуры ўсіх краін — “Рэвізор”. Сам жа М. Гогаль, як кажуць, сцвярджаў: “Я хацеў, каб рэвізорам з’яўляліся ў людзей — душы!”

Гэтым сказана жыццёва важнае на ўсе эпохі! Класік разважаў глабальна спачатку пра свет вакол сябе, духоўна самаадукоўваўся: “Я люблю дабрыню, я шукаю яе і згараю ёй; але я не люблю маіх мярзотнасцей і не трымаю іх руку, як мае героі; я не люблю тых нізкасцей маіх, якія аддаляюць мяне ад дабрыні. Я ваюю з імі, і буду ваяваць, і выганю іх, і мне ў гэтым дапа-

*“Толькі разглядаючы палярнасці, магчыма спасцігнуць Ісціну і Шлях Жыцця, не зважаючы на ўльтыматызм, і прызнаваць, што Ісціны абсалютнай быць не можа, бо Свет — бясконцы.*

можа Бог”. І яшчэ: “Пакуль не здабудзеш медным сваім ілбом і не завабіш сілаю ў душу колькі добрых якасцей, — мёртвым будзе ўсё, што ні напіша пяро тваё, і, як Зямля ад Неба, будзе далёка ад Праўды”.

Філасофія Паэта і Пісьменніка карысная кожнаму, хто ўслухоўваецца, мысліць, стварае, бо правапраўная ацэнка можа ўзнікаць пры сутыкненні супрацьлегласцей, а не з узгодненых пазіцый тых, хто думае. (Нездарма кажуць: “ісціна спазнаецца ў спрэчцы”. Іншага не дадзена! І кожны мае свой тэмперамент і ўзровень духоўнага выхавання. І толькі разглядаючы палярнасці, магчыма спасцігнуць Ісціну і Шлях Жыцця, не зважаючы на ўльтыматызм, і прызнаваць, што Ісціны абсалютнай быць не можа, бо Свет — бясконцы.)

*“Ён захапіў аўдыторыю амаль на тры гадзіны бесперапынна, змяняючы тэмп ігры, рэквізіт, імгненна адсякаючы з “маналіту намераў” Пісьменніка і Паэта часцінкі найважнейшых іх думак, сардэчных пакут, духоўнай вышыні.*

У выкананні адначасова двайной ролі Гогаль-Ясенін А. Вінярскі паказаў свой творчы размах. Шматфункцыянальнасць яго артыстычных фарбаў уражвае. (Прыкладам з’яўляецца яго дыяпазон тэатральных здольнасцей.) Ён захапіў аўдыторыю амаль на тры гадзіны бесперапынна, змяняючы тэмп ігры, рэквізіт, імгненна адсякаючы з “маналіту намераў” Пісьменніка і Паэта часцінкі найважнейшых іх думак, сардэчных пакут, духоўнай вышыні. Артыст, атрымаўшы магчымасць размахнуцца ў майстэрстве тэатральнай творчасці, паказаў калегам па сцэне новы ўзровень пераўвасаблення, варты аналітычнага пераймання, палітру магчымасцей акцёра. Пабудаваў сваю ролю на кантрастах паміж тэмпераментам і ўнутраным спакоем, на зрушаных рытмах, непрадбачных рухах, якія надаюць аб’яднанаму вобразу дадатковую экспрэсію.

Нечаканасць інтанацый — таксама заканамерны прыём, які выяўляе непадобнасць і адначасова жывую, “узаемапранікальную” філасофію. Вобразы-маскі перамяжоўваліся імгненна, часам абцяжарваючы магчымасць спасцігаць выканальніцкую фантазію акцёра.

Колькі ў пошуках вобразаў Гогаля і Ясеніна было выдаткавана А. Вінярскім душэўнай цеплыні! Патрабавалася абдумаць кожны фрагмент фразы, пражыць яго, увасобіць у дзеянне і не разгубіцца ў разнастайнасці рухаў, галасавых акцэнтаў, эмацыйнага напору і неабходнага спаду, каб адлюстраваць палітру пачуццяў герояў драмы-жыцця праміну лых Стагоддзяў. Артыст быў невычэрпны ў імправізацыях. Ён паказаў сябе вельмі адмысловым выканаўцам, які мысліць па-філасофску, буйнымі катэгорыямі, які змог выклікаць у душы гледача багатае водгулле жыццёвых і мастацкіх асацыяцый М. Гогаля і С. Ясеніна.

Артыст і рэжысёр А. Вінярскі паказаў, што ў тэатральным Мастацтве трэба ўжываць новыя формы, іншую манеру выканання, не грэбуючы ў XXI стагоддзі і папярэдняй Культурай.

Ад гледачоў шчыра і доўга гучала аднадушнае “брава!”.

Наздымку:АлегВінярскіўсцэне са спектакля “Паміж двух партрэтаў”.



## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота Віктара Кавалёва

Падчас “Славянскага базара ў Віцебску” адбыўся IX міжнародны дзіцячы музычны конкурс “Віцебск-2011”, удзельнікамі якога былі 23 выканаўцы з 20 краін. Гран-пры (чацвёрты раз за гісторыю “маленькага базарчыка” і трэці год запар!) накіраваўся ў Румынію: яго атрымала дзесяцігадовая Ралука. Не засталіся без узнагарод і юныя беларускі: Ганна Атрошчанка адзначана спецыяльным прызам Саюзнай дзяржавы,



а лаўрэата II фестывалю юных талентаў г. Мінска “Сымонкавы нашчадкі”, салістку заслужанага аматарскага хору “Крынічка” Аляксандру Няхай журы ганаравала дыпломам III ступені ды спецыяльным прызам.

Ліка, Марат, Леанідзік... Гэты любоўны трохкутнік склаўся ў час блакады Ленінграда. Самаахвярная любоў ды сяброўская падтрымка дапамагаюць ім і перажыць ваенныя нягоды, і выйсці з выпрабавання выбарам у каханні. Але калі гэтыя трое ўбачацца зноў, да іх вернецца ўжо аднойчы вытрыманае выпрабаванне... выбарам. Такая няпростая фабула раскрываецца ў новым спектаклі Беларускага рэспубліканскага ТЮГа “Мой бедны Марат”. Знаёмую ўжо некальнім пакаленням тэатралаў п’есу Аляксея Арбузава паставілі рэжысёр Ягор Лёгкін, сцэнограф Алена Ігруша; музыку напісаў Уладзімір Кур’ян, а над пластыкай працавала Вольга Скварцова-Кавальская. У галоўных ролях — самыя маладыя акцёры: Юлія Смірнова, Кацярына Крылова, Генадзь Гаранскі ...

Сімфанічны аркестр Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі завяршыў працяглы гастрольны тур па гарадах Германіі, Даніі, Швейцарыі. Музыканты ўдзельнічалі ў праграме “Лепшае ад Хелены Фішар. Упершыню з вялікім аркестрам, 2011”. Уладальніца “Кароны народнай песні”, выканаўца шлягераў і песеннага фальклору Германіі, Расіі, Украіны, вядомая нямецкая спявачка (ураджэнка Краснаярска) ды наш калектыў, запрошаны дырыжорам-імпрэсарыа Вільгельмам Кайталем, прадставілі гэты супольны праект выкшталцонай публіцы. Еўрапейская крытыка адзначыла найвышэйшы прафесіяналізм беларускіх музыкантаў, паставіўшы іх на ўзровень такіх калектываў, як Берлінскі філарманічны аркестр. Заключны канцэрт тура з удзелам амерыканскай зоркі Майкла Болтана адбыўся ў Кёльне і запісваўся для паказу па тэлебачанні.

***На здымку: лаўрэат IX міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу “Віцебск-2011” Аляксандра Няхай.***

**Дзе шукаць нашы культурныя каштоўнасці — сапраўдныя, апаленыя пажарамі эпохі, але ўсё ж захаваныя і вартыя нашай сённяшняй пашаны? Вядома, у архівах: дзяржаўных, прыватных, сямейных. Шчасце, калі працягваецца род выбітнай творчай асобы, калі на старым генеалагічным дрэве з'яўляюцца новыя атожылкі і сённяшняе пакаленне нашчадкаў дапамагае сучаснікам адкрыць забытую мастацкую спадчыну.**




# Невядомы папярэднік Бідструпа

Людміла НАЛІВАЙКА

Больш як 50 невядомых графічных малюнкаў сатырычнага жанру прынесла ў аддзел сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь прадстаўніца таленавітага роду Выхадцавых — спадарыня Алена. Такім чынам яна нібы наноў адкрыла для даследчыкаў імя свайго дзеда — мастака Фёдара Выхадцава (1902 — 1941), чые творы зберагаліся ў хатнім сховішчы амаль 85 гадоў. Сёння ў такім паважным узросце яго сын, бацька Алены Юр'еўны, работы якога былі прадстаўленыя на нядаўняй выстаўцы "Класіка графікі" ў НММ.

Юрый Выхадцаў, вядомы беларускі графік, выхаванец Мінскага мастацкага вучылішча (1949 —1954) і Беларускага дзяржаўнагатэатральна-мастацкага інстытута (1954 — 1960) сваё жыццё прысвяціў педагагічнай справе і, працуючы ў славутай "глебаўцы", выхаваў некалькі пакаленняў беларускіх мастакоў. На выстаўцы "Класіка графікі" экспанаваліся 24 акварэльныя аркушы Юрыя Фёдаравіча, напісаныя шырока і з вялікім натхненнем. Калі ў 1970-я ён адлюстроўваў які-небудзь тыповы куток беларускай прыроды, то ўжо ў 1980-х у творчасці мастака пазначыліся новыя тэндэнцыі, як у тэматыцы, так і ў каларыце. Разам з "імпрэсіяністычным" падыходам да стварэння вобраза, Ю.Выхадцаў укладае ў абсягі зямлі і неба ўсё больш эмоцый, што, без усялякага сумнення, робіць яго знакамітым майстрам эпічнага пейзажу.

Дзіўна, але імя бацькі гэтага майстра сёння малавядомае: яно адсутнічае ў спісах супрацоўнікаў Беларускага дзяржаўнага сацыяльна-гістарычнага музея, дзе Фёдар Выхадцаў у якасці старшага навуковага супрацоўніка працаваў 13 год, няма яго і ў энцыклапедычных даведніках. У мастацтвазнаўчых даследаваннях, пачынаючы з 1930-х, яго імя ўвогуле не ўспамінаецца нават такімі руплівымі даследчыкамі, як М. Арлова і В. Шматаў.

Што ж, забытае імя адкрытае наноў. І цяпер перад намі стаіць задача больш падрабязна вывучыць, даследаваць усе перыяды жыцця Фёдара Выхадцава. І потым — абавязкова напісаць пра гэта, бо ў асяроддзі мінскіх мастакоў ён з'яўляўся знакамітай фігурай: уваходзіў у творчае аб'яднанне "Прамень"(1927 — 1930), актыўна ўдзельнічаў у мастацкім жыцці Беларусі, пра што сведчаць каталогі Трэцяй (1928) і Чацвёртай (1931) рэспубліканскіх выставак, дзе дэманстраваліся яго цыклы графічных малюнкаў і жывапісныя пейзажы. А як навуковы супрацоўнік музея Ф. Выхадцаў уваходзіў у склад выставачнага камітэта Пятай (1932) рэспубліканскай выстаўкі разам з І. Ахрэмчыкам, П. Гаўрыленкам,




І.Харыкам, С.Рак-Міхайлоўскім ды іншымі прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі. Друкаваўся на старонках мінскіх газет "Чырвоная змена" і "Орка" ў жанрах карыкатуры і шаржа, якія сёння ўяўляюць неверагодную цікавасць як матэрыял для поўнага асвятлення мастацкага жыцця ХХ стагоддзя.

Яго блізкім сябрам заставаўся Анатоль Тычына, якому Фёдар пісаў лісты з 1938 па 1939 гады. Гэтыя лісты (у колькасці 10 старонак) цяпер знаходзяцца ў фондзе мастака А.Тычыны калекцыі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. На канвертах стаіць адрас адпраўшчыка: Ленінградская вобласць, г.Слуцк, Паўлаўскі палац-музей. У сваіх лістах Фёдар дзяліўся ўражаннямі і поспехамі сваёй даследчыцкай дзейнасці: з'яўляўся аўтарам раздзела па класічнай архітэктуры палаца-музея ў спецыяльным "Путеводителе", і яго мастацтвазнаўчыя распрацоўкі былі адасланы ў Акадэмію архітэктуры, яго працай задаволеныя кіраўнікі, ён сустракаецца з вядомымі рускімі мастацтвазнаўцамі і стварае свае ўдалыя праекты. У Мінск для А.Тычыны быў адпраўлены і "пуцевадзіцель", і Ф.Выхадцаў шкадаваў, што не паспеў зрабіць дарчы надпіс свайму лепшаму сябру... Абагульняючы сказанае вышэй, задумваешся пра мэтазгоднасць правядзення выстаўкі твораў Фёдара Мікалаевіча, што захоўваюцца ў сямейным архіве, у спалучэнні з матэрыяламі архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Пакуль застаецца невядомым, чаму Фёдар Выхадцаў пакінуў Мінск. Паводле нашых даследаванняў, галоўная прычына ў наступным. З 1930-х пачаліся рэпрэсіі творчых асоб, сярод якіх былі колішнія дырэктары музея В. Ластоўскі, С. Рак-Міхайлоўскі, паэты А. Александровіч ды І. Харык. Нават некаторыя факты біяграфіі самога Фёдара Мікалаевіча і яго родзічаў даюць падставы для такога меркавання. Напрыклад, Юрый Фёдаравіч Выхадцаў зусім слушна пастараўся не трывожыць сваіх нашчадкаў і вучняў рэаліямі жыцця сваёй сям'і, бо ў графе "адукацыя" яму трэба было пісаць наступнае: нарадзіўся ў г. Сандаміры (Польшча), дзе скончыў Кадэцкі Корпус, працягваў навучанне ў Маскве. Няма сумніву, што ён "даваў зарок" не раскрываць таямніцу ні свайго прозвішча са знакамі годнасці і гонару, ні вайсковай прафесіі свайго бацькі, ні той факт свайго дзяцінства, што ў 10-гадовым узросце, разам з роднымі цёткамі, ён быў выпраўлены ў Германію... Але ж за вокнамі ўжо ХХІ стагоддзе, і новы час патрабуе не баяцца і не маўчаць!

Дарэчы, шчыры дзякуй Алене Юр'еўне — дачцэ і ўнучцы знакамітых мінскіх творцаў, якая прынесла да нас незвычайныя каштоўнасці сваёй сям'і: фотаздымкі прадзеда, дзеда, дакументы гонару і годнасці роду, а галоўнае — графічную спадчыну 1920-х гадоў!

Кампазіцыі Фёдара Выхадцава на старонках мінскіх выданняў "Чырвоная змена" і "Орка" вельмі падобныя да графічнага стылю славутага дацкага мастака-карыкатурыста Херлуфа Бідструпа (1912 — 1988). Таму Ф. Выхадцава з яго малюнкамі людзей "у руху" мы маглі б назваць "беларускім Бідструпам", але ж наш мастак быў старэйшы і пачаў працаваць у гэтым стылі куды раней за скандынаўскага калегу! Гэта было заканамерна: у 1920-я гады грамадства не было індыферэнтным назіральнікам новых палітычных, грамадскіх і культурных працэсаў. Рэвалюцыйныя пераўтварэнні адкрывалі перад мастаком неабмежаваныя адносіны да ўсяго соцыуму. Мастакі імкнуліся зрабіць смех баявой зброяй, выкарыстоўваючы даўнюю форму аповеда ў малюнках, калі паводзіны людзей выяўляліся праз адлюстраванне мімікі і пантамімы. Вострае, знішчальнае абсмейванне распаўсюджаных грамадскіх з'яў — вось аснова асуджальнага пафасу графічнай сатыры Фёдара Выхадцава, якая рэалізавалася ў карыкатуры і шаржы.

Гісторыя толькі аднаго творчага роду дае нам спажыву для роздуму пра самабытнасць нашага нацыянальнага жыцця, пераемнасць мастацкіх традыцый, пра неабходнасць не баяцца і не саромецца свайго мінулага, якім бы заблытаным, супярэчлівым і драматычным яно ні было, а шукаць, адкрываць і вывучаць невядомыя сёння творы, якія нарадзіліся сотню гадоў таму, але так і не знайшлі сваю дарогу да гледача. Гэта не проста кропля ад колішняга чыстага возера. Гэта ўзбярэжжа акіяна, якое запрашае ў вялікі рэйс па недаследаваных астравах нашай культурнай гісторыі.

***На здымках: карыкатуры Фёдара Выхадцава.***

Віншуем!

# Утаймавальніца часу

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Прачынацца раней за сонейка. Кожную хвіліну новага дня пражываць імкліва і паглыблена, не даганяючы, а падганяючы час. Напаўняючы яго новымі ведамі ці проста навінамі, парадоксамі ўласных разваг ды стасункамі навукі з педагогікай, варажбою над аркушам паперы і рамантыкай кулінарных спраў, шчырасцю размоў на сямейнай кухні. Так пражываць кожны дзень, каб самой было цікава...**



Чалавек самадастатковы і на дзіва самадысцыплінаваны, архітэктар і жывапісец уласнага лёсу, прафесар Юлія Чурко не перастае здзіўляць сваёй безупыннай стваральнай энергіяй, дапытлівасцю, працавітасцю, непрадказальнасцю, гумарам і артыстычнай самаіроніяй. Ва ўзросце 36 гадоў (1972) стала доктарам мастацтвазнаўства. Раней жа танцавала на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета БССР, завочна ў БДУ атрымала спецыяльнасць журналіста... Яна не стала спадкаемцай легендарнай беларускай балерыны Аляксандры Нікалаевай, сваёй цётухны. Занялася навукай, пачала выкладаць. Даследавала класічную харэаграфію і танец-мадэрн, ездзіла ў фальклорныя экспедыцыі па народныя танцы, працавала ў журы творчых конкурсаў і ўваходзіла ў рэдкалегію "ЛіМа". Напісала безліч грунтоўных і жывых рэцэнзій, аналітычных артыкулаў. Выдала чараду гэткіх жа захапляльна "чытэльных" кніг-даследаванняў. Ёй адзінай з усяго постсавецкага абсягу было даверана стварыць вялікую манаграфію-альбом пра жывую легенду балета — Барыса Эйфмана. Яе лібрэта — у аснове пастаўленых на беларускай сцэне балетаў "Кругабег" А. Залётнева і "Мефіста" У.Кандрусевіча. Узяўшыся за белетрыстыку, яна стала першай беларускай пісьменніцай, якая распавядае пра жыццё новых у нашай літаратуры герояў з дакладным веданнем спецыфікі харэаграфічнага мастацтва, закулiснага жыцця, асяроддзя гарадской інтэлігенцыі ды мінскіх рэалій...

Гэтым летам Юлія Міхайлаўна падаравала мне ўжо новую кніжку — "Жыццё як яно ёсць", дзеля працы над якой засвоіла "тусовачны" слэнг. А за год да юбілею яна сур'ёзна занялася ўласным здароўем і... развіталася з кійком ды акулярамі!

Спадзе летняя спякота, і мы абавязкова сустрэнемся з Юліяй Міхайлаўнай, пагаворым пра жыццё — як яно ёсць...

Праектная дзейнасць

# З радаводнага дрэва Магілёва

Ірына ТУЛУПАВА

**Вялікая спадчына, закладзеная папярэднікамі, хаваецца не толькі ў радаводах знаных родаў. Шукаць свае карані цяпер бяруцца многія беларусы, хто памятае сваіх дзядоў і бацькоў, хто нешта ведае пра прадзедаў і іх родзічаў. Але не менш цікавымі ўяўляюцца і радаводныя дрэвы, у разгалінаваннях якіх схаваная гісторыя гарадоў ды мястэчак. І друкаваная кніга мае сваіх папярэднікаў — кнігу рукапісную. А першыя зборы кніг сталі прародзічамі сучасных бібліятэк — скарбніц чалавечай мудрасці, захавальніц культуры народа. Таму, пэўна, гісторыя кніжніц вывучаецца цяпер так дасканала. Сёлета ўвосень у Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. Леніна плануюць стварыць музейны пакой гісторыі і развіцця бібліятэчнай справы вобласці.**

Дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі Ілона Сарокіна заўважае: “Напэўна, у даследчыцкай працы не пазбегнуць трох асноўных кірункаў: гэта вывучэнне і збор матэрыялаў пра горад, даследаванне гісторыі бібліятэкі і… рэдкай кнігі!”

Зразумела, што асноўны клопат па стварэнні пакоя ўзялі на сябе супрацоўнікі кніжніцы. Але адно сваімі сіламі такую справу не адужаць. Даследаванні будуць весціся супольна з Дзяржаўным архівам грамадскіх арганізацый, дзе актыўна падтрыманая ідэя; ёсць неабходнасць працы ў абласным і Нацыянальным гістарычным архівах; у краязнаўчых музеях. Бібліятэка заклікае да своеасаблівых краязнаўчых пошукаў і насельніцтва рэгіёна. Самая актыўная падтрымка чытачоў заўсёды была дарэчы: шмат дакументаў, якія захоўваюцца ў асабістых архівах, прама ці ўскосна нагадваюць пра мінулыя падзеі. Вось і нядаўні прыклад — таму пацвярджэнне.

Напярэдадні святкавання 70-годдзя абароны Магілёва кніжны фонд бібліятэкі папоўніўся каштоўным краязнаўчым дакументам — біяграфічным нарысам “Генерал-маёр Міхаіл Цімафеевіч Раманаў”, аўтарам якога з’яўляецца Юрый Раманаў, сын легендарнага камандзіра 172-й стралковай дывізіі, якая абараняла Магілёў у 1941 г. Нарыс быў надрукаваны на старонках расійскага часопіса “Военно-исторический архив” у 2003—2004 гг., якога ў фондах бібліятэкі не захавалася.

Дзякуючы супрацоўніцтву з жыхаром г. Варонежа Рыгорам Плахатнюком, унукам салдата, які гераічна змагаўся на Буйніцкім полі, бібліятэка атрымала ў дар электронную копію нарыса. Дакумент тым больш каштоўны, калі прыняць да ўвагі, што Магілёўская абласная, як ніякая іншая кніжніца, страціла шмат фаліянтаў менавіта ў Вялікую Айчынную вайну. Гэтым тлумачыцца і тое, што з абласных скарбніц Магілёўская валодае самым маленькім зборам рэдкіх кніг: усяго крыху больш як 5 тысяч адзінак, і толькі каля 200 выданняў — менавіта пра Магілёўскую губерню.

Але праца ідзе, і год таму пры падтрымцы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі для Магілёўскай бібліятэкі былі алічбаваныя 73 рарытэтныя выданні, якіх не было ў фондах абласной скарбніцы. Да таго ж цяпер бібліятэка вылучаецца ўпэўненым укараненнем новых тэхналогій і створанай тут камбінаванай базай дадзеных пра Магілёўскі рэгіён.

А яшчэ Магілёў — горад, дзе бібліятэкараў рыхтуюць на прафесійнай аснове — у Магілёўскім дзяржаўным бібліятэчным каледжы імя А. С. Пушкіна. Так што спадзеў на тое, што пакой з найцікавейшай інфармацыяй з’явіцца і мы зможам гаварыць пра існаванне ў кніжніцы міні-музея, цалкам абгрунтаваны.

# Божай ласкі вам і міру

Алена КАПЫТОК

**Аграгарадок Лошніца Барысаўскага раёна ў рамках I рэгіянальнай выстаўкі-кірмашу “Беларусь праваслаўная” сустракаў гасцей і ўдзельнікаў духоўна-асветніцкай праграмы “Божая ласка вам і мір”. У сельскай бібліятэцы вёскі Лошніца аб’ядналіся людзі, неабыякавыя да сваёй малой радзімы, людзі, якія цікавяцца гісторыяй сваёй краіны, тыя, хто выхоўвае дзяцей і ўнукаў на лепшых духоўных традыцыях свайго народа.**

Арганізатарамі духоўна-асветніцкай праграмы “Божая ласка вам і мір” выступілі выдавецтва “Чатыры чвэрці”, Барысаўскае дабрачыннае і Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І. Каладзеева.

Галоўнай мэтай сустрэчы стала знаёмства чытачоў, усіх прысутных з дзейнасцю выдавецтва “Чатыры чвэрці”, з якім Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка падтрымлівае цесныя сувязі.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел: дабрачынны цэркваў Барысаўскай акругі, настаяцель прыхода храма Нараджэння Хрыстова протаіерэй А. Вярбіла, дырэктар выдавецтва “Чатыры чвэрці” Л. Анцух, кандыдат педагагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, старшыня Праваслаўнага брацтва званароў у імя Паўліна Міласцівага В. Каваліў, дырэктар Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева Г. Слесарэнка, памочнік дырэктара праваслаўных выставак УП “Экспафорум” Н. Аксакава, аўтар праграм “Духоўнае слова” і “Святло душы”, каментатар Першага канала Беларускага радыё Л. Мітаковіч, настаяцель прыхода храма св. Архангела Міхаіла іерэй В. Гулевіч.

Асветніцкую праграму блаславіў настаяцель храма Раства Хрыстова, дабрачынны цэркваў Барысаўскай акругі протаіерэй Аляксандр Вярбіла:

— Бібліятэка — духоўны цэнтр жыцця кожнага чалавека. Кніга дапамагае нам думаць, бачыць свет, бачыць у гэтым свеце прыгожае. Кніга з’яўляецца і царкоўнай прыналежнасцю. З яе дапамогай мы з пакалення ў пакаленне перадаём вопыт духоўнага жыцця, жыцця з Богам: пачынаючы з Бібліі і заканчваючы любой літаратурай, звязанай з гэтай тэмай.



Дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух з’яўляецца ўраджэнкай в. Лошніца і ў гэты дзень выступала перад землякамі з асаблівым пачуццём гонару за сваю малую радзіму. Шчырай любоўю да родных мясцін, да людзей, якія жывуць тут, бязмежнай радасцю ад сустрэчы былі прасякнутыя яе словы. З выступлення Ліліяны Фёдараўны прысутныя даведаліся пра тое, чым жыве выдавецтва сёння:

— З моманту свайго стварэння ў 1992 годзе выдавецтва вызначыла для сябе асноўную мэту — падрыхтоўка і выпуск нотна-музычнай літаратуры. Сёння мы — адзіная ў Рэспубліцы Беларусь выдавецкая структура, якая мэтанакіравана падтрымлівае развіццё нацыянальнай музычнай культуры. Адначасова з гэтым спецыяльнай галіной выдавецкіх інтарэсаў з’яўляецца сусветная, нацыянальная, духоўная культура. За мінулыя гады выдадзена мноства кніг самай рознай накіраванасці, шмат з якіх прадстаўленыя на выставе, якую мы з вамі бачым у сельскай бібліятэцы ў вёсцы Лошніца.

Чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з цэлай палітрай кніг, якія адрасуюцца шырокаму колу чытачоў. У выдавецтве выпускаюцца дзіцячыя кнігі, кнігі па духоўнай музыцы для рэпертуару дзіцячых харавых калектываў. З выдавецкіх праектаў вылучаецца серыя “Нашыя духоўныя каштоўнасці”, блаславенне на выданне кніг якой даў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. У 1995 годзе былі выдадзены кніга “Праваслаўныя святыні” і альбом “Праваслаўнае дойлідства Беларусі”, у 1997 годзе — альбом “Прападобная Еўфрасіння Полацкая”, у 1998 годзе — альбом “Крыж — прыгажосць царквы”, у 2002-м — альбом “Праваслаўныя манастыры Беларусі”. Гэты выдавецкі праект быў прызнаны лепшай работай у намінацыі “Духоўнае адраджэнне”.

Дырэктар Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева Галіна Слесарэнка распавяла пра цеснае і плённае супрацоўніцтва з выдавецтвам, пра кнігі і буклеты, прысвечаныя Барысаўшчыне, якія былі падрыхтаваныя супольна. І гэта невыпадкова: у выдавецтве нараджаюцца новыя арыгінальныя праекты, накіраваныя на папулярызацыю культуры. Тым больш, што ўмацоўваецца цікавасць выдавецтва і да перакладной літаратуры. На сённяшні дзень выходзяць у свет кнігі, перакладзеныя з англійскай, французскай, польскай, нямецкай і іншых еўрапейскіх моў.

Прыкладам супрацоўніцтва выдавецтва і яго аўтараў з’яўляюцца творчыя сустрэчы, адна з якіх адбылася ў сценах сельскай бібліятэкі вёскі Лошніца менавіта ў гэты дзень. Са сваімі песнямі выступіў Валянцін Каваліў — выдатны чалавек і музыкант. Яго цудоўны голас, прафесійнае выкананне, пранікнёныя словы і песні ўсхвалявалі душу і кранулі сэрцы гледачоў.

З цеплынёй і сардэчнасцю сустракалі прысутныя вакальную групу храма св. Архангела Міхаіла Архістратыга (кіраўнік Т. Аляксеева), вакальна-харавы калектыў “Ладачкі” (кіраўнік А. Каратаева), дзіцячы фальклорны калектыў “Валошкі” (кіраўнік Л. Козырава), інструментальны ансамбль “Кампанелла” (кіраўнік Е. Сахарава).

Не абышлося і без прыемных сюрпрызаў. Ліліяна Анцух з уласцівай ёй цеплынёй падзякавала тым, хто сабраўся ў бібліятэцы, за шчырую сустрэчу, а на развітанне ад імя выдавецтва падарыла гасцям свята невялікія сувеніры.

Але самым нечаканым было для гледачоў тое, што кожны з іх атрымаў ад выдавецтва ў памяць пра сустрэчу кнігу Л. Марцін “Прыслухайся да свайго Анёла-Ахоўніка”.

**Наталля БЯРОЗКІНА — дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. У бібліятэцы — з 1981 года, за трыццаць гадоў прайшла шлях ад простага бібліятэкара да кіраўніка. Спачатку вучылася ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце на факультэце аўтаматыкі і вылічальнай тэхнікі. "Мама казала, што за гэтым будучае: тады яшчэ не згадвалі пра камп'ютары — стваралі ЭВМ. Але мне не спадабалася — выбрала іншы, гуманітарны інстытут". Мінскі інстытут культуры — яе другая ВНУ. Так яшчэ падчас вучобы ў адной асобе з'ядналіся фізік і лірык. Дома Наталля Юр'еўна чытала шмат кніг, балазе, бібліятэка вялікая, бацькі збіралі ўсё жыццё. І цяпер у ёй ужо больш як 1600 кніг. На паліцах стаяць і выданні з навуковымі артыкуламі Наталлі Бярозкінай, яе манаграфіі, навучальныя дапаможнікі. Даследаваннямі па гісторыі бібліятэк і кнігадрукаванні яна займаецца з 1980-х гадоў. Апошняя кніга — "Бібліятэкі і распаўсюджванне навуковых ведаў у Беларусі" — выдадзена "Беларускай навукай" у 2011 годзе.**



Ірына ТУЛУПАВА

# Адпавядаць міжнароднаму стандарту

**— Наталля Юр'еўна, па сутнасці, любую бібліятэку можна называць навуковай, зыходзячы з яе асноўнага прызначэння — несці ў жыццё асвету. Але калі ўсё-такі настае той урачысты момант, калі кніжніцу пачынаюць афіцыйна называць навуковай?**

— Вы маеце на ўвазе навуковую бібліятэку ці навукова-даследчую ўстанову? Справа ў тым, што наша бібліятэка — якраз адзіная ў краіне на сённяшні дзень навукова-даследчая ўстанова па праблемах бібліятэказнаўства, кнігазнаўства, інфармацыйных тэхналогій. Але, каб было больш зразумела, пачну з гісторыі. Цэнтральная навуковая бібліятэка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі была створана 16 лютага 1925 года пры Інстытуце беларускай культуры.

**— Такім чынам, калі акцэнтавалі, што гэта будзе кніжніца пры *культуры*, то першапачаткова прадбачылася, што гэта будзе публічная бібліятэка?**

— Я лічу, што мелася на ўвазе навуковая бібліятэка. Інбелкульт — першая навуковая ўстанова, якая ў 1929 годзе была рэарганізавана ў Акадэмію навук. Так гістарычна склалася, што мы нават старэйшыя за Акадэмію навук. Супрацоўнікі Інбелкульта з першых часоў клапаціліся пра бібліятэку і акцэнтавалі ўвагу пераважна на фарміраванні фондаў, звярталіся ў іншыя навуковыя ўстановы і інстытуты з просьбай, каб тыя дасылалі нам часопісы, кнігі, свае выданні, і ўжо ў 1926 годзе бібліятэка вяла абмен з многімі арганізацыямі, з якіх налічвалася больш як 100 ў СССР і 74 за мяжой.

Важнасць нашай справы разумелі заўсёды. Раней гаварылі — без навуковай літаратуры, цяпер мы кажам — без інфармацыі навука развівацца не можа. І перш за ўсё патрэбна замежная інфармацыя. Захаваліся шматлікія архіўныя матэрыялы, з якіх вынікае: вучоныя Інбелкульта звярталіся з просьбамі выдзеліць нават валютныя сродкі на набыццё літаратуры ў ЗША, Германіі, Польшчы. І так шчасліва атрымалася, што ў нас склаўся самы вялікі збор замежнай навуковай літаратуры. Але сёння прынята гаварыць не пра тое, што мы маем, а да чаго мы прадстаўляем доступ, у тым ліку ў рэжыме online. У нас адкрыты доступ да многіх інфармацыйных рэсурсаў: гэта больш як 100 тысяч часопісаў, каля 40 тысяч кніг, больш як два мільёны экзэмпляраў дысертацый і гэтак далей…

**— Прапануюцца паўнатэкставыя версіі?**

— Так. І гэтыя рэсурсы актыўна выкарыстоўваюцца. У мінулым годзе беларускія вучоныя запатрабавалі больш як 97 тысяч поўных тэкстаў артыкулаў з базы даных ScienceDirect выдавецтва "Elsevier". Трэба ўлічваць: нашы вучоныя не толькі чытаюць на замежных мовах, іх творы выдаюцца за мяжой! І не толькі артыкулы, але і манаграфіі, падручнікі, і яны цытуюцца ў розных крыніцах.

Між іншым, паводле вынікаў даследавання па цытаванні прац беларускіх вучоных, праведзенага супрацоўнікамі нашай бібліятэкі, больш за ўсё спасылак робіцца на працы прадстаўнікоў фізіка-тэхнічных навук. Даследаванні праводзіліся па досыць папулярных базах даных Web of Science і Scopus сумесна з Бібліятэкай па прыродазнаўчых навуках Расійскай акадэміі навук — быў такі міжнародны праект. На першым месцы па цытаванні былі выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, але больш як 50 працэнтаў спасылак у базах даных — на працы супрацоўнікаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гэта адзін з паказчыкаў ацэнкі навуковай дзейнасці (і досыць яскравы). У канцы мінулага года ў нас у Акадэміі праводзіўся конкурс, у якім адна з намінацый была "самы цытуемы аўтар".



**— І мы можам назваць імя?**

— Гэта Сяргей Гапоненка — супрацоўнік Інстытута фізікі НАН Беларусі. Як я ўжо адзначала, у Беларусі на першае месца па цытаванні выходзяць фізіка-тэхнічныя спецыяльнасці. Такая асаблівасць нашай навукі. А ў свеце першае месца ў рэйтынгах займаюць медыка-біялагічныя навукі.

**— Паводле вашых звестак, мы можам гаварыць пра існаванне ў гісторыі навукі пэўнага "залатога" веку, калі яна развівалася на дзіва імкліва?**

— Доўгі час існавала такая думка, што да рэвалюцыі навукі ў Беларусі не было. А вось апошнія 20 гадоў гаворыцца іншае. Прывяду ў якасці прыкладу адзін з кірункаў нашай дзейнасці. Мы ствараем біябібліяграфічныя паказальнікі: не толькі нашых сучаснікаў, але і гістарычных асоб. Нядаўна выдадзены біябібліяграфічны паказальнік ураджэнца Мінскай губерні, унікальнага дзеяча навукі Я. Наркевіча-Ёдкі, складзены мной сумесна з Вольгай Гапоненка. А ўвогуле гісторыя беларускай навукі фактычна ідзе ад Францыска Скарыны — ён жа таксама быў вучоным!

Альбо іншы прыклад — навукова-асветніцкая дзейнасць Радзівілаў. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны мы атрымалі з Нясвіжа буйны кніжны збор Радзівілаў. Але не паспелі яго поўнасцю заінвентарызаваць: яго вывезлі за межы краіны, а пасля ў фонды бібліятэкі вярнуліся толькі тыя асобнікі, якія былі апрацаваны. Частка кніг паступіла ў Дзяржаўную бібліятэку імя Леніна, Прэзідэнцкую бібліятэку. Але на сённяшні момант усё ж самая вялікая частка бібліятэкі Радзівілаў знаходзіцца ў нас. Гэта больш як 3,5 тысячы кніг, і мы ганарымся, што яны ў нас. З 2005 года праводзім даследаванне "Бібліятэка Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў у фондах ЦНБ НАН Беларусі: вывучэнне складу і навуковае апісанне дакументаў". І яшчэ ўсё ў агульным кнігасховішчы знаходзім кнігі з гэтага кнігазбору. Ёсць кнігі з экслібрысамі Радзівілаў, іх прыналежнасць вызначыць прасцей, а пры іх адсутнасці выяўляць кнігі даволі складана.

Першы буйны вынік даследавання — гэта друкаваны каталог "Бібліятэка Радзівілаў Нясвіжскай ардынацыі: каталог выданняў з фонду Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. XV—XVI стагоддзі". Прынцып яго складання — храналагічны. Цяпер мы рыхтуем да друку каталог кніг XVII стагоддзя — за гэты перыяд значна больш выданняў. Серыя будзе выдавацца ў "Беларускай навуцы". Як вядома, ёсць яшчэ і "Радзівіліяна" — гэта сумесны з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі праект па віртуальнай рэканструкцыі бібліятэкі Радзівілаў.

У 2009 годзе бібліятэка атрымала сертыфікат аб уключэнні архіваў і Нясвіжскай бібліятэкі Радзівілаў у сусветны рэгістр ЮНЕСКА "Памяць свету". Нас наведалі нашчадкі славутага магнацкага роду разам з Эльжбетай Радзівіл. І калі яна прыйшла, пабачыла тыя кнігі, якія ў дзяцінстве чытала, рэакцыя яе была досыць непасрэднай — "гэта кніга майго дзедкі…". Пасля сп. Эльжбэта пагадзілася з тым, што калі кнігі так добра захоўваюцца, то няхай яны ў нас і застаюцца.

У межах праекта "Кніжная культура Беларусі і Расіі. Комплексныя даследаванні ў кантэксце гісторыка-культурнага ўзаемадзеяння", які ажыццяўляецца сумесна з Навуковым цэнтрам даследаванняў гісторыі кніжнай культуры Расійскай акадэміі навук, вывучаецца прыватная бібліятэка члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Паўла Беркава. Захоўваюцца ў нас і бібліятэка беларускага этнографа і фалькларыста Адама Багдановіча, бацькі Максіма Багдановіча, больш як 60 архіўных збораў выдатных вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры.

**— Але каб прааналізаваць такія крыніцы, трэба мець кантакты з іншымі навуковымі бібліятэкамі. Стасункі з кніжніцамі нашага краю і замежжа дапамагаюць?**

— Праблема ў тым, што большасць інфармацыі захоўваецца ў Польшчы, Літве, Расіі. Тую ж Радзівілаўскую бібліятэку вывезлі ў канцы XVIII стагоддзя ў Пецярбург, і цяпер яна захоўваецца ў Бібліятэцы Расійскай акадэміі навук. Мы дамовіліся, што паспрабуем выдаць сумесны каталог. З Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук доўгі час праводзіліся адмысловыя сустрэчы — "бібліяполісы". Сувязі нашы захаваліся, і на сёлетніх Беркаўскіх чытаннях прысутнічала дэлегацыя з Літвы. Мы падпісалі пагадненне пра далейшае супрацоўніцтва. Працягваецца супрацоўніцтва з Бібліятэкай па прыродазнаўчых навуках Расійскай акадэміі навук: працуем над праектам "Распрацоўка сістэмы бібліяметрычных індыкатараў для ацэнкі ўкладу розных фондаў у сумесныя навуковыя даследаванні Расіі і Беларусі". З Польскай бібліятэкай нарадовай калісьці праводзілі сумесны семінар.

Разам з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкай удзельнічаем у стварэнні сістэмы карпаратыўнай каталагізацыі і вядзенні зводнага электроннага каталога. У бібліятэцы створана служба электроннай дастаўкі дакументаў, віртуальная даведачная служба. Між іншым, нашы інфармацыйныя сістэмы, інфармацыйныя прадукты штогод атрымліваюць дыпломы на выстаўках, такіх, як выстаўка па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналогіях, і іншыя.

**— Колькі чытачоў да вас прыходзіць у дзень?**

— У сярэднім пяцьсот наведванняў. Увогуле, чытачоў у нас больш як 30 тысяч; 70 працэнтаў — гэта "неакадэмічныя" чытачы: выкладчыкі навучальных устаноў, аспіранты, студэнты, спецыялісты. А калі казаць пра віртуальных наведвальнікаў, іх больш як 60 тысяч. Некаторым вучоным не трэба, каб для іх нешта шукалі бібліятэкары — яны самі, мінуючы бібліятэку, уваходзяць у тыя базы даных, да якіх мы маем доступ. Наша бібліятэка першая ў краіне прадставіла такую паслугу, як заказ літаратуры ў рэжыме рэальнага часу праз Інтэрнэт.

**— Вы таксама губляеце рэальных наведвальнікаў у выніку працы ў Сеціве?**

— Ведаеце, калі я прыйшла сюды працаваць, чытальныя залы былі поўныя. А сёння мы некаторыя з іх аб'ядноўваем. Рэальныя карыстальнікі прыходзяць менш.

**— Колькі ж чытальных залаў працуе?**

— Ёсць галіновыя чытальныя залы (гуманітарных, прыродазнаўчых і тэхнічных навук), рэдкіх кніг і рукапісаў, перыядычных выданняў, новых паступленняў, цэнтр даведачна-інфармацыйнага абслугоўвання, экалагічны інфармацыйны цэнтр, цэнтр Інтэрнэт-доступу да электронных навуковых рэсурсаў.

Дарэчы, у чэрвені калектыў бібліятэкі атрымаў сертыфікат адпаведнасці сістэмы менеджменту якасці прадастаўлення бібліятэчных паслуг ды ажыццяўлення навукова-даследчай работы ў галіне бібліятэказнаўства, бібліяграфазнаўства, гісторыі кнігі, інфармацыйнай дзейнасці патрабаванням СТБ ISO 9001—2009. Па сутнасці, мы першая бібліятэка, якая адпавядае гэтаму міжнароднаму стандарту. Да гэтага такі сертыфікат атрымала толькі бібліятэка Полацкага ўніверсітэта.

***На здымках: рэдкія кнігі; дырэктар ЦНБ НАН Наталля Бярозкіна.***

Беларусіка ў замежных зборах…

# Збор Урублеўскіх у Літоўскай акадэміі навук

**Алесь СУША,**
**фота аўтара**

**Багатая і шматгранная культурная спадчына Беларусі можа быць цудоўным доказам развітасці, самабытнасці айчыннай культуры. Таму зберажэнне і прымнажэнне сваіх культурных і нацыянальных каштоўнасцей, захаванне ўласнага аблічча, характэрных рыс нацыянальнай культуры з'яўляецца першачарговай задачай нашай краіны.**
**На вялікі жаль, да сёння ацалела не такая ўжо вялікая частка нацыянальнай спадчыны. Ды і з таго, што ацалела, ці не большая частка зберагаецца па-за межамі Беларусі.**



У найбольшай ступені гэтыя словы датычаць кніжнай спадчыны. Паводле падлікаў спецыялістаў, у Беларусі сёння захоўваецца не больш як траціна беларускіх кніжных помнікаў. У сувязі з гэтым вялікую цікавасць уяўляюць зборы найбуйнейшых бібліятэк суседніх дзяржаў, дзе акурат і асела вялікая колькасць кніжных помнікаў беларускага паходжання.

Каб асвятліць багацце калекцый беларускай кнігі ў замежных кнігазборах, на старонках газеты "Літаратура і мастацтва", пачынаючы з гэтага артыкула, будуць з'яўляцца матэрыялы пад назвай "Беларусіка ў замежных зборах". А пачаць нам хацелася б з кароткага апісання калекцый, верагодна, самай блізкай да Беларусі бібліятэкі, як у геаграфічным, так і ў культурным плане — Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук, якая з 2009 года носіць імя Урублеўскіх. Яна знаходзіцца менш як у 200 кіламетрах ад беларускай сталіцы — у старадаўнім горадзе Вільні — палітычнай і культурнай сталіцы колішняга Вялікага Княства Літоўскага.

Размясціўшыся ў прыгожым будынку на высокім беразе Віліі, яна сабрала адну з найлепшых у сучаснай Літоўскай Рэспубліцы калекцыю рукапісаў і старадрукаваных выданняў. Многія з іх маюць самае непасрэднае дачыненне да Беларусі і беларускай культуры.

Сама бібліятэка даволі маладая. Яна была заснаваная ў 1941 г. як Цэнтральная бібліятэка Акадэміі навук Літоўскай ССР. Гэта адбылося праз два гады пасля таго, як Вільня і Віленскі край былі аддзелены ад Беларусі і перададзены Літве, і праз год пасля далучэння Літвы да СССР. Аснову бібліятэкі склалі калекцыі Евангелісцка-рэфарматарскага сінода, які кіраваў пратэстанцкай царквою ў ВКЛ з XVI ст. (налічвала 18 тысяч дакументаў), Дзяржаўнай бібліятэкі Яўстафія і Эміліі Урублеўскіх, створанай у 1925 г. "пры паляках" (каля 180 тысяч дакументаў) і некаторых іншых збораў.

На сённяшні дзень Бібліятэка Урублеўскіх з'яўляецца адной з найбуйнейшых у Літве. Яе зборы налічваюць больш як 3,7 мільёнаў дакументаў, у тым ліку болей 250 тысяч рукапісных дакументаў, каля 200 тысяч рэдкіх і старадрукаваных выданняў, 160 тысяч гэтак званай старой перыёдыкі. Для параўнання, у 9-мільённым фондзе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі захоўваецца толькі каля 80 тысяч рукапісаў, рэдкіх і старадрукаваных выданняў, прычым самыя раннія дакументы датуюцца XIV ст. (славянскія — XVI ст.). У Літоўскай жа акадэмічнай бібліятэцы зберагаецца значная колькасць пергаментаў (у Беларусі іх амаль няма), у тым ліку кірылічныя граматы XV—XVI ст., славянскія рукапісы, пачынаючы з XI ст., і многія іншыя вельмі каштоўныя помнікі. Калі казаць пра найбольш даўнія творы пісьменства ў зборах гэтай бібліятэкі, то можна згадаць калекцыю клінапісных таблічак, якія былі створаны задоўга да пачатку нашай эры.

Але звернемся да беларусікі, якою Віленская акадэмічная бібліятэка надзвычай багатая. І спынімся найперш на рукапісах, якія захоўваюцца структуравана ў асобных калекцыях. Адну з іх складае калекцыя рукапісаў колішняй Віленскай публічнай бібліятэкі, у якую пасля падаўлення паўстання 1863 г. сцякаліся каштоўныя кніжныя зборы закрытых беларускіх манастыроў — і праваслаўных (перад тым уніяцкіх — найперш Жыровіцкага, Віленскага, Супрасльскага), і каталіцкіх. У выніку за кароткі перыяд Віленская публічная бібліятэка сабрала ў сваіх фондах найбагацейшыя калекцыі кніжных помнікаў часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Вялікая іх частка пазней трапіла ў акадэмічную бібліятэку і сёння зберагаецца адразу ў некалькіх фондах аддзела рукапісаў.

Сярод іншага праз Віленскую публічную бібліятэку ў зборы Бібліятэкі Урублеўскіх трапілі такія каштоўныя помнікі, як Тураўскае евангелле XI стст. (адзін з самых старажытных кірылічных рукапісаў) і Мсціжскае евангелле XIII—XIV стст. (што паходзіць з Міншчыны), Супрасльскі і Слуцкі сінодзікі XVI—XVII стст., Хроніка Супрасльскай лаўры XVI—XVII стст., апісанне межаў ВКЛ і Польшчы 1546 года, інвентар Друцкага замка XVII ст., каралеўскія і прыватнаўласніцкія прывілеі, фундушы, тастаменты, дыярыушы, шматлікія рукапісы навуковых



і мастацкіх твораў, іншыя гістарычныя дакументы пра беларускія гарады, мястэчкі, маёнткі, замкі, манастыры, цэрквы, епархіі, пра асобных палітычных і культурных дзеячаў.

Пасля ліквідацыі славутага Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча, які быў створаны акурат 90 гадоў таму і да 1945 года ўяўляў сабою адзін з найважнейшых беларускіх культурных асяродкаў у Вільні, яго багатыя калекцыі былі падзеленыя паміж рознымі ўстановамі Беларусі і Літвы. Вялікая і надзвычай каштоўная частка дакументальнай спадчыны трапіла менавіта ў зборы нядаўна створанай Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук. Гэта калекцыя сёння налічвае ажно 2309 помнікаў, створаных у XV — сярэдзіне XX ст. Яна ўключае старажытныя беларускія рукапісы, архіўныя дакументы, аўтографы вядомых і зусім невядомых помнікаў "новай беларускай літаратуры" XIX — пачатку XX ст., унікальныя калекцыі беларускіх кніжных і перыядычных выданняў, выпушчаных у Расійскай Імперыі, у зоне нямецкай акупацыі падчас сусветных войнаў, у Савецкай Беларусі і на "ўсходніх крэсах" міжваеннай Польшчы.

На прыкладзе названых дзвюх калекцый бачна, наколькі багата беларускага матэрыялу ў зборах Бібліятэкі Урублеўскіх. А калекцый такіх нямала. Напрыклад, вельмі многа помнікаў беларускага паходжання зберагаецца ў фондах Літоўскай праваслаўнай кансісторыі, Курыі Віленскай мітраполіі, філаматаў і філарэтаў, асобных вялікіх калекцыях летапісаў, інвентароў, малюнкаў і эскізаў, планаў і чарцяжоў, музычных і літаратурных рукапісаў, архіўных дакументаў, а таксама ў фондах асабістага паходжання У. Сыракомлі, М. Балінскага, Ю. Крашэўскага, Сапегаў, Тышкевічаў, Нарбутаў, Плятэраў і інш.

Не менш багатыя ў Бібліятэцы Урублеўскіх таксама і зборы друкаванай кнігі. Стардрукаваныя выданні прадстаўлены калекцыямі з 63 інкунабул (выданняў XV стагоддзя), каля 600 палеатыпаў (выданняў першай паловы XVI ст.), вялікімі зборамі кніг на літоўскай мове, літуанікі (кніг не на літоўскай мове, выдадзеных у ВКЛ ці звязаных тэматыкай або аўтарствам з ВКЛ), кірылічных друкаваных кніг, заходнееўрапейскіх выданняў.

Сярод іншага ў зборах Бібліятэкі Урублеўскіх захоўваюцца выданні славянскага першадрукара Швайпольта Фіёля, слыннага сына Полацкай зямлі Францішка Скарыны, беларускіх праваслаўных, каталіцкіх, уніяцкіх і пратэстанцкіх пісьменнікаў-палемістаў (якія амаль не захаваліся ў Беларусі), творы асветнікаў, навукоўцаў, царкоўных дзеячаў. Кнігі з гэтай бібліятэкі дазваляюць ацаніць дзейнасць амаль усіх беларускіх друкарань, якія існавалі ў XVI—XVIII стст.

Пабачыўшы на ўласныя вочы багацце кніжнай культуры нашых продкаў, уже немагчыма сумнявацца ў перспектывах беларускай кнігі. У гэтым і ёсць адно з важнейшых прызначэнняў спадчыны — праз мінулае бачыць будучыню. У такой сітуацыі мы павінны выказаць вялікую ўдзячнасць нашым літоўскім калегам за іх цікавасць, павагу і клапатлівае стаўленне да кніжнай спадчыны, якую лічаць для сябе вельмі блізкай і роднай многія народы, за тое, што яны дапамаглі захаваць культурныя набыткі нашых агульных продкаў.

***На здымках: пераплёт Мсціжскага евангелля; часаслоў Швайпольта Фіёля (1491) са збораў бібліятэкі.***

P.S.

*Намаганні супрацоўнікаў Бібліятэкі Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук былі высока ацэненыя на міжнародным узроўні, і сёння бібліятэка валодае некалькімі дыпламамі Праграмы ЮНЕСКА "Памяць свету", якія пацвярджаюць культурную значнасць збораў бібліятэкі. Да таго ж, Бібліятэка Урублеўскіх з'яўляецца актыўным удзельнікам нацыянальнага праекта "Paveldas" ("Спадчына"), які скіраваны на стварэнне лічбавых дэпазітарыяў культурнай спадчыны Літвы. У межах гэтага праекта ў адкрытым доступе ўжо з'явілася вялікая колькасць каштоўных кніжных помнікаў, некаторыя з якіх цесна звязаныя з беларускай культурай. І гэта толькі пачатак…*

**А.С.**

# Якім быць альманаху бібліяфіла?

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

**Магчыма, і не зусім правільна шырока рэкламаваць яшчэ не рэалізаваны творчы праект, што мы ў апошні час робім дастаткова мэтанакіравана і ўсвядомлена ў дачыненні да мяркуемага выпуску альманаха бібліяфіла. І ўсё ж…**

Справа тут у наступным. Выданне калектыўнага зборніка ці тым болей кніжнага альманаха, разлічанага на штогадовы выпуск, — справа дастаткова складаная. Рэалізацыя яе патрабуе шырокай грамадскай ініцыятывы, усебаковага абмеркавання. Не выключана — калегіяльнага рашэння ў падборы матэрыялаў, вызначэнні зместу. Нагадаем, якім жа мы збіраемся бачыць у РВУ "Літаратура і Мастацтва" спраектаваны пакуль што ў агуле альманах бібліяфіла, якія праблемна-тэматычныя кірункі нас як выдаўцоў цікавяць у кантэксце работы над мяркуемым зборнікам. Аналізуючы вопыт папярэднікаў у Расіі і Беларусі, асабліва ўважліва аглядаючы змест ленінградскага "Альманаха бібліяфіла" 1929 г., мы скіроўваем сваю ўвагу да наступных тэматычных плыняў: 1. Гісторыя, тэорыя, тэхніка кніжнага мастацтва. У Беларусі ёсць усе падставы для размовы на гэтую тэму. 2. Кнігазбіральніцтва. Праблемы і вопыт фарміравання прыватных і грамадскіх кнігазбораў. 3. Бібліяфілы. Мяркую, што гэты раздзел павінен быць ці не самым насычаным ужо таму, што наспела патрэба аддаць даніну павагі тым людзям, для якіх кніга была галоўнай каштоўнасцю. Асаблівай увагі патрабуе параўнальна блізкая гісторыя 1940 — 1980-х гг. Шмат якія імёны не ўведзены ў кантэкст гісторыі кнігі на Беларусі, застаюцца вядомымі толькі ў вузкіх асяродках кніжнікаў.
4. Кніжны гандаль. Кнігарні Мінска і іншых гарадоў. Пачатак мінулага стагоддзя. Беларускія кнігарні Вільні і Заходняй Беларусі. 5. Ілюстраванне кнігі, работа гравёраў і літографаў. 6. Дзяржаўныя, прыватныя кнігасховішчы. Якой была Нацыянальная бібліятэка ў 1920 — 1930-ыя гг.? Вытокі фарміравання абласных бібліятэк у Гродне, Мінску, Брэсце і інш. гарадах краіны. 7. Гісторыя асобных кніг. 8. Мастацкія творы пра кнігу. 9. Беларуская кніга ў свеце. 10. Неад'емнай часткай "Альманаха бібліяфіла" стане бібліяфільская хроніка асноўных кніжных падзей у сучаснай Беларусі.

Застаецца самае простае і разам з тым складанае — сабраць гэтую кнігу, укласці яе і, магчыма, абмеркаваць гатовы ўжо змест шырокім кніжніцкім супольніцтвам. Трэба заўважыць, што партфель зборніка (ідуць, праўда, спрэчкі на тэму назвы: ці то будзе гэта паўтор выдадзенага ў 1989 годзе альманаха "Свіцязь", ці, можа, новая кніга — па прапанове прафесара Адама Мальдзіса — стане "Свіцязянкай") пакрысе збіраецца. Будзем спадзявацца на паспяховае завяршэнне працы і самы шырокі ўдзел у гэтай справе бібліятэкараў краіны.

# Пачуць свае крокі

## Вандроўка па Львове

Мара НАРЧУК,
фота аўтара

**Львоўская нацыянальная навуковая бібліятэка імя Васіля Стэфаніка — адна з буйнейшых ва Украіне. Як і большасць першых беларускіх, яна складалася спачатку з прыватных збораў. Фонды яе папаўняліся, што асабліва цікава для нас, кнігамі з многіх калекцый, у ліку якіх значыцца і прозвішча Сапегаў. Памяшканне было пабудавана ў 1651—1677 гг. як касцёл і манастыр ордэна кармелітак. Пасля было перабудавана пад кніжніцу. Нейкі час там функцыянавала польскае навуковае таварыства. Падчас Вялікай Айчыннай вайны частка фондаў вялікай ужо Львоўскай бібліятэкі была эвакуіравана ў Кракаў. Так акрэслілася лінія агульных лёсаў людзей і кніг у Польшчы, Беларусі і Украіне. На гэтую асаблівасць звярнула ўвагу і студэнтка БДПУ імя Максіма Танка, распачаўшы свой інтэлектуальны турыстычны маршрут.**



Нярэдка пішуць артыкулы пра беларускую Вільню ці Прагу, а я падумала: чаму б не напісаць пра беларускі Львоў? Львоў — гэта ўсяго 700 км ад Мінска і нейкія 315 — ад Брэста: несур'ёзна для людзей, якія ездзілі на тысячакіламетровыя адлегласці. Таму натуральна, што ў Львоў беларусы і беларускае даходзілі здаўна і часта. Я вось — ужо трэці раз.

Ідэя напісання артыкула пра беларускі Львоў з'явілася раптоўна — аказалася, што самы неверагодны напамін пра беларушчыну хаваецца ў назве горада. Не заўсёды яна (назва) заканчвалася так нечакана. Калісьці ўсе жыхары называлі свой горад Львiў, а ўжо шмат пазней, з-за ўплыву рускай мовы, на канцы слова замацавалася цвёрдае "в". Хто ведае, можа не адны мы ганарыліся б Ў на старонках алфавіта. І менавіта з гэтае акалічнасці я пачала назіраць за крокамі па Львове і разумець, як недалёка ад дому я знаходжуся.

Амаль прыкарпацкі горад мае надзвычай цікавую і заблытаную гісторыю. На лёс Львова выпадала быць сталіцай Галіцка-Валынскага княства, сталіцай Рускага каралеўства як аўтаномнай адміністрацыйнай адзінкі Польшчы, сталіцай Рускага ваяводства, сталіцай Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, сталіцай Заходне-Украінскай народнай рэспублікі, адміністрацыйным цэнтрам Львоўскай вобласці УССР і шмат якіх іншых прыгод і гістарычных абавязкаў. Бо насамрэч, каму толькі не належалі землі Львоўшчыны: Вялікамараўскаму княству, Польшчы, Кіеўскай Русі, Рэчы Паспалітай, Аўстра-Венгерскай імперыі. Таму, прыняўшы ўсё гэта да ўвагі, мяне зусім не здзіўляе, што на плошчы ўкраінскага горада стаіць помнік беларусу па паходжанні з польскай шыльдачкай "Adam Mickevicz". З тым, што Адам Міцкевіч — славянскі геній, згодныя ўсе. Ёсць у Львове месца, дзе можна танна набыць кнігі на ўкраінскай і рускай мове, старыя кружэлкі, колішнія часопісы. Знаходзіцца яно па правую і левую нагу помніка Івану Фёдараву (Федаровічу), хаця, вядома, перад ім і за яго спінай таксама. Дзякуючы яму мы таксама звязаныя з Львовам. Можа быць, ён, як і Міцкевіч, нарадзіўся ў Беларусі — да такой высновы прыйшлі некаторыя вучоныя, даследаваўшы друкарскі знак Фёдарава з пункту гледжання геральдыкі. Гэта ўсё, што мы маглі б сказаць пра міжкультурныя сувязі, калі б не ганенні царквы, праз якія Фёдараў і Мсціславец вымушаныя былі пакінуць Маскву і накіравацца да нас. І вось у 1569 годзе, у Заблудаве, маёнтку гетмана ВКЛ Рыгора Хадкевіча, надрукавана "Евангелле вучыцельнае" — зборнік гутарак і павучанняў з тлумачэннем евангельскіх тэкстаў. У ім змешчана таксама "Слова на Ушэсце" Кірылы Тураўскага — першы друкаваны помнік старажытнай усходнеславянскай літаратуры. На адвароце тытульнага аркуша ёсць герб Хадкевіча. Пасля ад'езду Мсціслаўца ў Вільню Фёдараў надрукаваў у Заблудаве Псалтыр з Часасловам, а ў канцы кнігі змяшчалася Пасхалія ў табліцах. Складаючы яе, Фёдараў, відаць, выкарыстаў Пасхалію з "Малой падарожнай кнігі" Францыска Скарыны, таксама нашага земляка.

Са Львовам звязаны вандроўкі Алаізы Пашкевіч — Цёткі, беларускай паэткі, пісьменніцы, публіцысткі, адной з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Яна была запрошана туды вядомым украінскім славістам, знаўцам беларускай літаратуры І. Свяніцкім, які спрычыніўся да выдання паэтычных кніг Цёткі "Хрэст на свабоду" і "Скрыпка беларуская". Пры яго дапамозе кнігі пабачылі свет у выдавецтве Базыльянскага манастыра у мястэчку Жоўква, што недалёка ад Львова. Здарылася гэта ў 1906 годзе, калі Цётка, дбаючы пра асвету свайго народа, ужо рыхтавала да выдання "Першае чытанне для дзетак-беларусаў". Не толькі па выдавецкіх справах Цётка наведвала Львоў. У 1909-1910 годзе яна была "надзвычайнай" слухачкай філасофскага факультэта Львоўскага ўніверсітэта. Цётка падавала прашэнне пра залічэнне яе ў "звычайныя" слухачкі (гэта значыць, на стацыянарнае аддзяленне) і брала ўрокі грэчаскай мовы ў І. Свяніцкага, каб здаць іспыт. Трэба сказаць, што Алаіза дасягнула сваёй мэты і нарэшце ў 1912 годзе стала "звычайнай" слухачкай універсітэта.

У Львове яшчэ шмат беларускіх куточкаў: на царкве св. Андрэя можна пабачыць "Пагоню" і герб Радзівілаў — падзяка караля Рэчы Паспалітай за абарону горада ад войска Б.Хмяльніцкага, магілкі паўстанцаў 1864 г. на Лічакоўскім цвінтары. Беларусы навучаліся ў Львоўскім нацыянальным універсітэце, які цяпер носіць імя Івана Франко. Тры курсы на філалагічным факультэце правяла беларуская пісьменніца Валянціна Коўтун. Сёння, што вельмі прыемна, на факультэце славянскіх моў для вывучэння можна абіраць таксама і беларускую.

Кожны год у Львове праходзяць Дні культуры Беларусі, беларусы актыўна прымаюць удзел у Форуме выдаўцоў, беларуская дыяспара Львоўшчыны налічвае каля 10 тысяч чалавек. А я распавяла толькі пра самыя вядомыя факты. З любоўю да Беларусі і Украіны (і да Львова перш за ўсё) я спадзяюся, што стасункі паміж нашымі краінамі будуць яшчэ больш шчыльнымі, і нагоды для напісання артыкулаў такой тэматыкі стане больш.

***На здымках: помнік Адаму Міцкевічу быў адкрыты ў 1904 г. у прысутнасці сына паэта — Уладзіслава Міцкевіча; помнік Івану Фёдараву ў Львове.***



## Першы крок

## «У бібліятэку іду, як у храм»



**Пасля таямнічых казак, расказаных бацькамі, пасля першай сваёй кволай спробы прачытаць па складах словы ўлюбёнай казачнай гісторыі, — пасля ўжо настае той самы неабходны момант пошуку. Калі ад сваёй хатняй бібліятэкі чалавек ідзе "ў людзі": шукаць новых кніг і ўражанняў. І тым самым вызначае надалей кірунак інтэлектуальнага, духоўнага развіцця сябе самога ў сусвеце ведаў.**

**Ці помняцца гэтыя крокі? Чым яны становяцца ў жыцці?**

**Пра свой першы кнігазнаўчы досвед распавядае старшыня Мінскага гарадскога аддзялення, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась ПАЗНЯКОЎ:**

— Гэта было ў першым класе пачатковай школы ў маёй роднай вёсцы Заброддзе. Выходзячы з сённяшніх пазіцый, бібліятэкаю яе, відаць, было назваць цяжка. Таму што гэта невялічкая школьная бібліятэчка, дзе налічвалася мо сотні дзве кніжак — але гэта былі асобнікі самыя неабходныя і цікавыя. Памятаю сярод іх кнігі Янкі Маўра, Янкі Брыля, Аляксандра Пушкіна, Даніэля Дэфо і славутую, знакамітую і, лічу, вечную нашу кнігу — "Ніколі не забудзем". Пасля настаўнік, адчуўшы маю прагу да чытання, дазволіў самому падыходзіць да паліц, перабіраць кнігі, браць іх у рукі. Гэтая бібліятэка запомнілася на ўсё жыццё — адмысловым святлом ад сустрэчы. Пасля я наведваў бібліятэку ў Глухскай сярэдняй школе роднага Быхаўскага раёна, раённую бібліятэку; калі стаў студэнтам — Нацыянальную ў Мінску. Былі і іншыя гарадскія бібліятэкі. Яны для мяне адкрылі свет усяго назапашанага ў нашай культуры, літаратуры.

Таму для мяне бібліятэка — гэта, безумоўна, сапраўдны храм культуры. Гэта невычэрпная крыніца ведаў, бясцэнная скарбніца духоўных каштоўнасцей, якія назапашваюцца гадамі і якія ўтрымліваюць усё самае незвычайнае, самае багатае, разумнае, мудрае, што стварыла чалавецтва за сваю гісторыю.

Бібліятэка шчодра дорыць нам свае векавыя багацці, дорыць кожнаму, хто прыхінецца да яе і сэрцам, і душой. Гэта і месца незабыўных літаратурных сустрэч, святаў, прэзентацый. І значнай работы з Яе Вялікасцю Кнігай. У бібліятэцы працуюць незвычайныя людзі, тут застаюцца людзі, якія па-сапраўднаму любяць сваю справу, высокапрафесійныя, духоўна адораныя, шчырыя і апантаныя. Бібліятэкі сёння — не толькі культурныя ўстановы, але і значныя сацыяльныя інстытуты. Сучасная бібліятэка фарміруе кніжныя фонды, і, безумоўна, яна ўплывае на тое, што чытае малады чалавек і што будзе чытаць наш наступнік.

Бібліятэка сёння — і адна з цаглінак у падмурак нашай дзяржаўнасці. Не варта забывацца: кніжніцы сёння праводзяць вялікую асветніцкую, культурную работу з чытачамі і тым уносяць свой адметны уклад у вывучэнне нашай агульнай гісторыі і фарміраванне светапогляду чытачоў.



**У Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры завітала выстаўка "Сцяжынкамі майстэрства" Цэнтра эстэтычнага выхавання пры аддзеле культуры Вілейскага райвыканкама. Яна ладзілася ў межах праекта "Рэгіёны", які скіраваны на папулярызацыю літаратурна-мастацкай спадчыны рэгіёнаў Беларусі. Гэты праект распачаўся ў студзені бягучага года са знаёмства з культурай Случчыны, якая заўсёды была багатая на таленты.**
**Дадзеную акцыю працягвае Вілейшчына: першага чэрвеня ў музеі адбылася прэзентацыя праграмы, на якой выступіў народны калектыў аўтарскай песні "Элегія", а цяпер новая сустрэча — з тамтэйшымі студыямі Цэнтра эстэтычнага выхавання.**

**Віктар КАВАЛЁЎ,**
**фота аўтара**

# Нараджаецца творчасць у цeрамку

Дырэктар музея Лідзія Макарэвіч адзначыла, што галоўныя задачы праекта — азнаёміць з культурай, набыткамі, народнай творчасцю, прадставіць родныя мясціны, літаратурна-мастацкія традыцыі, падтрымаць пераемнасць пакаленняў.

Таццяна Захарыч, дырэктар Цэнтра эстэтычнага выхавання пры аддзеле культуры Вілейскага райвыканкама, у сваю чаргу падкрэсліла, што яны заўсёды імкнуцца папулярызаваць багатыя, цудоўныя гісторыка-культурныя традыцыі рэгіёна. Цэнтр створаны ў 1990 годзе з мэтай знаёмства з каштоўнасцямі нацыянальнай і сусветнай культуры, авалодвання эстэтычнымі ведамі па розных відах мастацтва, народных рамёстваў, краязнаўства. Ён быў утвораны ў межах рэспубліканскага эксперымента па эстэтычным выхаванні дзяцей, запачаткаванага міністэрствамі культуры і адукацыі. Цэнтр знаходзіцца ў невялікім драўляным будынку, які ўсе насельнікі між сабой ласкава называюць "церамок". За дваццаць гадоў зроблена шмат творчых знаходак, праведзена мноства выставак, святаў, фестываляў, конкурсаў.

У Цэнтры эстэтычнага выхавання працуе некалькі клубных фарміраванняў: два з найменнем "народны", тры аматарскія аб'яднанні і дзевяць студый. Сярод апошніх — народныя студыі арыгамі "Чароўны квадрат" ды "Жураўлік" (кіраўнік А. Шахрай), студыі выяўленчага мастацтва "Чарадзейка" і "Вясёлка" (кіраўнік С. Хазава), студыя мяккай цацкі "Рукадзельніца" (кіраўнік Т. Малькевіч), студыі роспісу "Маляванка" ды "Маляваначка" (кіраўнік А. Суднікові) і іншыя. Мастацкія калектывы цэнтра — удзельнікі, дыпламанты і лаўрэаты абласных, рэспубліканскіх, міжнародных конкурсаў, дабрачынных акцый. Працуюць у розных кірунках: маральна-духоўны, гісторыка-краязнаўчы... Шмат традыцый усталявалася за гэты час, прыкладам, многія выпускнікі цэнтра працягваюць навучанне ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установах адпаведнага профілю. Сумесна з Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў ладзяцца даследчыя этнаграфічныя экспедыцыі з навуковай групай кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пад кіраўніцтвам мастацтвазнаўца прафесара Рыгора Шауры.



На выстаўцы, якая месцілася ў некалькіх пакоях музея, прыцягвалі ўвагу вырабы народнай студыі мяккай цацкі "Пушысцікі" і студыі роспісу "Маляваначка". "Пушысцікі" былі ўтвораныя з пачатку заснавання цэнтра. У студыі работа вядзецца ў розных кірунках: вырабляюць батлеечных, пальчатачных лялек, народных лялек з ужываннем асаблівасцей рэгіянальнага вілейскага касцюма, для чаго цесна супрацоўнічаюць з Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеем. Каб даць лялькам жыццё, спачатку ўключаецца ўяўленне, потым ідуць прапрацоўка, малюнак-эскіз і сама работа. У экспазіцыі прадстаўлены творы як выхаванцаў, так і кіраўнікоў. Таццяна Малькевіч зазначыла, што па добрай традыцыі яны дораць дзятве самаробныя цацкі. Заўважылі, што на магазінныя дзеці адразу забываюцца, літаральна не выпускаюць падарункі з рук, спяць разам з імі. Бо ўсе лялькі аўтарскія, адзінкавыя, створаныя ад усёй душы.

Уражвалі творы народнай студыі арыгамі "Чароўны квадрат". Па запрашэнні Пасольства Японіі ў Беларусі студыя брала ўдзел у выстаўцы, прысвечанай культуры і быту Японіі. Узровень аўтарскіх і калектыўных работ юных арыгамістаў прыемна ўразіў прадстаўнікоў краіны, якая падаравала свету гэтае захапляючае мастацтва. Сярод іншых вылучаліся творы Івана Барбука (ці, як яго прадстаўлялі, — Івана Івановіча-чацвёртага, бо ў яго сям'і існуе традыцыя: старэйшага сына называць імем Іван). Ён пачаў займацца арыгамі ў 14 год і вось ужо 10 гадоў не пакідае гэты занятак. Філігранная тэхніка выхаванцаў уражвае: стварыць фігуру, характар, вобраз аднымі толькі складкамі, не ўжываючы ні нажніц, ні клею, вельмі складана. А свет арыгамі вельмі разнастайны. Ён уключае ў сябе навуку і тэхналогію, культуру і мастацтва, творчасць і рамяство…

На прэзентацыі выстаўкі выхаванцы студыі гульнёвых і абрадавых прадстаўленняў "Вілейскія забаўлянкі" (кіраўнік Аляксандра Лапацкая), якія нядаўна прыехалі з абласнога фестывалю "Купальскія пацехі", дзе былі ўзнагароджаныя дыпломам, паказалі адмысловую праграму паводле творчасці Кандрата Крапівы, прысвечаную яго юбілею.

***На здымках: работа Вікторыі і Ксеніі Завадскіх (мастак народнай студыі арыгамі Іна Занкевіч); Ларыса Арол "Зюзя".***

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

## Вяселле — народная опера

У польскім горадзе Гайнаўка, дзе пражывае шмат этнічных беларусаў, восьмы год запар праводзіцца міжнародны Падляшска-Палескі фестываль адпаведна каляндарнаму цыклу. Сёлетні меў назву "Там, па майскай расе". Дарэчы, у Беларусі гэтае свята адпавядае святому Юр'ю. Напрыклад, у Моталі Іванаўскага раёна ў гэты дзень вернікі хадзілі на расу маліцца Богу.

Арганізацыяй фэсту ў Польшчы займаецца цудоўны чалавек, надзвычай улюбёны ў фальклор і даўніну Дарафей Фенікс. Разам з мясцовымі беларусамі ён збірае і захоўвае ўсё, што звязана з народнымі звычаямі і дзейнасцю народных майстроў. Кожны год гэты апантаны чалавек запрашае прадстаўнікоў таго ці іншага раёна Брэстчыны, каб яны паказалі ў Польшчы народную культуру свайго рэгіёна. Сёлета запрашэнне атрымалі тры калектывы з Іванаўскага раёна, у тым ліку народны этнаграфічны тэатр "Мотальскія суседзі".

— Фэсты ў Гайнаўцы праводзяцца вельмі цікава, шчыра кажучы, нам ёсць што пераняць у польскіх беларусаў, — дзеліцца ўражаннямі дырэктар музея народнай творчасці ў аграгарадку Моталь і кіраўнік "Мотальскіх суседзяў" Вольга Мацукевіч. — Усе ўдзельнікі свята на працягу трох дзён прайшліся з карагодам па вуліцах адзінаццаці вёсак. Усюды нас вельмі цёпла сустракалі. У адзін з дзён мы паказалі, як праводзіцца на Іванаўшчыне вяселле. Тым больш, што палескае вяселле — гэта вялікая народная опера, дзейства якой пачынаецца задоўга да самой урачыстасці. Мы ж пазнаёмілі прысутных з абрадам "Прыдана", гэта калі нявесту прывозяць у дом жаніха. Таксама найцікавейшае дзейства. Усе нашы выступленні суправаджаліся пачастункамі. Прынамсі, у "Прыданых" ёсць такі момант, калі нявеста выступае ўжо як паўнапраўная гаспадыня і запрашае гасцей адведаць мотальскія прысмакі.

Галоўнае, не было ніякіх перашкод у зносінах. Польскія беларусы размаўлялі на такой жа мове, што і палешукі, спявалі адны і тыя ж песні, а гледачы не хацелі разыходзіцца, так захапіла іх майстэрства самадзейных артыстаў і аўтэнтычная творчасць, карані якой сягаюць у сівую даўніну.

**Раіса МАРЧУК,**
**Іванаўскі раён**

## Экзотыка ў Мядзелі

Незвычайная экзатычная выстаўка пад назвай "Хай расквітнее сто кветак..." прайшла нядаўна ў Мядзельскім музеі народнай славы. Жыхары і госці райцэнтра мелі магчымасць пазнаёміцца з касцюмамі нацыянальных меншасцей Кітая з фондаў пасольства КНР у Беларусі.

— Выстаўка была цікавая тым, што на ёй дэманстраваліся ўзоры культуры, не падобнай да нашай, — расказала дырэктар музея Святлана Чарняўская. — У народнасцей Кітая шмат такіх дэталей адзення, якіх у нас проста няма. А дадайце сюды незвычайныя яркія колеры, мудрагелістыя ўзоры...

Дапаўнялі экзатычную атмасферу выстаўкі традыцыйныя кітайскія ліхтары. Супрацоўнікі музея цікава распавялі пра тое, якія народнасці жывуць у Кітаі, чым адрозніваецца іх побыт і традыцыі.

Безумоўна, такія мерапрыемствы збліжаюць нашы народы.

**Алесь ВЫСОЦКІ,**
**г. Мядзел**

## Афарызм

*Самая страшная пасля прагнасці чалавечая загана – нецярпімасць.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2801
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 21.07.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3469
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12